—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
10
КРАСАВІКА
1992 г.
№ 15 (3633)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 50 кап.
[Па падпісцы — 10 кап.]





На струнах весніх...

Фота А. МАЦЮША.

# Кола Дзён

**2 КРАСАВІКА**

Мінуў год з пачатку красавіцкіх страйкаў у Мінску і іншых гарадах Беларусі, выкліканых «паўлаўскім» павышэннем цэн. Павелічэнне зарплаты, якога дамагліся тады рабочыя, як вядома, даволі хутка было зведзена на нішто інфляцыяй...

Гадавіне тых падзей, а таксама іх урокам і праблемам рабочага руху быў прысвечаны мітынг на плошчы Незалежнасці (летась яна яшчэ называлася плошчай Леніна). Ён быў арганізаваны Свабодным прафсаюзам Беларусі сумесна з Мінскім стачкамам. Спробы неакамуністаў сарваць мітынг скончыліся няўдачай для іх. На мітынгу абмяркоўваліся магчымыя дзеянні незалежных прафсаюзаў ва ўмовах паглыблення эканамічнага і палітычнага крызісу ў рэспубліцы. У ім узялі ўдзел і прадстаўнікі бастуючых шахцёраў Салігорска. Гарнякі (частка іх працягвае галадоўку пратэсту) дамагаюцца ад урада тарыфнага пагаднення на прынцыпова новых пачатках.

Тым часам прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь В. Кебіч правёў перамовы ў Вільні з кіраўніцтвам Літоўскай Рэспублікі. Разам з прэм'ер-міністрам Літвы Г. Вагнорусам В. Кебіч падпісаў Пагадненне аб прынцыпах гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва паміж дзвюма рэспублікамі на 1992 год.

**3 КРАСАВІКА**

Кіраўнікі ўрадаў краін СНД звярнуліся да сваіх калег у Расіі з афіцыйнай просьбай — устрымацца ад лібералізацыі цэн на нафту, нафтапрадукты і іншыя энерганосьбіты на перыяд пасяўной і ўборачнай кампаніі (да 1 кастрычніка гэтага года). Ёсць звесткі, што ўрад Расійскай Федэрацыі пайшоў насустрач. Але ці ёсць гарантыі цывілізаваных паводзін з боку газа- і нафтаздабытчыкаў карпарацый і канцэрнаў Расіі — сказаць цяжка.

**4 КРАСАВІКА**

Парламентарыі Беларусі і Літвы сустрэліся ў Мінску, каб абмеркаваць праблемы беларусаў, што жывуць у суседняй рэспубліцы, і літоўцаў, якія жывуць на Беларусі. Дэлегацыю Літоўскай Рэспублікі ўзначальваў старшыня Дзяржкамісіі па рэгіянальных праблемах Р. Озалас, дэлегацыю Рэспублікі Беларусь — старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па міжнародных справах П. Садоўскі. У рабоце дэлегацый прымалі ўдзел эксперты па пытаннях гісторыі і культуры.

**5 КРАСАВІКА**

Важнай культурнай падзеяй стала сустрэча ў Мінску за «круглым сталом» навукоўцаў Беларусі, Польшчы і Вялікабрытаніі. У Доме літаратара адбылася рабочая дыскусія ў рамках міжнароднай навуковай канферэнцыі на тэму «Беларусь і Вялікае княства Літоўскае».

**6 КРАСАВІКА**

У «блізкае замежжа» (як цяпер прынята гаварыць) накіраваўся міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка. Ён пабываў у сталіцах Эстоніі і Латвіі. А ў Мінск прыбыў старшыня Міжнароднага алімпійскага камітэта Х.-А. Самаранч, які сустрэўся, у прыватнасці, са старшынёй НАК Беларусі У. Рыжанковым. Як вядома, Беларусь на алімпіядзе ў Барселоне ў апошні раз выступіць у складзе «аб'яднанай каманды СНД». Пасля чаго беларускаму спорту абяцаюць зялёную вуліцу ў міжнародны алімпійскі рух. Магчыма, праблемы спорту не самыя важныя сёння. Але нельга забывацца і пра міжнародны прэстыж маладой дзяржавы. (Цікава, між іншым, — што за гімн будзе гучаць у Барселоне ў выпадку перамогі ў нейкім відзе спаборніцтваў пасланца Рэспублікі Беларусь?)

**7 КРАСАВІКА**

Аднавіла работу чарговая сесія Вярхоўнага Савета Беларусі. На ёй была заслухана справаздача Прэзідыума ВС за апошні год. Такім чынам, дэпутаты дамагліся ад Старшыні Вярхоўнага Савета С. Шушкевіча таго ж, чаго і кансерватыўная апазіцыя на расійскім з'ездзе народных дэпутатаў ад Ельцына. У Шушкевіча, зразумела, няма тых паўнамоцтваў, што ў расійскага прэзідэнта. Але метад — узваліць усю віну на асобу галоўнага кіраўніка за складаную сітуацыю, аказваецца, можа быць універсальным. Дэпутат Д. Булахаў, абвінавацііўшы С. Шушкевіча ў аўтарытарным стылі кіравання, падаў у знак пратэсту ў адстаўку з паста старшыні Камісіі па заканадаўстве.

**8 КРАСАВІКА**

У Мінску пачаўся трэці міжнародны кірмаш «Вясна-92» — першы з часоў заснавання СНД. У ім прымае ўдзел больш як тысяча гасцей — з краін Садружнасці, Балтыі, а таксама Бельгіі, Германіі, Іспаніі, Швейцарыі, Польшчы, Індыі і Кітая. Аднак пакупнікоў сярод удзельнікаў кірмашу — у 10 разоў менш за прадаўцоў. Вельмі ж «кусаюцца» цэны на тавары. А гэта, галоўным чынам, лес, папера, метал, будматэрыялы, запчасткі.

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевіч прыбыў з афіцыйным візітам у Францыю.

# Спадчынніца ВКЛ



Чым ёсць Беларусь у свеце? Краінай, аднавіўшай сваю дзяржаўную незалежнасць пасля сямідзесяці гадоў існавання ў апошняй з імперый, ці штучным утварэннем, вынікам здзяйснення ленінскай палітыкі самавызначэння нацый? Хто мы — «тутэйшыя» без мінулага і без будучыні ці народ, які на працягу стагоддзяў быў роўным сярод роўных у створанай ім дзяржаве?

Першыя крокі на шляху да пазбаўлення ад комплексу ніжэйшасці беларускія навукоўцы ўжо зрабілі. Кнігі і публікацыі Анатоля Цітова, Анатоля Трусава, Міколы Ермаловіча, Адама Мальдзіса, Юрыя Туронка, Язэпа Юхо ды іншых даследчыкаў гісторыі нашай краіны сталі падзеямі ў нацыянальным і культурным жыцці Беларусі. Сёння надышоў час падсумавання зробленага.

6—7 красавіка ў мінскім Доме літаратара працаваў «круглы стол» з удзелам беларускіх ды замежных навукоўцаў, на якім абмяркоўвалася адзінае пытанне: роля Беларусі ў Вялікім княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім — дзяржаве, якая дала пачатак сённяшнім Беларусі і Літве.

На першы дзень працы «круглага стала» прадстаўнікі органаў друку не дапускаліся, бо, паводле меркавання арганізатараў сустрэчы, навуковая нарада — не шоу, спрэчкі вучоных аб мінулым непасрэдна датычаць сённяшняга дня і таму не мела сэнсу заўчаснае публікаванне часам спрэчных поглядаў.

Нягледзячы на розніцу ў поглядах навукоўцаў з Беларусі, Англіі, Італіі ды Польшчы, згода паміж імі была дасягнута. Аб гэтым маглі пачуць прысутныя на прэс-канферэнцыі з удзелам арганізатараў сустрэчы і прадстаўнікоў навуковых устаноў розных краін, якія бралі ў ёй удзел. Якіх бы поглядаў ні прытрымліваліся гісторыкі, усе яны былі адзінымі ў наступным: утворанае ў XIV стагоддзі Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае было супольнай беларуска-літоўскай дзяржавай, нашчадкам якой ёсць сённяшняя Беларусь.

Здавалася б, ці варта надаваць такую ўвагу сустрэчы некалькіх дзесяткаў навукоўцаў, што абмяркоўвалі зусім не сенсацыйныя пытанні? Безумоўна, варта. Сёння мы павінны сказаць і сабе, і ўсяму свету: Беларусь набыла сваю дзяржаўнасць не праз абвяшчэнне БНР у 1918 і БССР у 1919 годзе, а за сотні год да таго. Дэкларацыя аб незалежнасці Рэспублікі — не частка «параду суверэнітэтаў», а вяртанне краіны ў Еўропу. Прыйдзе час, калі даследчыкамі ўсіх краін будзе напісана новая гісторыя Усходняе Еўропы. І сваё месца ў гэтай гісторыі зойме наш народ.

У. ПАНАДА.

# ЦІ ДАЛЁКА ДА РЭФЕРЭНДУМУ?

Завяршаецца збор подпісаў у падтрымку рэферэндуму адносна будучыні Вярхоўнага Савета Беларусі. Але й наяўнасць неабходных 350 тысяч подпісаў не будзе азначаць для ініцыятыўнай групы БНФ па правядзенні рэферэндуму знікнення праблем і перашкод. У гэтым можна было яшчэ раз пераканацца на прэс-канферэнцыі ў сераду ў Цэнтральнай выбарчай камісіі. Яе правёў цяперашні старшыня ЦВК А. Абрамовіч. А повадам для яе стаў нядаўні артыкул у «Народнай газеце» У. Анцулевіча і З. Пазняка, у якім рэзка крытыкавалася пазіцыя камісіі і яе старшыні.

ЦВК, па словах А. Абрамовіча, не мае намеру ўмешвацца ў палітычнае процістаянне. Яе задача — накіраваць працэс арганізацыі рэферэндуму ў рэчышча закона.

Выступленне старшыні па форме нагадвала лекцыю па юрыспрудэнцыі. А. Абрамовіч крытыкаваў, у прыватнасці, закон аб рэферэндуме як недасканалы, але разам з тым настойваў на неабходнасці яго выконваць. Была выказана вядомая ўжо ўстаноўка адносна таго, што факсімільны подпіс старшыні ініцыятыўнай групы ў падпісным лісце не можа замяняць уласнаручны подпіс. Адсюль могуць узнікнуць сур'ёзныя праблемы пры падвядзенні і праверцы вынікаў апытання...

Між тым, як стала вядома, у панядзелак, дакладна ў тэрмін, вызначаны законам, ініцыятыўная група БНФ гатова прадаставіць камісіі падпісныя лісты. Пачакаем?..

В. Т.

# ПРЭЗЕНТАЦЫЯ ІЗРАІЛЬСКАГА ЦЭНТРА

У Мінску, па вуліцы Кісялёва, 20, у апошнюю сакавіцкую нядзелю пад эгідай Ізраільскага фонду культуры і асветы ў дыяспары быў адкрыты культурна-інфармацыйны цэнтр. Ён заснаваны пры ўдзеле фондаў «Рыч» і «Азрыэль». У цэнтры наведвальнікі могуць атрымаць свежую інфармацыю з газет і часопісаў, якія выдаюцца ў Ізраілі, паглядзець відэаматэрыялы, атрыманыя з гэтай краіны. У перспектыве Ізраільскі культурна-інфармацыйны цэнтр будзе наладжваць разнастайныя мерапрыемствы, семінары і г. д.

На адкрыцці Цэнтра выступілі міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. Краўчанка, міністр культуры Рэспублікі Беларусь Я. Вайтовіч, намеснік мэра горада Мінска А. Сасноўскі, афіцыйныя прадстаўнікі Ізраіля. На вечары прысутнічалі таксама старшыня Беларускага таварыства па культурных сувязях з замежнымі краінамі А. Ваніцкі, прадстаўнікі мінскай грамадскасці.



Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Я. Вайтовіч і рабін Цухак.
Фота Б. ГІНДЗІНА.

# НАРЭШЦЕ...




Нарэшце надрукавана першая паштовая марка Рэспублікі Беларусь. На ёй выява гістарычнай рэліквіі беларускага народа — крыжа святой Ефрасінні Полацкай. Надпіс «Беларусь» зроблены кірыліцай і лацінкай. Згодна існуючай у свеце традыцыі першыя маркі суверэнных дзяржаў маюць выявы дзяржаўнага герба ці дзяржаўнага сцяга. Менавіта такімі былі першыя выпускі ўласных паштовых мініяцюр Летувы, Латвіі, Эстоніі, Малдовы. Мы ж чамусьці вырашылі быць арыгінальнымі і аддаць прыярытэт рэлігійнаму сімвалу. Праўда, па іншай версіі запланаваныя маркі з Пагоняй і бел-чырвона-белым сцягам яшчэ на эскізнай стадыі былі забракаваны спецыялістамі маскоўскага Дзяржзнака, дзе яны павінны былі друкавацца. Такім чынам марка, якая планавалася трэцяй, стала першай.

Першая марка суверэннай Беларусі вокамгненна ператварылася ў філатэлічную рэдкасць. Па крайняй меры, у Менску яе ўжо не купіш...

В. БОГУШ.

## Віншуем!

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь за высокія дасягненні ў справе нацыянальнага адраджэння, прапагандзе культурнай спадчыны беларускага народа медалём Францыска Скарыны ўзнагароджаны Генадзь КАХАНОЎСКІ, Аляксей МАРАЧКІН, Іван ЧЫГРЫНАЎ, Уладзімір ЮРЭВІЧ.

# КРЫЗІС УСТАНОЎ КУЛЬТУРЫ

«Абмеркаваўшы існуючае становішча культурна-асветных устаноў, нарада канстатуе, што большасць гэтых устаноў сёння знаходзіцца ў становішчы глыбокага крызісу, перш за ўсё з-за недахопу сродкаў для выканання сваіх непасрэдных функцый, заганнай палітыкі падаткаабкладання. Крызіс з'яўляецца прамым вынікам невыканання Закона «Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь», асабліва ў частцы фінансавання і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння ўстаноў культуры і прафсаюзных органаў рэспублікі...»

Так пачынаецца рэзалюцыя, прынятая на рэспубліканскай нарадзе работнікаў культасветустаноў, прафсаюзнага актыву і кіраўнікоў прадпрыемстваў, якія маюць ведамасныя ўстановы культуры, што адбылася ў штаб-кватэры Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.

Сапраўды, факты і лічбы, якія гучалі ў выступленнях многіх прамоўцаў, сведчылі пра заняпад культурна-асветнай сістэмы ў рэспубліцы. Загадчык аддзела Федэрацыі прафсаюзаў А. Суша прывёў, у прыватнасці, такія дадзеныя: за мінулы год спынілі сваё існаванне 45 клубаў і 101 бібліятэка, якія ўтрымліваліся за кошт сродкаў прафсаюзаў ці знаходзіліся на балансе прадпрыемстваў і арганізацый.

Дырэктар Палаца культуры і тэхнікі Мінскага аўтазавода М. Капшай, прынамсі, адзначыў, што многія асяродкі культуры вымушаны сёння станавіцца на шлях камерцыялізацыі сваёй дзейнасці, тым самым пазбаўляючы культурных каштоўнасцей і духоўных здабыткаў матэрыяльна малазабяспечаныя пласты насельніцтва, у тым ліку пенсіянераў і шматдзетныя сем'і. Разам з гэтым, узмацняецца сацыяльная безабароннасць культасветработнікаў, якія з'яўляюцца сёння адной з самых нізкааплачваемых катэгорый працаўнікоў.

У нарадзе прынялі ўдзел і выступілі намеснік старшыні ўрада рэспублікі М. Дзямчук, міністр культуры Я. Вайтовіч, народны дэпутат Беларусі, старшыня пастаяннай Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета рэспублікі Н. Гілевіч.

**НАШ КАР.**

# «Свет пасля Чарнобыля»

Міжнародны кангрэс пад такой назвай мае адбыцца ў Мінску з 13 по 17 красавіка. У яго рабоце мяркуюць прыняць удзел прадстаўнікі 300 неўрадавых арганізацый і грамадзянскіх ініцыятыў Еўропы, Амерыкі, Азіі і Аўстраліі. У арганізацыйны камітэт кангрэса ўвайшлі народныя дэпутаты Беларусі — старшыня Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» Г. Грушавы, акадэмік Я. Канапля, іераманах Віталій (Радамысльскі), член парламенцкай камісіі па Чарнобылю, урач Л. Звераў, а таксама начальнік камітэта «Дапамога дзецям Чарнобыля» Х. Ёшыкава (Японія), І. Сурвіла (канадскі Фонд дапамогі дзецям Чарнобыля), Р. Бёль (Фонд імя Г. Бёля, ФРГ)...

Згоду на ўдзел у міжнародным форуме далі У. Яварыўскі, Ю. Шчарбак (Украіна), патрыяршы экзарх Беларусі, мітрапаліт Філарэт, старшыня сойма БНФ «Адраджэнне» З. Пазняк і іншыя.

Акрамя таго, на кангрэс запрошаны прадстаўнікі ўрадавых і афіцыйных міжнародных арганізацый, якія нясуць або павінны несці адказнасць за вынікі чарнобыльскай катастрофы — такіх, як Дзяржкамчарнобыль, Міністэрства аховы здароўя, МАГАТЭ (Вена).



# ХРАМ ПАМЯЦІ

Заканчваецца чарговы тур конкурсу на помнік ахвярам генацыду ў Курапатах. У праектах, што зараз экспануюцца ў мінскім Палацы мастацтваў, своеасабліва адлюстравалася змена сацыяльна-палітычнай сітуацыі на Беларусі. Нагадаю, што напачатку трагедыя Курапатаў увогуле ставілася пад сумненне камуністычнымі ўладамі Беларусі. Потым, калі стала зразумела, што гэтае месца ў свядомасці грамадства ўжо стане святым, урад быў вымушаны абвясціць конкурс на помнік...

У першых праектах мастакі і архітэктары, ідучы ад выяўленчых стэрэатыпаў савецкага манументальнага мастацтва, скарыстоўвалі савецкую сімволіку, у прыватнасці — пяцікутныя зоркі. Што само па сабе было даволі абсурдна, бо ў Курапатах ляжаць не пакутнікі за сацыялізм, а якраз ахвяры сталінскага сацыялізму. Не менш абсурднымі былі і спробы аб'яднаць у шэрагу праектаў бальшавіцкую і рэлігійную сімволіку — зорку і крыж.



На сённяшні момант усё гэта ў мінулым. Няма болей савецкага герба і чырвонага сцяга і адбыўся рэзкі паварот да чыста рэлігійных вобразаў. Але аўтары чамусьці забываюць ці ігнаруюць тую акалічнасць, што ў Курапатах ляжаць прадстаўнікі некалькіх канфесій — праваслаўныя, каталікі, уніяты, магчыма — пратэстанты (ёсць падставы лічыць, што пад Мінскам расстрэльвалі не толькі мясцовых, але жыхароў далучанай да СССР Балтыі), беларускія татары — мусульмане, іудзеі. Між тым прапаноўваюць паставіць на месцы пакутніцтва то капліцу каталіцкага тыпу, то характэрныя для сімволікі каталіцызму «тры крыжы», то праваслаўны храм з надпісам над уваходам на рускай мове «Вечная память жертвам насилия».

Я схіляюся да думкі, што сапраўды ў Курапатах павінен паўстаць храм. Але гэта павінен быць не касцёл і не царква, не мячэць і не сінагога. І разам з тым храм павінен мець рысы ўсіх названых святынь. Я не ведаю, ці ёсць у гісторыі мастацтва падобныя пабудовы. Магчыма, што і няма. Значыць, нам давядзецца быць першымі, хто збудуе Храм памяці, які аб'ядноўвае людзей розных канфесій. Хай агульная памяць аб трагічным мінулым злучыць нас для светлай будучыні нашай Бацькаўшчыны — Беларусі.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**

На здымках У. ПАНАДЫ — конкурсныя праекты.





# МАЛІТВАЙ ЗА НАШ НАРОД...

Працягваецца святкаванне Дня Волі ў розных кутках Беларусі. 74-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі ўрачыста адзначаны на Стаўбцоўшчыне і Валожыншчыне. Вялікую вечарыну ў Стаўбцоўскім гарадскім Доме культуры арганізавала мясцовая філія БСДГ. Прысутныя хвілінай маўчання ўшанавалі памяць патрыётаў, якія аддалі жыццё за незалежнасць Беларусі. Пра цяжкі шлях роднага краю да волі зрабіў змястоўны даклад старшыня Стаўбцоўскай філіі Грамады Генадзь Пяткевіч. Шматлікая моладзь і шмат хто з дарослых, мабыць, упершыню прычыніліся да ідэалогіі нашай дзяржаўнасці, даведаліся пра стваральнікаў БНР. Прадстаўнікі выканкама цэнтральнай рады БСДГ павіншавалі са святам прысутных у зале ветэранаў нацыянальна-вызваленчага беларускага руху, былых вязняў польскіх турмаў і савецкіх ГУЛАГаў. У заключэнне вечарыны гледачоў віталі сваімі песнямі ўдзельнікі агіткалектыву Дзераўнянскай сярэдняй школы Стаўбцоўскага раёна.

Малітвай за беларускі народ пачалася вечарына ў Валожынскім раённым Доме культуры. Пасля дакладаў аб гісторыі ўтварэння БНР адбыўся вялікі канцэрт навучэнцаў школ горада Валожына, якія праспявалі беларускія народныя, патрыятычныя, рэлігійныя песні. Вечарына была арганізавана актывістамі ТБМ, БСДГ і настаўнікамі горада.

**Клім ШКАНДАР.**

ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР

# Час прыбіраць завалы

Сёлета ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выходзіць «Анталогія малдаўскай паэзіі». Адзін з яе аўтараў, Юрые Калеснік, наш сённяшні госць. Але мы з ім будзем гаварыць усё ж не пра літаратуру. Прэса і экран штодня прыносяць нам супярэчлівыя звесткі пра разрастанне ўнутранага канфлікту ў незалежнай Малдове. Што там адбываецца, з-за чаго сыр-бор, дзе вытокі гэтых недарэчных разладаў? Пад напорам такіх пытанняў паэтычная муза ветліва саступіла месца ў нашай гутарцы сваёй больш суровай гістарычнай сяброўцы.

**— Юрые, мы бачым, што незалежная Малдова выразна скіравала свае памкненні ў бок Бухарэста. Многія заяўляюць пра аб'яднанне Малдовы з Румыніяй як пра факт бліжэйшых месяцаў. І гэта наўрад ці ацэньваецца адназначна ўсімі слаямі насельніцтва вашай рэспублікі.**

— Хачу адразу ж сказаць, што інфармацыя пра падзеі ў Малдове, якая ідзе па першым канале з Астанкіна, ды і ў многіх газетах, — далёкая ад сапраўднасці, калі не азначыць гэта больш катэгарычна.

Частка інтэлігенцыі, Народны фронт лічаць, што ўсе намаганні павінны быць прыкладзены да ліквідацыі межаў паміж Румыніяй і Малдовай. Гэты пункт погляду мае шмат прыхільнікаў і ў самой Румыніі, хаця там жыве вялікая па колькасці частка нашай інтэлігенцыі, якая эвакуіравалася ад жаху перад наступам савецкіх войск у саракавым і сорак чацвёртым гадах. Калі ўлічваць гістарычны вопыт, то самы кароткі шлях уз'яднання дзвюх частак былой Румыніі— гэта шлях, па якім трэба ісці маленькімі крокамі, паступова прыбіраючы на ім усе дыпламатычныя перашкоды, штучна створаныя савецкімі агітатарамі.

**— Значыць, эмацыянальны лозунг прыднястроўцаў «Не хочам есці малдаўскую мамалыгу з румынскіх рук» — гэта не выдаткі кухонных палітыкаў з акружэння нацыянальнага героя горада Цірасполя таварыша Смірнова?**

— Прыднястроўе — па-румынску Трансністрыя — гэта тэма палітычных спекуляцый. Каб зразумець, што там робіцца сёння, трэба коратка нагадаць, як яна ўтварылася на карце ў 1918 годзе. Румынія, заціснутая з аднаго боку нямецкімі войскамі, а з другога —грамадзянскай вайной у Савецкай рэспубліцы, не магла, канешне, адстаяць усе тэрыторыі, якія ёй гістарычна належалі. Крамлёўскія стратэгі тады цудоўна разумелі, што любы адхоплены кавалак румынскай зямлі можа стаць стартавай пляцоўкай для акупацыі ўсёй Румыніі, якая была прывабнай як рычаг кантролю над Балканамі. Таму Саветы і стварылі аўтаномную Трансністрыю, увялі ў ёй лацінскі шрыфт (якога так баяцца сёння прыднястроўскія лідэры) і з яе дапамогай імкнуліся наблізіць свае мары пра сусветны камунізм. Аўтаномная румынская рэспубліка на савецкай тэрыторыі выкарыстоўвалася як агітплакат для Бесарабіі, жыхароў якой спрабавалі пераканаць, што тут створаны камуністычны рай. Я чытаў газеты таго часу, у іх пра рай пісалі на поўным сур'ёзе. Мне думаецца, што сёння той жа рэжысёр ставіць у Трансністрыі той жа спектакль.

Поўдзень і поўнач былой Бесарабіі Саветы аддалі ў саракавым годзе Украіне. Сёння наша задача — дапамагчы жыхарам гэтых тэрыторый выжыць духоўна. І я спадзяюся, што ўкраінскі ўрад нам у гэтым дапаможа.

**— Скажыце, калі ласка, а ці не вызначаецца імкненне Малдовы да Румыніі жаданнем хутчэй увайсці ў Еўропу?**

— Напэўна, такія эмацыянальныя матывы ёсць, але гэта натуральна для нас, як і для іншых народаў былой савецкай імперыі. Тут важна ўсведамляць, што Еўропу нічым не здзівіш, і далучыцца да яе можна толькі высокім інтэлектуальным узроўнем, а таму разумная палітыка немагчымая без удзелу інтэлігенцыі.

**— Вы часта бываеце ў Бухарэсце, ці адчуваеце вы сябе там гэтак жа звычайна, як і дома ў Кішынёве?**

— Гэтае пачуццё мне знаёмае, але ўсё ж я не магу сказаць, што я ўжо прадстаўнік 22-мільённага румынскага народа. Шмат чаго з яго багатай культуры яшчэ не спасцігнута намі і не асэнсавана. Палітыкі разгарадзілі нас, а прыбіраць завалы з агульнай дарогі трэба сёння інтэлігенцыі...

**З Юрые КАЛЕСНІКАМ гутарыла Валянціна АКСАК.**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# І ВАЙСКОЎЦЫ «БЯРУЦЬ»?..

Тое, што наша армія сутыкаецца сёння са шматлікімі праблемамі, ведае кожны. Сярод тых праблем — неўладкаванасць тысяч і тысяч вайскоўцаў, якія пры цяперашняй лібералізацыі цэн атрымліваюць нізкую заработную плату, пакутуюць з-за адсутнасці жылля і да т. п.

Менш наша грамадскасць ведае пра марнатраўства дзяржаўных сродкаў, неашчаднасць, карупцыю, якія працвітаюць у вайсковым асяроддзі. Маскоўская прэса неаднойчы пісала пра шыкоўныя дачы, кожная коштам у сотні тысяч рублёў (па старых цэнах), якія прыдбаў сабе за дзяржаўны кошт вышэйшы генералітэт былой Савецкай Арміі. А што, акрамя абурэння, магло выклікаць існаванне так званай «райскай групы», што складалася з адслужыўшых маршалаў і генералаў арміі, якім былі захаваны ранейшыя грашовае забеспячэнне і прывілеі?

Могуць сказаць: дык жа тое ў Маскве... Памыляецеся, спадары. Хай і не ў такіх памерах, але ёсць нямала ахвотнікаў узяць тое, што дрэнна ляжыць, і сярод вайскоўцаў, якія служаць на тэрыторыі Беларусі.

Нядаўна мне ў рукі трапіў цікавы дакумент, пад назвай: «Даведка выдачы і кошту мэблі, якая знаходзіцца ў асабістым карыстанні афіцэраў, генералаў штаба, упраўленняў і вайсковых часцей Беларускай ваеннай акругі».

Вось толькі некалькі вытрымак з гэтай «даведкі». «Рэалізавана мэблі ў 1991 годзе з дазволу начальніка штаба акругі: Генерал-палкоўніку А. Калінічэнка — дыван-ложак, стол двухтумбавы, крэсла мяккае, крэслы мяккія чатыры, столік пад радыёпрыёмнік, шафа для адзення, люстра пяціражковая «Іваца», люстра трохражковая... Усяго на суму 848 рублёў 50 капеек. Генерал-лейтэнанту В. Рушчанкову — 2 люстэркі-трумо, буфет кухонны, 2 мяккія крэслы, 4 ложкі драўляныя, 4 тумбачкі, 2 шафы для адзення, 9 крэслаў, канапа, халадзільнік «ЗіЛ», 2 газавыя балоны коштам 437 руб. 72 к. Генерал-маёру В. Казачэнку — спальны гарнітур «Чарадзейка», часопісны столік з двума мяккімі крэсламі коштам 19 руб. 29 кап...»

Спіс гэты можна цытаваць доўга. Не трэба быць вельмі дасведчаным у такіх «матэрыях» чалавекам, каб зразумець, што сапраўдны кошт гэтай мэблі ў шмат разоў вышэйшы. Адсюль вынікае пытанне: хто ў арміі распараджаецца матэрыяльнымі каштоўнасцямі, каму перападае больш ад даброт, за якія плацім мы, радавыя падаткаплацельшчыкі?

**А. КАРЛЮКЕВІЧ,**
**падаткаплацельшчык.**

# ВУЧЫМСЯ Ў СВАІХ АБРАННІКАЎ

**Мы, жыхары г. Полацка, Ф. Лайко і І. Гольбрайх, вось ужо трэці год выпісваем і чытаем «ЛіМ». Нам газета падабаецца.**

**Крыху аб сабе: мы абодва перадпенсійнага ўзросту, адукацыя ў нас сярэдне-тэхнічная, адзін з нас — украінец, другі — яўрэй, працуем на заводзе. Амаль усё свядомае жыццё жывём у Беларусі, жылі ў іншых гарадах, а вось ужо чацвёрты год у Полацку. Нікуды не збіраемся адсюль пераязджаць, бо людзі тут працалюбівыя, чэсныя, міралюбівыя і добразычлівыя. За ўсё жыццё ў Беларусі мы не адчувалі з іх боку ніякай абразы ў адносінах да нас. Таму Беларусь лічым сваім домам. Нам вельмі прыкра чуць гаворкі пра тое, што беларусы — нацыяналісты, прымушаюць рускамоўнае насельніцтва вывучаць беларускую мову. Мы лічым, што павага да таго народа, на чыёй зямлі ты жывеш, да мовы таго народа, па якім названа рэспубліка, — гэта маральны абавязак любога культурнага чалавека. Мы ведаем рускую мову, сваю нацыянальную мову таксама ведаем, а зараз авалодваем і беларускай. Нас хвалюе ўсё, што тычыцца Беларусі і яе народа. Уважліва сочым за работай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі. Нас здзіўляе тое, што асноўная большасць народных дэпутатаў лічаць сябе беларусамі, але ігнаруюць родную мову. Беларуская мова не такая ўжо і цяжкая. Гэта ж не кітайская ці японская.**

**А яшчэ нас вельмі здзівіла тое, што на апошняй сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі было аб'яўлена аб стварэнні новай фракцыі «Беларусь». Пазнаёміўшыся са спісам членаў гэтай групы, які прыводзіцца ў «Народнай газеце» за 21.03.92 г., так і хочацца ўсклікнуць: «Ба, знакомые всё лица!» У гэтую фракцыю ўваходзяць амаль усе былыя партапаратчыкі, так бы мовіць, былыя наменклатуршчыкі, якія складалі раней фракцыю камуністаў. Як жа хутка яны памянялі свае перакананні! Яны ж так заўзята на першых сесіях абаранялі сваю камуністычную ідэалогію, кляліся ў вернасці камунізму і Леніну, а зараз абяцаюць ні ў якія партыі не ўваходзіць. Штосьці з цяжкасцю верыцца ў гэта. Аднойчы па радыё выступала член гэтай фракцыі дэпутат З. Пянькова. Як яна заўзята гаварыла аб тым, што нельга школу пазбаўляць ідэалагічнага выхавання, нельга праводзіць дэпалітызацыю і дэпартызацыю школы. А зараз спадарыня Пянькова ўжо памяняла свае перакананні? А народны дэпутат В. Трафіменка? Так шчыра абараняў кампартыю, запэўніваў у сваёй камуністычнай перакананасці, і раптам усё знікла. І такое можна сказаць пра многіх членаў гэтай фракцыі. А самае галоўнае, што вельмі цынічна і крывадушна гучыць назва фракцыі «Беларусь», бо амаль ніхто з членаў яе не гаворыць па-беларуску. Хіба можна такое бачыць у парламентах іншых дзяржаў былога СССР? Вядома, не. Толькі народныя дэпутаты Беларусі звяртаюцца да свайго народа на мове суседняй дзяржавы. Дык лепш было б назваць гэту фракцыю не «Беларусь», а «Былая наменклатура» ці «Беларускія нацыянальныя нігілісты». Калі народныя дэпутаты зняважліва адносяцца да беларускай мовы, ігнаруюць яе і ўсё гэта выносіцца на ўсеагульны паказ, то гэта, без сумнення, спараджае абыякавасць да мовы і ў людзей, якія гэта бачаць і чуюць.**

**Ф. ЛАЙКО,**
**І. ГОЛЬБРАЙХ.**

г. Полацк.

# І «ДЗЯКУЙ», І «ДЗЯКУЮ»

У ЛіМе за 6 сакавіка прачытаў ліст настаўніка са Случчыны У. Аляшкевіча наконт ўжывання нашага «дзякуй». Здаецца, што спадар Аляшкевіч найбліжэй ладышоў да ісціны. Вельмі справядліва ён заўважыў (пра што многія апаненты раней маўчалі ці не ведалі), што рускае «спасибо» — гэта ранейшае «Спаси Бог». Трэба было толькі дадаць, што беларускае «дзякуй» — гэта таксама ранейшае «Дзякуй Богу», у сэнсе — дзякуй Богу, што ён літасцівы да нас, ці каб быў літасцівы. Цікавыя адказы тых, каму дзякуюць: «Дзякуй Богу, а не мне», — гэта калі чалавек набожны, а ў жартоўным «Дзякуем не адбудзеш» — «дзякуй» выступае як назоўнік, што зусім не пярэчыць законам мовы, якая ўвесь час у руху, у развіцці.

Вось чаму, калі адпала галоўная частка падзякі — «Бог, Богу», — людзі гаварылі і гавораць «дзякуй», бо па-ранейшаму трэба разумець, што гаворыцца «дзякуй Богу». Ведаў я аднаго старога настаўніка, які казаў «дзякаваць». І гэта таксама наша традыцыйная форма, толькі безасабовая: «дзякаваць Богу». А форма «дзякую» таксама законная: я дзякую некаму ад сябе, ад свае асобы, без пасрэдніка.

Таму мне здаецца, што ў нашай мове абедзве формы раўназначныя: «дзякуй» і «дзякую».

Можна паспрачацца наконт формы «вялікі дзякуй» ці «вялікае дзякуй» — што лепш, што больш правільна? Тут «дзякуй» таксама выступае як назоўнік, а не толькі як дзеяслоў «дзякую». Можна сказаць «вялікі дзякуй» па аналогіі з рускім «большое спасибо», але больш па-беларуску гучыць «шчырае дзякуй», «шчыра дзякую» і нават «шчыры дзякуй». Я тут розніцы не бачу, і памылкі таксама.

**Уладзімір ДАМАШЭВІЧ.**

г. Мінск.

# ВЁСКА ПАКУЛЬ НЕ АДРАКЛАСЯ...

**Калі я, напрыклад, прыязджаю ў свой родны горад Жлобін у адпачынак, то, каб не паўднёвае сонца, можна падумаць, што прыехаў у адзін з гарадоў Мурманскай вобласці.**

**Завітаў у рэдакцыю жлобінскай газеты «Новы дзень», каб пагаварыць і даведацца, чаму ж наша раёнка раптам стала двухмоўнай. Больш таго, некаторыя нумары сталі амаль цалкам выходзіць на рускай мове, толькі загаловак даецца на роднай мове.**

**Але сапраўдны шок я атрымаў у Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа АН рэспублікі. Зайшоў я да сваёй знаёмай у сектар, а там супрацоўніцы «щебечут» паміж сабой на рускай мове. На маё пытанне і здзіўленне яны шчыра рассмяяліся...**

**Возьмем перадачы па радыё і тэлебачанні. Там, як правіла, карэспандэнты бяруць інтэрв'ю на расейскай мове, асабліва гэтым грашыць Гомельскае тэлебачанне. Увогуле Гомель дае «прыклад», як трэба тарпедаваць закон аб адраджэнні беларускай мовы. І гэта мне, гамяльчаніну, вельмі прыкра.**

**А ці можна чакаць зацікаўленасці ў распаўсюджванні беларускай мовы ад кіраўніцтва тэхнікумаў і ВНУ? Той жа Гомельскі універсітэт, які, дарэчы, носіць імя першага беларускага друкара Ф. Скарыны, дае аб'явы аб паступленні на рускай мове ў беларускамоўнай газеце «Гомельская праўда». Пагадзіцеся, што цікава чытаць аб прыёме заяў па спецыяльнасці «белорусский язык и литература».**

**А як адносіцца сам беларускі народ да таго, каб гучала яго мова, каб яе шанавалі? Адно скажу: браты-беларусы падтрымаюць захады ў справе беларусізацыі. У першую чаргу хочацца спадзявацца на школьных настаўнікаў, бо сярод іх большасць — выхадцы з вёсак, а яна пакуль што не адраклася ад сваёй мовы.**

**Аляксандр ПЯТРУННІКАЎ.**

г. Манчагорск,
Мурманская вобл.

**ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ**

# ПАДВОДЗІЦЬ ПАЧУЦЦЁ ГУМАРУ ЦІ?..

## Адказ прафесару А. Саламонаву і іншым аматарам статыстыкі

Доктар тэхнічных навук, прафесар Аляксей Андрэевіч Саламонаў (працуе ў БТІ) знайшоў сваё хобі... у аглядах публікацый нашага штотыднёвіка. Іх час ад часу друкуе часопіс «Политический собеседник». Рэдкі выпадак у журналістыцы, калі звычайны чытач пачынае цікавіць нумар за нумарам газеты і рыхтаваць адмысловыя дайджэсты. Вядома, праца такая карпатлівая і проста здзіўляе, як гэта паважанаму прафесару, аўтарытэтнаму і, трэба меркаваць, занятаму педагогу хапае часу наглядаць за нашымі старонкамі так пільна. Тым больш, у чарговым лісце ў рэдакцыю А. Саламонаў сам паведамляе, што яму «ёсць чым займацца». У чым тады справа?

Мы вырашылі адказаць аўтару на гэты раз публічна, г. зн. на старонках свае газеты, бо яшчэ ўлетку 1991 года шаноўны прафесар пачаў з намі менавіта публічны дыялог, калі «ПС» надрукаваў першы агляд «ЛіМа». На пачатку лютага ў рэдакцыю прыйшоў новы рукапіс А. Саламонава, і ўжо ў суправаджальнай запісцы аўтар выказвае перакананасць, што «ён (рукапіс), безумоўна, не будзе надрукаваны», але тым не менш аўтар просіць адказу на допіс, «каб даць яму магчымасць звярнуцца ў іншую газету ці часопіс».

Удзячны аўтару за давер ацаніць ягоны рукапіс першымі. Мы яго пачыталі і прафесійна раім устрымацца прапаноўваць ТАКІ рукапіс іншым выданням. У вас, шаноўны Аляксей Андрэевіч, атрымліваліся неблагія допісы паводле розных палітычных падзей (і іх «ЛіМ» не раз друкаваў). Але канцэптуальная палеміка — рэч зусім іншая. Тут існуе такое паняцце як падтэкст — адмысловае «пачуццё гумару» ў журналістыцы. Калі ў вас такога пачуцця няма — тады можна бясконца змагацца з ветракамі, што вы робіце на старонках «ПС». Але вашае жаданне выдаць свае практыкаванні за раўнацэнныя ў літаратурным сэнсе рэчы зусім не азначае, што такімі яны ёсць на самай справе.

Возьмем, напрыклад, апошні ваш рукапіс «Беларусамі нараджаюцца ці становяцца?» Пра тое, аб чым вы хацелі сказаць, гутарка пачынаецца толькі на 8-й старонцы тэксту. Уступ (ці, лепей, развažанні на агульныя тэмы), такім чынам, займае палову артыкула. З 8-й старонкі вы разглядаеце нашу гутарку з Аляксеем Каўкам («ЛіМ», 10.01.1992). І што самае паказальнае — нават вы самі адчуваеце сваё слабае месца, калі пішаце пра магчымасць успрымання пэўных выказванняў у пераносным сэнсе. Безумоўна, калі мы казалі пра тое, што беларусы — меншасць у сваёй краіне, дык казалі метафарычна, бо пашпартных суайчыннікаў сапраўды адносная большасць, як сведчыць апошні перапіс насельніцтва.

Але нашая метафарычнасць выклікана духоўным і моўным станам Беларусі, які інакш, як дэпрэсія, не назавеш. Няўжо вакол вас асабіста, Аляксей Андрэевіч, большасць — беларусы па духоўнасці, па мове? Можаце не адказваць — самі ведаем, што гэта не так. І калі вас асабіста задавальняе той вар'яцкі стан, калі чалавека за родную мову могуць запроста зняважыць у сталіцы ягонае краіны, дык асабіста мяне — і маіх калег — такі стан задаволіць не можа. Беларушчына па-ранейшаму ходзіць у апазіцыі, і гэта не метафара, а рэчаіснасць.

Толькі ў краіне з ТАКОЙ рэчаіснасцю можна рабіць кар'еру на галаслоўным патрыятызме, лічачы рэчаіснасцю не саму рэчаіснасць, а лічбы перапісу насельніцтва. Дарэчы, статыстыка таксама рэч складаная. Вось вы, Аляксей Андрэевіч, прыводзіце ў якасці аргумента колькасць беларусаў у рэспубліцы. Ведама, што іх сапраўды большасць (каля 78 працэнтаў). Але чаму вам, шаноўны прафесар, не пацікавіцца было дадатковымі паказчыкамі перапісу 1989 года? Напрыклад — колькі беларусаў валодаюць беларускай мовай? Адказваю: 54,7 працэнта ад агульнай колькасці. Цяпер пералічыце гэта на абсалютную колькасць насельніцтва і што атрымліваецца? Атрымліваецца, што пашпартная большасць — беларусы — у моўных адносінах складаюць меншасць, бо мовай валодае толькі каля 43 працэнтаў насельніцтва рэспублікі. Ёсць жа звесткі і зусім фантастычныя: у Менску беларускай мовай стала карыстаецца 1—1,5% жыхароў. Гэта што — нармальна?!

Як бачыце, Аляксей Андрэевіч, наш «духоўны план» (у гутарцы з А. Каўкам) пацвярджаецца і статыстыкай.

Але самае цікавае месца вашых развag — аб «суровай ісціне біялагічнай прыроды», згодна з якой (па-вашаму) беларусамі, рускімі, палякамі, кітайцамі і г. д. нараджаюцца, а не становяцца. У пацвярджэнне думкі цытуеце штотыднёвік «Союз». Можна, канешне, цытаваць што заўгодна. Але ж у сваёй доктарскай дысертацыі, шаноўны Аляксей Андрэевіч, вы, напэўна, рабілі селекцыю крыніц інфармацыі, ці не так? Мусіць, публіцыстыка вымагае такога ж падыходу да крыніц. Таму перш чым цытаваць думку «пра гены», варта было б задумацца, ЯКУЮ канцэпцыю нацыі яна прапануе. Гэтай канцэпцыі знойдзена назва, і гучыць яна непрыемна — расізм.

У гутарцы з А. Каўкам ваш адказчык прапанаваў менавіта этналагічны падыход да нацыі, згодна з якім «нацыянальнае» не ёсць біялагічная (генная) катэгорыя; гэта — з'ява сацыяльная, духоўная. І калі грамадства не ставарае адпаведных нацыянальнаму інстытуцый — школы, літаратуры, сродкаў масавай інфармацыі — «нацыянальнае» дэградуе, як дэградуе дзіця, пазбаўленае сенсорнай нагрузкі. Здаецца, нашая нацыянальная гісторыя XX стагоддзя — самы яскравы таму прыклад.

Так, беларусы — стары народ. У гісторыі — нашае апірышча. Але як нацыя мы не адбыліся, нашае развіццё пасоўвалася са збоямі і катаклізмамі, з надрывам і крывёю. Гэта менавіта камуністаў-інтэрнацыяналістаў задавальняла «статыстычная» рэчаіснасць: праз яе і прапагандаваўся незвычайны росквіт нацый у Савецкай краіне, хаця «нацыянальнае» існавала папраўдзе як андэграунд, як забароненая праява культуры. І толькі цяпер гэтая хваля выходзіць з падполля.

Камуністы толькі на нейкім этапе перабудовы паддаліся на «флірт» нацыяналаў-адраджэнцаў, але хутка зразумелі, што гэты флірт для іх дрэнна скончыцца. Яшчэ да путчу камуністы змянілі ідэалагічны акцэнт з інтэрнацыяналізму на «агульначалавечыя каштоўнасці» (пасля таго, як першы быў збэшчаны перабудовачнай публіцыстыкай). Пра агульначалавечыя каштоўнасці кажаце ў сваім артыкуле і вы. Няўжо вы лічыце, што недаразвіты нацыянальна народ можа прадуцыраваць адэкватныя каштоўнасці? Вялікая рэч — адпаведнасць. Якім агульначалавечым каштоўнасцям адпавядае наш народ у цяперашнім стане? Дэмакратыі, рыначнай эканоміцы, абароне правоў чалавека? Да гэтага нам яшчэ расці і расці. Можна казаць пра цярпімасць, ненавязлівасць беларусаў, але гэта катэгорыі псіхалагічныя, а каштоўнасці заўсёды пазнаюцца праз рэчаіснасць, якую можа заСВОІць іншы народ. Толькі перш чым ствараць каштоўнасці, трэба прывесці сябе ў нармальны стан. У нас зашораныя мазгі, мы не ведаем адэкватнай гісторыі, мы не можам зрабіць сваё жыццё адухоўленым, бо не ведаем, на што арыентавацца. У гэтым сэнсе кожны журналіст і публіцыст выбірае свой накірунак. Мы выбралі кірунак пошукаў, калі хочаце — раскопак (не эксгумацыі!) — нашай гісторыі, рэканструкцыю нашага духоўнага развіцця. Гэты кірунак заўсёды выклікае шмат пытанняў, эмоцый, дапушчэнняў, але так заўсёды адбываецца, калі ты хочаш назваць неназванае.

Вы пішаце, што адмоўна ставіліся да бальшавіцкай сістэмы і ніколі ніякай партыі не служылі. Фармальна, можа, гэта і так. Але: як зразумець факт супрацоўніцтва з такім выданнем, як «Политический собеседник»?.. Ці вы лічыце, што вашыя артыкулы, нягледзячы на публікацыю ў гэтым часопісе, па-ранейшаму не служаць ніякай партыі?

**Юрась ЗАЛОСКА,**
**спецыяльны карэспандэнт «ЛіМа».**

# Ёсць, аказваецца, і БЕЛАРУСІТ

## Мінеральная сыравіна і незалежнасць Беларусі

РАЗВІЦЦЁ цывілізацыі заўсёды апіралася на спажыванне карысных выкапняў. Без мінеральнае сыравіны немагчыма гаспадарчая дзейнасць чалавека, само існаванне чалавецтва. Карысныя выкапні і іх запасы распаўсюджаны нераўнамерна па краінах свету, таксама як і іх скарыстанне. Увесь час ідзе барацьба за мінеральныя рэсурсы. Няма такой краіны (апрача, можа быць, былога СССР), якая б была поўнасцю забяспечана ўсімі відамі карысных выкапняў. Таму гандаль мінеральнай сыравінай складае больш за чвэрць ўсяго міжнароднага таваразвароту. Сучасная структура цэн на сыравіну, прадукты яе перапрацоўкі і гатовыя вырабы вельмі часта прыносяць найбольшыя выгады тым краінам, якія купляюць мінеральную сыравіну. Выгадней прадаваць гатовы прадукт, чым сыравіну. Яскравы прыклад — Японія, прамысловасць якой працуе амаль цалкам на прывазной сыравіне. Бывае і наадварот, калі краіна някепска жыве галоўным чынам за кошт экспарту нафты, як Кувейт. Але гэта крайнія выпадкі. Звычайна бываюць прамежныя сітуацыі. Чым большае багацце нетраў краіны, чым рацыянальней яно выкарыстоўваецца, тым больш магчымасцей мець сапраўдную незалежнасць. У гісторыі мінулай і сучаснай мы маем многа прыкладаў палітычнага прымусу праз мінеральную сыравіну.

Зараз, калі Беларусь абвясціла сябе суверэннай краінай, марудна, але ўсё ж крочыць да сваёй незалежнасці, вельмі важна прынцыпова па-новаму паглядзець на багацце яе нетраў і рацыянальнае выкарыстанне мінеральных рэсурсаў.

Традыцыйнае ўяўленне аб беднасці нетраў Беларусі геолагамі адкінута. Сярод важнейшых карысных выкапняў — калійная соль (прагнозныя запасы 80 млрд. т), якая ўжо здабываецца больш за 25 год. Практычна невычэрпныя запасы каменнай солі. За 30 год здабыта 85 млн. т высакаякаснай нафты, а кожны год зараз мы здабываем 2 млн. т. Шырокавядомыя па ўсёй Беларусі кар'еры па здабычы розных відаў будаўнічых і іншых матэрыялаў: цэментная сыравіна, мел, даламіты, гліны і суглінкі, тугаплаўкія і вогнетрывалыя гліны, пясчана-жвіровая сумесь, пяскі для вырабу шкла, граніты для здабычы жарствы (шчэбню), каалін, сапрапелі і г. д. Надзвычай важнае значэнне маюць радовішчы падземных вод: прэсных і мінералізаваных.

Геолагамі знойдзены многія радовішчы розных карысных выкапняў, якія яшчэ не эксплуатуюцца. Разведаны два радовішчы жалезных руд (прагнозныя запасы звыш 1,5 млрд. т). Гэтыя радовішчы комплексныя: разам з жалезам тут ёсць тытан, ванадзій, фосфар, кобальт, германій, серабро, золата. Вядома вельмі перспектыўнае радовішча рэдкіх і рэдказямельных элементаў, без якіх немагчыма развіццё радыёэлектронікі, авіа- і ракетабудаўніцтва, ядзернай і рэнтгенаўскай тэхнікі і г. д. Разведаны буйны сланцавы басейн з прагнознымі запасамі 11 млрд. т, вугляносны басейн з трыма паверхамі пластоў вугалю. Знойдзена радовішча рэдкага мінерала — даўсаніту, якое мае прамысловыя запасы. З даўсаніту можна атрымліваць алюміній і соду. Вядомы радовішчы фасфарытаў, цыялітаносных сіліцытаў і інш. Вялікія запасы маюць мінеральныя расолы — поліметалічны водны канцэнтрат «беларусіт». Гэта — «вадкая руда», з якой можна вылучаць ёд, бром, калій, ліцій, стронцый і многія іншыя рэдкія і рассеяныя элементы. Сам расол з вялікай перспектывай можа выкарыстоўвацца ў раслінаводстве, жывёлагадоўлі, прамысловасці, медыцыне.

Геолагамі ў многіх мясцінах Беларусі адшуканы багатыя рудапраяўленні розных металаў: чорных і легіруючых (жалеза, ванадзій, тытан, кобальт, нікель, малібдэн, вальфрам), каляровых (медзь, цынк, свінец, олава), высакародных (золата і серабро). Вядомы рудапраяўленні рэдкіх і рэдказямельных элементаў, графіту, мармуру, гранату, бурштыну, алмазаў і інш.

Трэба адзначыць, што пералічаныя радовішчы не так проста выкарыстаць, бо здабыча карысных выкапняў патрабуе спачатку вялікіх эканамічных затрат (якія потым, безумоўна, акупяцца), а таксама выклікае складаныя экалагічныя праблемы, якія неабходна адразу прадбачыць.

Новыя палітычныя і эканамічныя ўмовы незалежнасці Беларусі патрабуюць і новы больш гаспадарчы падыход да мінеральных рэсурсаў. Неабходна распрацоўка спецыяльнай дзяржаўнай праграмы па праблемах мінеральнай сыравіны. Патрэбна глыбокая эканамічная ацэнка мінеральна-сыравіннай базы. Адсутнасць да гэтага часу каштоўнай ацэнкі карысных выкапняў у нетрах і практыка дармовай перадачы іх запасаў прамысловай вытворчасці робіць ўражанне, як быццам багацце нетраў для грамадства не мае цаны. У бліжэйшы час неабходна прыняць закон аб нетрах.

Незалежнасць рэспублікі патрабуе карэннай змены кіравання народнай гаспадаркай, змены многіх структур сучаснага ўрада, многіх кіраўнікоў, якія засталіся з часу каманднa-адміністрацыйнай сістэмы. Апошняе асабліва важна, бо сучаснай гаспадаркай незалежнай краіны можа кіраваць толькі высокакампетэнтны спецыяліст. Час, калі дзейнічаў прынцып «где бы ни работать, лишь бы руководить», прайшоў. Аб гэтым прыходзіцца нагадваць, бо да нашага часу многія кіруючыя асобы, узгадаваныя за 70-годдзе чыстага валюнтарызму і бяздумнага выканання загадаў звыш, лічаць, што кіраваць можна любым напрамкам прамысловасці, сельскай гаспадаркі, культуры. «На всех постах, на которые бы ни бросала его партия и правительство...» — такія фразы з некралогаў вядомых дзеячаў павінны згінуць назаўсёды.

Для пошукаў новых карысных выкапняў, разведкі і распрацоўкі ўжо вядомых радовішчаў, эканамічнай ацэнкі мінеральных рэсурсаў і іх скарыстання, а таксама для вядзення агульнай мінеральна-сыравіннай палітыкі неабходна стварыць міністэрства (ці камітэт) геалогіі і выкарыстання мінеральных рэсурсаў. Такое міністэрства павінна падначаліць сабе ўсе справы, якія тычацца мінеральнай сыравіны. Калі раней яно рабіла толькі пошукі і разведку радовішч карысных выкапняў, дык зараз яно павінна адказваць і за распрацоўку. Да гэтага часу кожнае ведамства здабывала свае карысныя выкапні. Усе радовішчы звычайна змяшчаюць некалькі карысных мінералаў, а пры такой сістэме здабываецца, як правіла, толькі адзін з іх, а іншыя ідуць у адвал. Новае міністэрства, якое будзе адказваць не за адно, з за ўсе карысныя выкапні, будзе зацікаўлена весці сапраўднае комплекснае выкарыстанне мінеральнай сыравіны.

Міністэрства геалогіі і выкарыстання мінеральных рэсурсаў павінна праводзіць дзяржаўную палітыку па рацыянальным выкарыстанні ўсіх неабходных Беларусі мінеральных рэсурсаў. Таму яно будзе даваць рэкамендацыі на заказы ў другіх краінах і на тую мінеральную сыравіну, якой няма на Беларусі, але якая ёй патрэбна. Важна наладзіць выгадны для краіны гандаль сыравінай. Ужо зараз мы маглі б гандляваць калійнай і спажыўнай соллю, сапрапелямі, мінеральнай і пітной вадою. Праз некаторы, досыць блізкі, час можна было б наладзіць продаж ці абмен «вадкаю рудою» — расоламі. Не за гарамі і распрацоўка іншых карысных выкапняў, асабліва рэдказямельных элементаў, жалезнай руды.

Вялікая праблема — паліўная сыравіна. Сваёй нафты Беларусі не хапае. Але плату за транзіт праз нафта- і газаправоды, якія ідуць па тэрыторыі Беларусі, можна браць нафтай і газам. Сучасныя нафтаперапрацоўчыя заводы з глыбокай перапрацоўкай нафты ў Наваполацку і Мазыры таксама павінны даваць нам частку гатовага прадукта. Ужо зараз трэба ставіць навуковыя і эксперыментальныя работы па комплексным выкарыстанні беларускіх гаручых сланцаў і вугалю.

Многія функцыі, якія выконвала раней Міністэрства геалогіі СССР і яго ўстановы, зараз павінны перайсці да рэспублікі. Гэта — дзяржаўнае зацвярджэнне запасаў розных радовішчаў карысных выкапняў, іх кадастр і баланс, інспекцыя дзяржаўнага геалагічнага кантролю, экспертыза ўсіх відаў геолагаразведачных работ, дзяржаўная геалагічная (а больш правільна — экалагa-геалагічная) здымка, рэдакцыйна-выдавецкі савет па зацвярджэнні і выданні геалагічных і іншых карт, геалагічны фонд і даведачна-інфармацыйны цэнтр з банкам геолага-геафізічных дадзеных і г. д. Мусіць, такому міністэрству трэба перадаць праблемы геадэзіі і картаграфіі.

Непасрэдна разнастайную дзейнасць геалагічнага і мінеральна-рэсурснага напрамку павінны праводзіць шматлікія самастойныя прадпрыемствы: геалагічныя, геафізічныя, геадэзічныя, буравыя, картаграфічныя (Мінская картфабрыка), па здабычы калійных солей («Беларуськалій»), нафты («Беларусьнафта») і інш. Міністэрства па адносінах да іх выступае як заказчык, а прадпрыемствы—як выканаўцы дзяржаўных заказаў. Адначасова яны вядуць і іншую прадпрымальніцкую дзейнасць. Вельмі важна, каб за здабычу кожнай вагавай ці аб'ёмнай адзінкі любога карыснага выкапня прадпрыемства павінна плаціць дзяржаве. Фінансаванне асноўных геалагічных даследаванняў, а таксама і ўтрыманне міністэрства павінна ісці за кошт сродкаў ад адлічэння ад здабычы і выкарыстання карысных выкапняў.

У сваёй дзейнасці міністэрства геалогіі і мінеральных рэсурсаў Беларусі павінна апірацца на акадэмічную і галіновую навуку. Ва ўсіх еўрапейскіх краінах ёсць геалагічныя таварыствы, якія улярна праводзяць сумесныя сесіі па геалагічных праблемах Еўропы. Таму неабходна геалагічнае таварыства Беларусі. Вельмі важна не згубіць тыя навуковыя і галіновыя сувязі, якія былі з рознымі рэспублікамі былога СССР, бо геалагічныя структуры не маюць дзяржаўных граніц. Каб вывучыць геалагічную будову, трэба аб'яднаць намаганні геолагаў многіх краін. Не менш актуальная праблема — падрыхтоўка кадраў геолагаў, таму неабходна адкрыццё групы геолагаў на базе геаграфічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Улічваючы катастрафічную экалагічную сітуацыю, якая звязана не толькі з эксплуатацыяй радовішчаў карысных выкапняў, трэба звярнуць увагу на неабходнасць незалежнасці Камітэта па экалогіі. Ён павінен мець права вета на любое дзеянне, якое груба і неразумна парушае экалагічны стан прыроды. Таму Камітэт па экалогіі павінен быць выведзены са складу Савета Міністраў і падпарадкоўвацца толькі Вярхоўнаму Савету Беларусі.

**Радзім ГАРЭЦКІ,**
**акадэмік.**

Фота Аляксея МАЦЮША.

*Безліч разоў качка дае нырца,*
*каб дастаць сабе з марскога дна спажыву.*
*Але гэта ёй не заўсёды ўдаецца.*

*Безліч разоў я заглядваю ў сваю душу,*
*каб адшукаць у ёй сапраўднае слова.*
*Але гэта рэдка калі мне ўдаецца.*

*Масей СЯДНЕЎ.*

# Пісьменнік і мова

## Творчы пошук Масея СЯДНЁВА

**Масея Сяднёва — прадстаўніка беларускага літаратурнага замежжа — лімаўскі чытач ведае. Апошнім часам пісьменнік актыўна друкуецца на Бацькаўшчыне. Ён фактычна перастаў быць эмігрантам. Усё сваё жыццё М. Сяднёў імкнуўся быць карысным беларускаму народу, служыць справе яго нацыянальнага адраджэння. Неабыякавасць да лёсу роднай мовы, гарачая зацікаўленасць пытаннямі развіцця літаратуры на беларускай мове — гэтыя рысы ці не вызначальныя ў творчым абліччы пісьменніка. Паэт, празаік, перакладчык, публіцыст ведае і любіць родную мову, заклапочаны яе далейшым развіццём і ўзбагачэннем. Ён выдатны стыліст, валодае тонкім мастацкім густам, высокай моўнай культурай і багатай эрудыцыяй.**

**Давайце разам зазірнём у творчую майстэрню пісьменніка, даведаемся аб яго поглядах на развіццё беларускай мовы. Прапануем чытачам гутарку Святланы Сачанкі з Масеем Сяднёвым, запісаную ў яго кватэры ў Глен-Кове пад Нью-Йоркам.**

**С. С.: Масей Ларывонавіч, па вашым правапісе відаць, што пастанову 1933 года «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу» вы не прызнаеце. Нормай для вас з'яўляецца стары, дарэформенны правапіс. Раскажыце, калі ласка, як фармавалася ваша арфаграфія, пад уплывам якіх падручнікаў. Што, на вашу думку, можна было б удакладніць у існуючым беларускім правапісе? Які галоўны прынцып вы паклалі б у аснову новага беларускага правапісу — фанетычны, марфалагічны, гістарычны?**

**М. С.:** Так, я карыстаюся старым правапісам — да 1933 года. Мой уласны правапіс сфармаваўся пад уплывам двух падручнікаў: «Школьная граматыка беларускае мовы» Язэпа Лёсіка і «Беларуская граматыка для школ» Браніслава Тарашкевіча. Перш за ўсё я засвоіў правапіс ад Антона Лёсіка (ён выкладаў у педтэхнікуме беларускую мову, калі я там вучыўся). Падручнік яго брата Язэпа Лёсіка падабаецца мне больш, чымся Тарашкевічаў. Паводле Лёсіка я пісаў беззаганна. Дарэчы, мне ніколі не даводзілася завучваць правілы, кіраваўся толькі ўласнай інтуіцыяй...

Але правілы, якія прапаноўвалі Тарашкевіч і Лёсік, не былі бездакорнымі. Што я не прымаю ў старым беларускім правапісе? Славуты мяккі знак. У цэлым я за яго, але ён не ўсюды патрэбны. Напрыклад, у словах «жыццё», «насенне» мяккасць першых ц' і н' ужо пазначана наступным за ім мяккім гукам. Навошта ж тут яшчэ і мяккі знак?

Не прымаю правапісу запазычаных слоў (як «монолёг», «кляса», «сыстэма», «Атэны» і г. д.), хаця сам па нашай эміграцкай традыцыі пішу іх па-старому. Лічу, што чужаземныя словы ўжо асіміляваліся беларускай мовай, не трэба спецыяльна выдзяляць іх іншамоўнае паходжанне.

Якім уяўляю новы беларускі правапіс? Галоўным прынцыпам яго павінен стаць фанетычны: «пішы, як чуеш». Арфаграфія мусіць адлюстроўваць фанетычныя асаблівасці жывой плыні той мовы, на якой гаворыць народ. Таму я: за мяккі знак (акрамя тых выпадкаў, калі ён лішні), за прыназоўнік «бяз» і адмоўе «ня» (правапіс «не» і «без» не адпавядае жывой гутарковай мове і калечыць беларускую мову), за правапіс «і» скарочанага, або «й» пасля галоснага паміж слоў і ў пачатку слова (маці й сястра, яна йдзе). Я супраць таго, каб у вершы пачынаць радок з «у» кароткага (раней гэта лічылася заганным, а цяпер сустракаецца часта, нягледзячы на тое, што правапіс «у» кароткага ў пачатку радка адмоўна ўплывае на паэтычную мову). У вымаўленні я зруйнаваў бы «г» выбухное (у словах «гуз», «ганак», «гонта» і інш., бо гэтыя словы, як і «монолёг», ужо засвоены беларускай мовай, асіміляваліся ёй).

**С. С.: Звернемся да граматыкі. У вашай мове сустракаюцца адхіленні ад агульнапрынятых граматычных норм, напрыклад: «чар», «плын», «лек», «пысак», «купел» і г. д. Чым гэта абумоўлена?**

**М. С.:** Такіх прыкладаў шмат і ў іншых паэтаў. Паэт мае права змяніць форму слова — праўда, толькі тады, калі ён робіць гэта з эстэтычнымі мэтамі. Каб захаваць музыку верша, стварыць пэўны рытм, я магу, напрыклад, ужыць слова не ў тым родзе ці ліку. Але трэба імкнуцца да таго, каб такіх недакладнасцей у мове паэзіі не было. Норма ёсць норма.

**С. С.: Якое значэнне вы надаяце сінтаксічнаму боку мовы?**

**М. С.:** Сінтаксіс — гэта псіхалогія, душа мовы. Любая нацыянальная мова адметная і сваім сінтаксісам, і сваёй інтанацыяй. А наш сінтаксіс не беларускі: ён рускі або польскі. Каб гэта ўбачыць, адчуць, не трэба быць вялікім вучоным. Гэта, як кажуць, відавочна. Наша галоўная памылка ў тым, што мы ад самага пачатку не арыентаваліся (і не арыентуемся цяпер) на жывую народную мову.

**С. С.: Ваша мова надзвычай багатая ў лексічных адносінах. Але яна і лексічна стракатая, неаднародная. Дыялектызмы, жарганізмы, русізмы, неалагізмы — ці не засмечваюць яны літаратурную, унармаваную мову?**

**М. С.:** Што датычыць лексічнай стракатасці, то мушу вам запярэчыць. Бо мая мова ў цэлым літаратурна вытрымана. Я не люблю парушаць нормы сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

Дыялектызмы? У прынцыпе я супраць іх неапраўданага выкарыстання. Напрыклад, у лірычным вершы дыялектызм не на месцы, і ў мяне вы такога не ўбачыце. У мяне яны сустракаюцца толькі ў вершах эпічнага складу, і ўжываў я іх заўсёды нявымушана. А вось правінцыялізмы, этнаграфізмы — іншая рэч. У рамане «І той дзень надыйшоў» яны ўжыты свядома, з мэтай лакалізаваць героя (каб паказаць яго вясковае паходжанне). Наогул я лічу этнаграфізмы крыніцай узбагачэння літаратурнай мовы.

Русізмы... Напрыклад, «я знаю»— дык гэта ж не русізм, а тое натуральнае падабенства, якое існуе паміж рускай і беларускай мовамі. У іншых аўтараў вы іх знойдзеце больш, бо каб адмежавацца ад польскай мовы, яны ўжываюць русізмы. Я супраць неапраўданых запазычанняў з рускай мовы, супраць калек. Рускія фразеалагізмы трэба не перакладаць на беларускую мову (як часамі робяць), а замяняць беларускімі адпаведнікамі.

Неалагізмы ствараліся ў мяне лёгка. Я проста выкарыстоўваў сродкі беларускай мовы. Мне здаецца, што такі неалагізм — натуральны, а не штучны — незаўважны, ён заўсёды на месцы і, да таго ж, нармалізуе мову.

**С. С.: Вернемся да дыялектнай лексікі ў вашых творах. Да якога дыялекту вы маглі б аднесці гаворку вёскі Мокрае Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці — вёскі, дзе вы нарадзіліся? Ці знаёміліся калі-небудзь з дыялектнымі слоўнікамі Магілёўшчыны? Ці карысталіся імі?**

**М. С.:** Гаворка вёскі Мокрае вельмі блізкая да рускай мовы. Свайго беларускага дыялекту, на вялікі жаль, у мяне няма, і таму гаворку вёскі Мокрае я не мог узяць ні ў мову сваёй паэзіі, ні ў мову прозы. Я пазней вывучыў літаратурную беларускую мову, пачаў пісаць на ёй і пішу цяпер.

Я праглядаў многія дыялектныя слоўнікі. Магу сказаць, што вельмі блізкая маёй роднай гаворцы мова Гарэцкага, і яго слоўнік мне вельмі падабаецца. А слоўнік Ластоўскага не прымаю, бо там шмат паланізмаў, штучных слоў — усё гэта чужое для беларускай мовы.

**С. С.: Масей Ларывонавіч, раскажыце, калі ласка, як складваўся ваш стыль. Хто з пісьменнікаў у гэтым сэнсе ўплываў на вас?**

**М. С.:** Як я ўжо казаў, беларускай мове я навучыўся з літаратурных крыніц. Гэта былі беларускія чытанкі, кнігі беларускіх пісьменнікаў. Напачатку на мяне аказвала ўплыў мова Янкі Купалы, Якуба Коласа, потым — Кузьмы Чорнага, Язэпа Пушчы. Акрамя таго, вучыўся мове ў пісьменнікаў-маладнякоўцаў... Хоць і зараз лічу, што мова Купалы — бяздонная крыніца, з якой можна чэрпаць бясконца, цяпер да купалаўскай мовы стаўлюся крытычна, бо ў ёй шмат чужога: польскай лексікі, польскіх сінтаксічных канструкцый.

Спачатку мая мова была застыглая, нарматыўная. Спасцігаў мову інтуітыўна: не як лінгвіст, а як паэт. У студэнцкія гады мне адкрыліся руская мова, руская літаратура. Як паэт я склаўся болей на рускай літаратуры, чымся на беларускай. Але пазней беларуская і руская літаратуры сталі для мяне пройдзеным этапам. І я пачаў вучыцца ў нямецкіх, ангельскіх, французскіх паэтаў. Асабліва мне блізкія нямецкія рамантыкі. А з французскай літаратуры бяруць вытокі мае эратычныя вершы.

**С. С.: На чужыне вы шмат напісалі, выдалі некалькі кні-**


Масей СЯДНЁЎ у сябе дома, у Глен-Кове.

# Таямніцы гісторыі адкрывае... карта

**На зыходзе леташняга года Белавежскае пагадненне падвяло рысу пад доўгай агоніяй таталітарнай імперыі. На гэтым крытычным, глыбокім пераломе адбываецца крутое ламанне фундаментальных ідэалагічных уяўленняў. Хворае, раздзіраемае супярэчнасцямі і хаосам грамадства балюча пераасэнсоўвае ідэалы, якія некалькім пакаленням здаваліся непарушнымі, справядлівымі. Набірае моц працэс пошукаў і выпрацоўкі новай сістэмы каштоўнасцей, светапогляду.**

Гэтыя рэаліі не маглі не закрануць і гістарычную навуку. Праўда, першымі рэзаць «свяшчэнных кароў» кінуліся не навукоўцы, а публіцысты ўсіх напрамкаў, літаратары, дзеячы культуры. Яны, трэба аддаць ім належнае, апісваюць мінулае маляўніча, але ж, на жаль, не заўсёды ў адпаведнасці з ісцінай. Часцяком верх бярэ суб'ектыўнае, самае агульнае, абстрактнае асвятленне сапраўдных гістарычных працэсаў. І няўцям ім, што гістарычная свядомасць народа засмечваецца новымі стэрэатыпамі і міфамі, якія радня догмам «Краткого курса» і застойнай гістарыяграфіі. А стан жа гістарычнай навукі — адзін з паказчыкаў цывілізаванасці грамадства.

Выйсце, на наш погляд, не ў канструяванні разумовых пабудоў, а ў насычэнні даследаванняў «плотью и кровью» тысячагадовай гісторыі, у апоры на дакладныя і бясспрэчныя дакументальныя крыніцы.

Прыклад, і прыклад бліскучы, паказаў навукоўцам-гісторыкам доктар тэхнічных навук, спецыяліст у галіне аўтаматызацыі пераўтварэння і аналізу картаграфічнай інфармацыі і аэракасмічных здымкаў Я. Я. Шыраеў. Яго грунтоўная праца **«Беларусь. Русь Белая. Русь Черная и Литва в картах»** (Мінск, «Навука і тэхніка», 1991) — першая ў беларускай гістарыяграфіі спроба выкарыстання геаграфічных картаў мінулых стагоддзяў у навуковых даследаваннях. Гэтае выданне пераканаўча сведчыць аб тым, што старая карта з'яўляецца унікальнай гістарычнай крыніцай, якая змяшчае багатую інфармацыю ў кампактнай і наглядчай графічнай форме. Больш таго, яна адзначаецца выключнай дакладнасцю паведамляемых звестак.

Дзякуючы намаганням аўтара, які правёў руплівы, шчыры гісторыка-крыніцазнаўчы аналіз, старая карта, што ўзнікла на зары чалавечай цывілізацыі, загаварыла на поўны голас. І той, хто змог яе пачуць, даведаўся пра многае, што было наўмысна пакрыта цемрай невядомасці або сцерлася з памяці з-за нашай абыякавасці да ўласнай гісторыі. Шмат якія нашы веды атрымалі дадатковыя доказы, а многія «ісціны», якія паслужліва прапагандавалі акадэмічныя гісторыкі, каб дагадзіць ілжывым ідэалагічным дактрынам, адкінуты як антынавуковыя, антыгістарычныя.

Сярод дакументальных сведчанняў, якія данесла да нас старая карта, найбольшую цікавасць, на наш погляд, прыцягваюць тыя бакі гістарычнага працэсу, якія звязаны з тэрытарыяльнымі аспектамі. Ні адна, відаць, старонка айчыннай гісторыі не сфальсіфікавана так, як пытанне аб гістарычных межах беларускага этнасу. Руку тут прыклалі і суседзі з усіх чатырох геаграфічных бакоў, і расейскія вялікадзяржаўныя шавіністы, і свае даглядальнікі «ідэалагічнай чысціні».

Тым больш зразумелай становіцца заслуга аўтара, які здолеў сабраць і на такім навуковым узроўні прааналізаваць картаграфічныя крыніцы, што яны набываюць моц юрыдычнага дакумента.

Доказна развенчвае даследчык і тыя антынавуковыя метады, якія выкарыстоўвалі правячыя колы сумежных краін у сваіх нацыянальна-эгаістычных мэтах. Так, пілсудчыкі, каб апраўдаць адарванне беларускіх тэрыторый, узялі за аснову вызначэння нацыянальнасці веравызнанне: католік — значыць, паляк, праваслаўны — беларус. Хаця, як правільна зазначае Я. Шыраеў, «основными признаками, определяющими нацию, являются язык, культура (материальная, духовная, общественная, быт, антропологические особенности, а также топонимика и археология территории)».

Дарэчы, польскія ўлады ў 1921 г. у гэтых жа мэтах хуценька пракруцілі перапіс насельніцтва, які быў цалкам заснаваны на неаб'ектыўнай і навукова неабгрунтаванай методыцы. Змешчаныя ў рэцэнзуемым выданні геаграфічныя, этнаграфічныя, лінгвістычныя карты, а таксама матэрыялы перапісу насельніцтва Расейскай імперыі 1897 г. абвяргаюць атрыманыя такім чынам дадзеныя аб рассяленні польскага этнасу ў Заходняй Беларусі. Дзеля дакладнасці адзначым, што аўтар таксама абгрунтавана выкрывае такія ж адносіны да спрадвечна беларускіх тэрыторый РСФСР, Летувіскай Рэспублікі і іншых суседніх дзяржаў.

За адным разам выкажам заўвагу. Так, нельга не пагадзіцца з Я. Шыраевым, што перавагу трэба аддаваць картаграфічным матэрыялам тэрытарыяльна не зацікаўленых краін. Але ж можна ў якасці прыкладу прывесці не адну працу прагрэсіўных вучоных, якія імкнуліся аб'ектыўна адлюстроўваць гістарычную рэчаіснасць. Нагадаем карты паляка Е. Счынскага, які абапіраўся на шырокае кола дакладных крыніц, у т. л. і на перапіс 1897 г. Той жа Віленскі край ён падае як вобласць рассялення беларусаў і летувісаў, прычым Вільню ад-

**жак. Калі гаварыць шчыра, як вам пішацца на эміграцыі?**

**М. С.:** Апынуўшыся на Захадзе, я моцна эвалюцыяніраваў: вучыўся на лепшых узорах сусветнай літаратуры, што і ўзбагачала мяне. Моўных праблем (напрыклад, моўная інтэрферэнцыя) у мяне як пісьменніка не было, бо нямецкая і англійская мовы чужыя нашай, беларускай. Праблема ў тым, што як пісьменнік я складваўся ў ізаляцыі. Літаратурнага жыцця ў эміграцыі не было і няма, і спроба тварыць літаратуру ўвесь час стрымлівалася такой адарванасцю. Да таго ж, у мяне няма чытача. І я вымушаны пісаць не для чытача, а для сябе... Словам, умовы абсалютна неспрыяльныя.

**С. С.: Аднак вы не кідалі пяра — і дасягнулі поспеху. Цяпер, калі вы ўжо прызнаны стыліст, у чым бачыце сваю творчую задачу? На якога чытача арыентуецеся — элітарнага ці масавага?**

**М. С.:** Я вельмі строга стаўлюся да сябе ў сэнсе стылістычным. Лічу, што паэт павінен быць творцам сваёй мовы, інакш ён не паэт. Бачу сваю задачу найперш у тым, каб узбагачаць, развіваць беларускую мову. Імкнуся зрабіць сваю мову эстэтычнай, апрацаванай, нават арыстакратычнай. І разлічваю на беларускую эліту: спакушанага ў літаратуры чытача, адукаванага і культурнага.

**С. С.: Вашая творчасць — сапраўдная скарбніца вобразнавыяўленчых сродкаў: метафар, параўнанняў і г. д. Цікава, гэта плён вашай фантазіі ці вынік карыстання паэтычнымі слоўнікамі?**

**М. С.:** Ніколі не карыстаўся паэтычнымі слоўнікамі. Бо вобраз не быў для мяне самамэтай, як і паэтычныя сродкі, ён ствараўся падсвядома. У той час як, напрыклад, Наталля Арсеннева свядома карыстаецца вобразамі з арсеналу паэтыкі, нанізвае іх.

**С. С.: Добра ведаючы беларускую мову, вы не можаце быць абыякавым да яе сучаснага стану. Што вы можаце сказаць пра мову беларускіх пісьменнікаў, журналістаў?**

**М. С.:** Большасць сучасных беларускіх пісьменнікаў думае па-руску. Таму іх беларуская мова штучная. Асабліва беднай была мова ў прадстаўнікоў метаду сацыялістычнага рэалізму, бо яны трымаліся на паверхні сацыялогіі, у іх мала было свайго, унутранага, ім не было чаго сказаць.

Добрая беларуская мова ў маладых беларускіх паэтаў і празаікаў. Яны больш раскаваныя ў сэнсе мовы. Шмат хто з іх прыйшоў у літаратуру са сваёй свежай рэгіянальнай мовай. Але той, хто, імкнучыся вызваліцца ад путаў метаду сацыялістычнага рэалізму, «еўрапеізуе» беларускую паэзію, не мае будучыні. У мудрагельстве няма і не можа быць паэзіі. А як навучыцца пісаць, калі стыль у вас зусім не рэдагуецца? Непісьменныя рэчы трэба правіць! А іх не правяць ні «ЛіМ», ні «Полымя», ні «Маладосць».

**С. С.: Масей Ларывонавіч, вы добра знаёмы з тым, што робіцца на Бацькаўшчыне для таго, каб зберагаць і развіваць беларускую мову. У якім напрамку трэба працаваць усім, хто можа ўплываць на развіццё мовы, — вучоным, пісьменнікам, журналістам?**

**М. С.:** Я даўно цікаўлюся моўнымі пытаннямі, яшчэ з часоў працы на радыё «Свабода». Там на моўным фронце не было спакойна. і каб замацаваць свае пазіцыі як рэдактара, я звяртаўся да прац савецкіх лінгвістаў, і беларускіх савецкіх у прыватнасці. Павінен сказаць, што беларуская філалогія доўгі час кіравалася палітычнымі ўказаннямі. Цяпер жа лінгвісты падпарадкоўваюцца рацыянальнаму прынцыпу, але толькі яго недастаткова. Трэба, каб вучоныя ўлічвалі вопыт пісьменнікаў, якія ўласна і ствараюць літаратурную мову (і ў тым ліку вопыт пісьменнікаў-эмігрантаў).

Зараз у нас мова нераспрацаваная, неўнармаваная, аморфная. Яна знаходзіцца ў стане хаосу. Кожны лічыць сваім абавязкам унесці ў яе нешта сваё. Мову засмечваюць неапраўданымі этнаграфізмамі, неалагізмамі, запазычаннямі. Галоўнае ў гэтай сітуацыі — не патануць у моўным балоце, а знайсці нейкі адзін крытэрый, кіравацца ім пры распрацоўцы моўных норм. Крытэрый можа быць такі: мова павінна мець нейкі прыродны, натуральны, толькі ёй уласцівы дух. Неабходна вярнуць беларускай мове страчаны ёю ў выніку русіфікатарскай рэформы 1933 г. народна-песенны лад.

І трэба адмовіцца ад таго, каб набліжаць беларускую мову да іншых. Наша мова дастаткова багатая для таго, каб развівацца самастойна.

---

назначна адносіць да беларускіх зямель.

Вялікае навуковае значэнне маюць і іншыя знаходкі і адкрыцці аўтара. Адзначым дасканалае навуковае даследаванне паходжання назваў «Русь Белая», «Русь Чорная» і «Літва». Блытаніна ў гістарычных паняццях, атаясамліванне назваў «Літва», «літвіны» з сучаснымі летувісамі мелі вельмі цяжкія вынікі для Беларусі. У сувязі з гэтым заслугоўвае ўвагі і, можа, нават шырокага абмеркавання грамадскасцю прапанова вучонага аб пераглядзе назвы рэспублікі («Литвино-Белорусская республика», або «Республика Литвобеларусь»).

Зробім і яшчэ некаторыя заўвагі. Перш-наперш яны тычацца выдавецтва «Навука і тэхніка». Безумоўна, рэцэнзент не такі ўжо наіўны чалавек, каб ад нашых друкароў патрабаваць выданняў, якія б з'яўляліся поўнай імітацыяй арыгіналу аж да матэрыяла, на якім зроблена карта (што загніваючы капіталізм робіць паспяхова і ўжо даўно). Няма ў іх і сучаснай высакаякаснай рэпрадукцыйнай тэхнікі і матэрыялаў, каб імітаваць арыгінал з захаваннем яго колераў і графікі. Але ж зрабіць якаснае аднаколернае ўзнаўленне асноўнага зместу арыгінала з захаваннем графічных асаблівасцей яны маглі б, калі б прыклалі рукі. Але не прыклалі і не зрабілі. Хто падлічыць, колькі патэнцыяльных даследчыкаў і чытачоў адпудзіла такая неахайнасць?

Трэба было б таксама дадаць да выдання навукова-даведачны апарат, у які ўключыць, напрыклад, слоўнік старых геаграфічных назваў, каментарыі пра складальнікаў карт і прызначэнне картаграфічных твораў і г. д. Паколькі публікацыя разлічана на «митингующих и глаголящих», г. зн. на масавага чытача, не былі б залішнімі тлумачэнні найбольш папулярных і даступных прыёмаў працы з гістарычнай картай.

І ў заключэнне скажам, што вялікія патэнцыяльныя магчымасці старых карт для вывучэння айчыннай гісторыі неаспрэчныя. Таму трэба і нам у рэспубліцы развіваць гэту галіну навукі. І пачынаць трэба з пошукаў і ўліку захаваных картаграфічных матэрыялаў па нашай тэрыторыі.

**Э. САВІЦКІ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

---

# Ядвіга БЯГАНСКАЯ

3 красавіка 1992 года памерла вядомая дзіцячая пісьменніца, празаік, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Ядвіга Іосіфаўна Бяганская.

Ядвіга Іосіфаўна Бяганская нарадзілася 29 лютага 1908 года ў горадзе Улан-Удэ (Бурацкая АССР) у сям'і чыгуначніка. Разам з бацькамі ў 1922 годзе пераехала ў Мінск. Скончыўшы Беларускі дзяржаўны універсітэт, працавала выкладчыцай рускай і беларускай моваў і літаратур у школах Мінска. Далейшы лёс Ядвігі Бяганскай склаўся вельмі цяжка — у 1937 годзе яна была беспадстаўна рэпрэсіравана сталінскім рэжымам і доўгія гады мусіла прабыць на Далёкай Поўначы. Толькі ў 1948 годзе вярнулася ў Беларусь. Працавала рэдактарам перадач для дзяцей і юнацтва на Беларускім радыё і актыўна ўдзельнічала ў літаратурна-грамадскім жыцці.

З першымі творамі дэбютавала ў друку ў 1926 годзе. Асабліва плённая літаратурная дзейнасць Ядвігі Бяганскай разгарнулася ў пасляваенны час.



Важкі яе ўклад у літаратуру для дзяцей і юнацтва. Яна — аўтар многіх празаічных кніг для дзяцей: «Далёка на поўначы» (1954), «Жэнеў галубок» (1958), «Сустрэча з морам» (1962), «Зосіна зорачка» (1965), «Кожны марыць стаць Калумбам» (1968), «Над ракой Шушай» (1977), «Нечаканая сустрэча» (1979) і іншых.

Значныя дасягненні Ядвігі Бяганскай і ў галіне перакладу з польскай і славацкай моваў. З польскай мовы пераклала творы Б. Ясенскага, Г. Мушынскай-Гофман, Я. Корчака, Г. Бахляровай, А. Багдая, Э. Ажэшкі і іншых, са славацкай — У. Мінача, Я. Ярункавай, Я. Грушоўскага і іншых.

Ядвіга Бяганская адказна ставілася да літаратурнай працы, надавала высокае значэнне слову ў справе выхавання чалавека-грамадзяніна. Шчырую і глыбокую любоў да Радзімы, веру ў будучыню беларусаў пісьменніца пранесла праз усё сваё нялёгкае, поўнае выпрабаванняў жыццё і эмацыянальна, цікава перадала гэтае святое пачуццё ў кнігах.

У Ядвігі Іосіфаўны Бяганскай была добрая і шчодрая душа. Яе светлы вобраз назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны смерці пісьменніцы Ядвігі БЯГАНСКАЙ і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыцы.**

---

# ШАЎЧЭНКА, БАГДАНОВІЧ...

У снежні мінулага года ўкраінцы адзначылі сотую гадавіну з дня нараджэння Максіма Багдановіча — публікацыямі ў перыёдыцы, юбілейным вечарам у кіеўскім Доме літаратара. Аднак сталася так, што духоўны цэнтр заходняй Украіны Львоў з-за пэўных палітычных абставін не змог своечасова правесці ўшанаванне класіка беларускай літаратуры. Таму вырашана было спалучыць святы двух геніяў братніх народаў — дзень нараджэння Шаўчэнкі і юбілей Багдановіча, перанёсшы багдановічаўскія ўрачыстасці на першую палову сёлетняга сакавіка. Зрэшты, для гэтага былі ўсе аб'ектыўныя падставы: Багдановіч — адзін з самых таленавітых перакладчыкаў і даследчыкаў Шаўчэнкі.

Па запрашэнні ўкраінскіх сяброў у Львоў выязджала група беларускіх пісьменнікаў, якія маюць самае непасрэднае дачыненне да мацавання беларуска-ўкраінскіх літаратурных кантактаў, — Таццяна Кабржыцкая, Сяргей Законнікаў, Сяргей Панізнік і аўтар гэтых радкоў. 178-ю гадавіну з дня нараджэння Кабзара літаратурны Львоў адзначыў урачыстым вечарам у Львоўскім дзяржаўным тэатры оперы і балета імя І. Франка. Вёў гэты першы ў незалежнай Украіне шаўчэнкаўскі вечар лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Украіны імя Т. Шаўчэнкі, народны дэпутат Раман Іванычук. Перад агромністым, у авальным вянку, партрэтам Шаўчэнкі на задніку опернай сцэны выступілі старшыня Львоўскага аблвыканкома, народны дэпутат Вячаслаў Чарнавіл, пісьменніца Ніна Бічуя, народны мастак Эмануіл Міско, львоўскія паэты Міхайла Асадчы, Марыя Шунь, Багдан Стэльмах. Прачулае слова пра Шаўчэнку сказаў С. Законнікаў. Цёпла ўспрынялі прысутныя і беларускі кніжны дарунак — «Кабзар» Т. Шаўчэнкі, якім распачалося нядаўна ў «Мастацкай літаратуры» выданне статомнай серыі «Скарбы сусветнай літаратуры».

А назаўтра, 10 сакавіка, у самай ганаровай, люстраной зале Львоўскага дзяржаўнага універсітэта імя І. Франка адбылося ўшанаванне М. Багдановіча. Навуковыя даклады львоўскіх літаратуразнаўцаў Лесі Бондар («М. Багдановіч і Л. Украінка»), Расціслава Чопіка («М. Багдановіч і І. Франко»), Наталкі Дуды («М. Багдановіч і «Руская тройца»), Міколы Старавойта («Украінскія пераклады вершаў М. Багдановіча»), Тараса Салыгі («М. Багдановіч як украіназнавец») перамяжоўваліся выступленнямі беларускіх гасцей. «Багдановічаўскія чытанні» завяршыліся лірычным акордам—паэтычнымі выступленнямі Аксаны Сенатовіч, Уладзіміра Лучука, Міколы Пятрэнкі, Івана Гушчака.

**Быў на чытаннях і сюрпрыз, які падрыхтаваў У. Лучук. Ён падараваў нам, бадай, самую арыгінальную з дасюлешніх багдановічаўскіх выданняў кніжачку — укладзеную ім і адціснутую ў той жа дзень на ратапрынце «Пагоню» Максіма Багдановіча, якую склалі арыгінал гэтага славутага верша і яго пераклады на ўкраінскую (М. Дрэй-Хмары, Яра Славутыча, Р. Лубкіўскага, У. Лучука, А. Грызуна), рускую (Б. Спрынчана) і нямецкую (Ф. Нойрайтэра) мовы, а таксама вершы І. Драча «Літоўская Пагоня ад Максіма Багдановіча», У. Лучука «Рэха Пагоні», Р. Скібы «Па матывах Багдановіча». «Багдановічаўскія чытанні» вёў старшыня Львоўскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Украіны, народны дэпутат Раман Лубкіўскі, які ў гэты ж дзень спецыяльна вярнуўся з Кіева, каб прыняць удзел ва ўшанаванні аўтара «Вянка». Вярнуўся ён ужо ў званні лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Т. Шаўчэнкі 1992 года, якая за дзень да таго была ўручана яму прэзідэнтам Украіны Л. Краўчуком.**

**Львавяне шчыра радаваліся за свайго земляка, кніга вершаў якога «Погляд вечнасці» атрымала самую ганаровую прэмію Украінскай дзяржавы. Зразумела, мы таксама далучыліся да гэтай радасці і вітанняў даўняга сябра беларускай літаратуры, яе таленавітага перакладчыка і даследчыка. На рахунку Р. Лубкіўскага — дзесяткі перакладзеных ім на ўкраінскую мову твораў беларускіх паэтаў, асобныя артыкулы пра іх творчасць, пра ўкраінска-беларускія літаратурныя сувязі. Дарэчы, цяпер ён рыхтуе да друку вялікі том паэзіі і прозы М. Багдановіча ў перакладах на ўкраінскую мову, а таксама асобны зборнік сваіх твораў пра Беларусь.**

У той і наступны дзень пабыўкі нашай «першай пісьменніцкай дэлегацыі незалежнай Беларусі ў незалежнай Украіне» (так нас называлі ўсюды з лёгкай рукі Р. Іванычука) мы сустракаліся з чытачамі і супрацоўнікамі Львоўскай навуковай бібліятэкі імя В. Стафаніка (там адкрылася цікавая багдановічаўская выстаўка), з навучэнцамі паліграфічнага вучылішча імя І. Фёдарава, рабочымі мэблевай фабрыкі, вучнямі і настаўнікамі Івана-Франкоўскай (Пустамыцкі р-н) і Ясынскай імя Памвы Бярынды (Яварыўскі р-н) сярэдніх школ. Усюды перад выступленнямі мы вывешвалі дзяржаўныя сімвалы незалежнай Беларусі — бел-чырвона-белы сцяг і Пагоню, якія прывезлі з дому. У саміх жа выступленнях, зразумела, найчасцей гучалі імёны вялікіх сыноў нашых народаў Шаўчэнкі і Багдановіча, а таксама таленавітага прадаўжальніка іх спраў, пасланца Львоўшчыны ў парламенце Украіны, сёлетняга лаўрэата Шаўчэнкаўскай прэміі Рамана Лубкіўскага...

**Вячаслаў РАГОЙША.**

---

**ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ**

# Вяртанне дадому

**Друг мой!**
**Лебедзь чорная —**
**Гэта ж нашае жыццё.**
**У ноч бяззорную**
**Мы апаўшае лісцё...**

Гэтыя, поўныя светлага суму і настальгіі ад расстання з берагамі Радзімы, радкі паэта-эмігранта Рыгора Крушыны сталі лейтматывам літаратурна-мастацкай вечарыны, якая днямі адбылася ў менскай бібліятэцы «Юнацтва».

На сустрэчу з паэзіяй беларускіх паэтаў-замежнікаў прыйшлі ў гэты вечар студэнты і выкладчыкі інстытута культуры, настаўнікі, супрацоўнікі гарадскіх бібліятэк.

Аб творчасці Наталлі Арсенневай, Ларысы Геніюш, Рыгора Крушыны і іншых паэтаў-выгнаннікаў гаварылі госці вечарыны: Ганна Сурмач, Міхась Чарняўскі, Эдуард Акулін, Ірына Марачкіна.

Гучала паэзія і музыка. Гучалі цудоўныя песні ў выкананні Вальжыны Цярэшчанкі, якая дзеля вечарыны прыехала з Гомеля і літаральна зачаравала прысутных сілай свайго незвычайнага голасу і асабістай абаяльнасцю.

Праплывалі краявіды густоўнага слайдфільма... Незаўважана праплыў і час сустрэчы. А разыходзіцца ніхто не спяшаўся. Можа, таму, што гэткія сустрэчы — рэдкая магчымасць для кожнага з нас хоць на пару гадзін вырвацца, выплысці з шэрай жыццёвай будзённасці на запаветны востраў вечнага харараства сапраўднай Паэзіі.

Трэба сказаць, што згаданая вечарына не адзіная, якая прайшла ў сценах бібліятэкі. Літаратурныя гасцёўні тут сталі добрай традыцыяй, і ў першую чаргу дзякуючы няўрымслівай энергіі і энтузіязму загадчыцы бібліятэкі Валянціны Коршакавай і яе памочніцы, супрацоўніцы Наталлі Стрыгельскай.

**Наш кар.**

Смыляць нашы душы ў агні
Крутой сатанінскай прынукі;

Ратуй ад няволі і тла,
Ад грэшнага супакаення,
Пакуль цемра зла не лягла
І зорнае льецца маленне;

Дай сілы адчуць паўнату
Нябеснага ўзнёсу і веры, —
Анёлкі святыя лятуць,
Мы іх не пускаем за дзверы..

Нясе прасвятленне Сусвет.
Спагадай дыхнулі святыні.
А ў сэрцах цяпло не жыве.
Малітвы на вуснах застылі.

## На ўлонні дзялянкі

Ажылі ў сэрцах святкі-калядкі.
Пракаціся ў ліповых саночках
Па замеценых веямі лядах,
Дзе дзяды пагублялі сарочкі.

Мо пачуеш, як стогне падлессе
Жалем,
Князем лакінутай дзеўкі.
Там калядкі шукала Алеся,
А знайшла сваю смерць неспадзеўкі.

Будуць бегчы услед ваўкалакі,
Не завыюць гайнёй — загалосяць...
Ясны месяц на ўлонне дзялянкі
Калядоўнікаў шчыра запросіць.

Там, на вышархлых сцежках ваўчыных,
Мы калядак чужых не мінаем.
Пройдзе ў белай сукенцы дзяўчына —
Мы Алесю ў той здані пазнаем.

Скуль яны,
З цёмнай пушчы, званочкі!
Мчыся мроям услед без аглядкі!
Паскідайма сарочкі з саночкаў,
Хай прымераюць іх ваўкалакі.

гэтых трох асоб ніколі не быў. А магчыма, я гэтым размовам прыдаў характар п'яных размоў, а таму аднёсся да іх несур'ёзна. Але як бы там ні было, факт застаецца фактам і я за яго нясу цяжкую маральную адказнасць, прычым катэгарычна заяўляю, што я з гэтымі асобамі ніякай ідэйнай сувязі не меў і аб іх намерах нічога не ведаў.

Мне тут ставілася пытанне аб прыналежнасці да СВБ. Катэгарычна заяўляю, як заяўляў і раней, што ні да СВБ, ні да іншых нелегальных арганізацый ці групіровак, калі такія існавалі, я не належаў і аб іх нічога не ведаю.

Ды хіба можна наогул дапусціць, каб я — чалавек, які мае 20-гадовы рэвалюцыйны стаж, чалавек, які быў непасрэдным удзельнікам амаль усіх франтоў грамадзянскай вайны, барыкадных баёў Лютаўскай рэвалюцыі, чалавек, які разам з маракамі «Аўроры», «Забіякі» і інш. караблёў, а таксама плячо ў пляча з передавымі рабочымі старога Піцера штурмаваў апошнюю цытадэль рускага імперыялізму — Зімні палац, хіба я мог дапусціць, каб я здрадзіў справе пралетарыяту?! Не і не!

За што мяне трэба пазбягаць, за што я сам сябе маральна павінен бэсціць? Гэта за маю інертнасць, за маю абыякавасць, за маю мягкацеласць, за тое, што дарэмна траціў шмат дарагога часу, за тое, што я часта за вакном свету не бачыў. Праўда, усё гэта абумоўлена вядомымі прычынамі. Прычыны гэтыя наступныя: вярнуўшыся 10 жніўня 1921 г. у БССР з франтоў імперыялістычнай і грамадзянскай вайны фізічна стомлены, я не застаў ў жывых бацьку (маці раней памерла), двух братоў, забітых на фронце грамадзянскай вайны, і сястры. Я застаўся амаль зусім адзінокім (з родных у жывых толькі адна сястра). Неабходна была кампенсацыя страчанага. Я пачаў шукаць сяброўства, я пачаў шукаць маральнай падтрымкі. Харошых сяброў — я не ведаю, ці знайшоў я іх, але харошых выпівох знаходзіў безумоўна. Гэта і ўцягнула мяне ў багему, у выніку чаго я часова апусціўся. Гавару часова, таму што апошнія 3—4 гады я ўзяў сябе ў рукі, я заняўся сур'ёзна навёрстваннем дарэмна страчанага часу. Я пачаў выхоўваць сябе культурна і палітычна, я пачаў сур'ёзна працаваць па навуковай і літаратурнай лініі. Хоць клопаты аб матэрыяльным дабрабыце сям'і, якая мне замяніла страчаную сям'ю — радню і сяброўства, патрабавалі шмат часу калі-нікалі на чарнавую работу, але я лічу, што я пачынаю расці маральна і папраўляюся фізічна.

Хоць я і блізкі быў да маральнага ўпадку, але, наколькі мне здаецца, не страціў зусім свайго я; я не скаціўся зусім у балота мяшчанскай ці абывацельскай руціны, я не паддаўся варожым Сав. уладзе ўплывам. Я застаўся; магчыма, не зусім актыўным, але затое сумленным работнікам на фронце сацыялістычнага будаўніцтва і адданым Кам. партыі і Сав. уладзе чалавекам.

У той час, калі ідзе хуткім тэмпам перабудова грамадскага, гаспадарчага і культурнага жыцця СССР і БССР на сацыялістычных пачатках, калі ад кожнага сумленнага грамадзяніна ў асобнасці і ад усёй савецкай грамадскасці ў цэлым ходам падзей патрабуецца напружанне ўсіх сіл і прыспасабленне здольнасцяў,— у гэты час не можа быць месца тым, хто яўна ці тайна перашкаджае пераможнаму сацыялістычнаму наступленню на ўсіх франтах савецкага будаўніцтва. Крокі, якія прадпрымае Кампартыя і Савецкая ўлада па перабудове грамадскага і гаспадарчага ладу, павінны сустрэць шчырую і актыўную падтрымку з боку ўсяго сумленнага, усяго адданага, усяго працаздольнага.

У гэты вялікі і адказны момант я, як частка вялізнага цэлага, даю сваё сумленнае слова змясці са свайго жыццёвага і творчага шляху ўсё, што было кепскае, я адмаўляюся ад тых памылак, якія мною дапушчаны, я хачу жыць сённяшнім днём. Я хачу актыўна працаваць на карысць пралетарскай культуры, я хачу аддаць усе свае сілы і здольнасці на будаўніцтва сацыялізму. Я з Камуністычнай партыяй, я з Савецкай уладай!



Валянцін Акудовіч

# ЭГАІЗМ

ЭСЭ

Мне кажуць (сёння я чую пра гэта з усіх бакоў), што я —найвялікшая каштоўнасць. Большая за дзяржаву, нацыю, рэлігію і, магчыма, нават самога пана Бога.

Не ведаю, можа, які іншы чалавек і з'яўляецца такой значнай цацай, толькі не я. Я не бачу асаблівай цаны ў нейкай колькасці арганікі, выдзеленай з агульнага кантэксту «жывога рэчыва» даўно набытымі нагавіцамі і зацыраваным свэдрам.

Я — гэта семдзесят кіло костак, тлушчу, цягліц і вадкасці чырвонага колеру, змешчаных у колькі там квадратных метраў бляклай скуры. Дадайце сюды трошкі нерваў, дватры хаценні, некалькі запазычаных думак... Вось і ўсё. Гэтым амаль і вычэрпваецца найменне чалавек.

А мне і згэтуль і адтуль: ты цэнтр сусвету, апірышча быцця і, зусім верагодна, ягоны сэнс.

Я торгаю вуха, ушчыкваю клуб і, як той андэрсанаўскі хлопчык, толькі не весела, а з сумам, пярэчу: «Чалавек голы».

Я ганарлівы, як засцянковы шляхцюк, але гэта ўжо занадта. Што, я сябе не ведаю? З якой-такой ласкі — найвялікшая каштоўнасць, за што такая пашана?

Магчыма, іншых гэта не цікавіць, а мяне дык надта: як раб божы стаўся самакаштоўнай цацай? Калі чалавек спрычыніўся да сэнсу быцця, чаму ссунуў на сябе гэты сэнс?

А было нават так: «І паказаўшы рукою Сваёю на вучняў Сваіх сказаў: вось маці Мая і браты Мае; бо хто будзе выконваць волю Айца Майго, Які ёсць у нябёсах, той Мне брат і сястра, і маці».

Гэта нават больш за адмаўленне ад сябе — адмаўленне ад маці дзеля прыналежнасці да ідэі.

Ідэя, сэнс і сутнасць быцця знаходзіліся па-за асобай да той пары, пакуль не ўзнікла пытанне: ці вольны чалавек у сваім зямным выбары, ці пан ён над сваімі немудрагелістымі ўчынкамі?

З гэтага пытання спакваля выспеў гуманізм.

Гуманізм — гэта чалавек, вылуплены з абалонкі трансцэндэнтнага.

Ва ўлонні гуманізму канчаткова сфармаваўся эгаізм.

Рэнесанс, справакаваны ідэяй гуманізму (ці наадварот?), паспрыяў разняволенню эгаізму, надаў яму магутны імпульс для выяўлення раней прытоенага патэнцыялу.

Сэнс чалавека — чалавек. Сам для сябе, сабою цалкам і абсалютна завершаны. Найвялікшая каштоўнасць.

Магутнейшы духоўны крызіс не змаглі стрымаць ні контррэфармацыя XVI—XVII стагоддзяў, ні камунізм XX. Зрэшты, чаму крызіс?

Напэўна, ужо сёння мы можам разглядаць гісторыю чалавецтва як эвалюцыю эгаізму. Ад інстынкту самазахавання да пабытовага эгаізму і далей праз гуманізм да самадастатковасці.

Гуманізм паступова выціскае хрысціянства, як і ўсе іншыя не-эгаістычныя канцэпцыі прысутнасці чалавека ў свеце. Апошняй ахвярай стаўся калектывізм.

На зыходзе XX стагоддзя эгаізм няўмольна датрушчвае тыя ідэі, якія яшчэ месцяцца па-за асобай. Чалавек перакуліў свет на сябе, і эгаізм заняў месца пануючай духоўнай ідэі.

Ёсць тое, што ёсць, і калі эгаізм перамог усе іншыя магчымасці быцця, то, значыць, сапраўды няма ў прасторы і часе нічога, што было б больш значным за чалавека. Значыць, і сапраўды няма нічога больш важнага за гэтыя семдзесят кіло костак, тлушчу, цягліц і вадкасці чырвонага колеру, змешчаных у колькі там метраў бляклай скуры.

Але, але... Справа ў тым, што асабіста я не хачу быць месцішчам абсалютнага сэнсу, бо не бачу ў сабе, з якога боку ні глядзеў, адпаведнага абсалюту зместу. Больш таго, з кожным днём для мяне робіцца выразнейшым разуменне канчатковай бессэнсоўнасці асобнага чалавека, якая вынікае з яго не-абавязковай прысутнасці ў жыцці.

Пакінуўшы слоўныя мудрагельствы, сфармулюем гэта гранічна проста: быў асабіста ты альбо цябе не было і ніколі не будзе — усё адно. І таму ў светапоглядным сэнсе менш за ўсё мяне цікавіць маё Я, а калі цікаўнасць усё ж такі ўзнікае, я адразу бачу, як з-пад яе покрыва вытыркаюцца рожкі эгаізму.

Я — голы чалавек на скразняках часу, і калі шукаць нешта вартае ў звязку з маёй асобай, то гэта не я сам, а мой этнас ува мне.

Я — гэта колькі там тысяч год і колькі там сотнь каленаў майго роду, і ўся мая каштоўнасць — гэта каштоўнасць скарбонкі, у якую ссыпаны скарб, набыты нястомнай працай на працягу невядома якога часу. І калі я прыходжу да высновы, што я ўсяго толькі месцішча, дзе мой этнас працягвае існаванне з усімі сваімі тысячагоддзямі і каленамі, то амаль міжволі вымаўляю: мой бог — мой этнас.

Пры ўсёй відавочнай дэкларатыўнасці гэтай тэзы, не абмінём увагай і тое, што рытарычна аблегчаная фігура хавае груваcткі падтэкст. Ён не вымоўны, як і кожны падтэкст (трансцэндэнтны бог — гэта таксама падтэкст існага)...

Мой бог, у адрозненне ад трансцэндэнтнага, мае інфарматыўны абрыс і логіку быцця. Ён вынік амаль паэтычнай метамарфозы. Рэальная гісторыя этнасу ў перспектыве часу ператвараецца ў ідэальную сутнасць. У будучым рэалістычнае мінулае набывае ідэалістычныя рысы. Падзея выкрышталізоўваецца ў міф і ў якасці міфа доўжыць сваё існаванне да верагоднамагчымай бясконцасці, вырастаючы з першапачатковага драбка ў празрыста-важкую шматгранную вежу, кожная грань якой зіхціць асобым сэнсам.

Мне любы мой бог сваёй дваістасцю, сваім сімбіёзам рэальнага і ідэальнага, але я здагадваюся, што сапраўдныя вытокі маёй любасці ў іншым. Без Яго я нішто, камяк жывога рэчыва, адзінае прызначэнне якога павялічыць аб'ём біясферы на планеце Зямля. А прыстаўшы да Яго, я сам раблюся Ім.

Этнас — гэта я, памнажаны на ўсю гісторыю майго народа. Этнас — гэта мой адзіны прытулак пасля смерці, апошняя, хай сабе і даволі ўмоўная, надзея на бессмяротнасць. Так я толькі памру, а калі ён знікне, то знікну і я.

Памерці — гэта мая натуральная функцыя, усяго толькі драма майго асабістага жыцця. Знікнуць — трагедыя.

Вось чаму мне страшэнна хочацца, каб мой этнас застаўся, бо тады застануся і я, як адна з незлічоных прычын Яго.

Я спрычыняюся сваёй матэрыяльнай сутнасцю да стварэння яго ідэалістычнай існасці і застаюся ў гэтай існасці, як казюрка ў залатым бурштыне (прыгожае параўнанне, але не дакладнае, бо застыглае, нерухомае, не пульсуе).

Мяне вабіць магчымасць тварыць творцу мяне. Трансцэндэнтны бог статычны, ён дадзенасць, завершаная і непахісная ад пачатку да канца. А мой бог — несупынны рух і памнажэнне ў часе і прасторы, ён тоесны працягласці аб'ектыўнай гісторыі. Але гэта нічога не тлумачыць у маім выбары, і я павінен сказаць, чаму мяне не задавальняе звыклы бог. Тым болей, што тая безаблічная вечнасць, якую прапануе мне Этнас, значна саступае ў прывабнасці райскаму прытулку ягонага канкурэнта.

Справа тут да смешнага празаічная — я не веру ў Яго існаванне. Я не магу даць веры існаванню бога, якога здолеў перамагчы эгаізм чалавека. Калі не бог, а чалавек найвялікшая каштоўнасць, калі семдзесят кіло гуманістычна заклапочанай арганікі крочыць наперадзе, а духоўная ідэя валачэцца за яе спіной, як цень на зыходзе дня, то мяне немагчыма пераканаць, што гэты даўжэзны цень ёсць прычына мяне, а не наадварот. Ён мяне толькі палохае, калі я часам азіраюся. І яшчэ. Бачыце, я безумоўна і адразу паверыў бы ў існаванне трансцэндэнтнага бога, каб ён намаляваў хаця б адну карціну, зрабіў скульптуру, які храм альбо вежу. Мне незразумела, як Творца з такімі эстэтычнымі здольнасцямі, з такім пачуццём гармоніі і перспектывы змог утрымацца і не паспрабаваць сябе ў дойлідстве, жывапісе ці паэзіі? Хто знаёмы з прыродай творчасці (а ў той ці іншай меры знаёмы амаль кожны), ведае, што каму дадзена тварыць, той нетварыць не можа. Аднаго гэтага мне дастаткова, каб болей чым сумнявацца ў Ягонай прысутнасці і раней і потым.

Этнас творыць несупынна. Творчасць — перадумова яго існавання. Этнас — форма, вашчына, у якую кожны з нас дадае кроплю свайго жыцця як творчага акту.

Ва ўсёй неверагодна складанай (і абсалютна нераспрацаванай) сістэме ўзаемаадносін паміж Я і Этнасам (для беларусаў да таго ж заблытанай амаль фатальна) найперш мяне цешыць магчымасць быць далучаным да духоўнай ідэі, у святле якой мой эгаізм у фанабэрыстых строях найвялікшай каштоўнасці робіцца да смешнага мізэрным, дробненькім і ўвогуле чэзне. Бо гэтаксама як трансцэндэнтнаму богу, я не магу даць веры гуманізму, з-пад квяцаста размаляванай маскі якога выглядае бляклая пыса панылай экзістэнцыі.

Экзістэнцыялізм (светапогляд, філасофія, мастацтва) — гэта жах сямідзесяці кіло жывога рэчыва перад сваёй бессэнсоўнасцю. Вылучаны з агульнага кантэксту этнасу, завершаны, сам-насам, чалавек — безумоўна абсурд. Ён мае сутнасць, але пазбаўлены сэнсу. Шматлікія спробы на падставе сутнасці чалавека вызначыць ягоны сэнс не могуць весці да поспеху, бо няможна знайсці тое, чаго няма.

Папярэднія экзістэнцыялізму філасофіі, за вынятказ этыкі, не звярталі ўвагу на асобу, бо выразна ўсведамлялі неістотнасць яе існавання.

Сам-насам я — ніхто, адно вось гэтая панылая пыса, засяроджаная на двух-трох эгаістычных хаценнях, а з этнасам у сэрцы я — ягонае сэрца, якое б'ецца ўва мне. Я — жывое сэрца міфа, які стварыў мяне, і ніякай каштоўнасці ўва мне няма і не магло б быць, каб праз мяне не працякала плынь вечнасці майго этнасу.

Зрэшты, гэта — патэтыка, спроба вымавіць невымоўнае, падтэкст. І не варта засяроджвацца на марнай справе. У звязку з развагамі пра эгаізм і этнас мяне цікавіць зусім іншае. Этнас — вынік збегу гістарычных акалічнасцей ці непазбежнасць, прадумоўленая нейкім сэнсам? Гэта важна. Бо ў першым выпадку ён мог і не быць, на ягоным месцы мог быць іншы. У другім — ён, акрамя сэнсу самадастатковасці, мае яшчэ нешта і тады ў этнасу з'яўляецца пазагістарычная ідэя. А ў мяне — магчымасць пазбегнуць рыторыкі, калі я гавару: мой бог — мой этнас.

САМАДЗЕЙНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

# ДАРУЙ, «СЕННІЦА»...

## Замест юбілейнага віншавання



У віхуры народнага танца.

Фота У. ПАНАДЫ.

Дык ужо не крыўдуй, спадарыня «Сенніца», на словы невіншавальныя. Але ж лімавец лімаўцам не будзе, калі змоўчыць пра высновы свае мімавольныя. Аднак спачатку, як паўтараў вядомы спікер аднаго парламента, «я вам па-добраму скажу».

Гэта добра, што, не пашкадаваўшы суботняга дня, мы выправіліся з Мінска ў калгас імя М. Гастэлы, адшукалі дыхтоўны Палац культуры, падзівіліся на свята, наладжанае ў гонар 20-годдзя народнага ансамбля танца «Сенніца», якім кіруе шаноўны спадар І. Чарняк. Прыемна было бачыць і на сцэне, і ў зале шчырыя, натхнёныя твары людзей, паяднаных святочным настроем. Узрушаных патрыятычным, ці дакладней, гарачым сваяцкім пачуццём да віноўніка ўрачыстасцей, з якім так або інакш звязаны лёс ці не кожнай тутэйшай сям'і. Як важна, што ў «Сенніцы» жыве дух пераемнасці пакаленняў: у канцэрце ўдзельнічаў і дзіцячы калектыў (кіруе гэтым своеасаблівым «танцавальным пітомнікам» таксама І. Чарняк).

Танцоры-салісты, асабліва зухаватыя малойцы, уразілі імпэтам і тэхнікай выканання складаных элементаў. Музычнае суправаджэнне (кіраўнік аркестравай групы Л. Грабовіч) прывабіла тэмбравым каларытам: цымбалы, кларнет, скрыпка, гармонікі, барабан, бубен, бас-гітара... Вакальная група абаяльная. А салістка Н. Мурашка прыемным сапрана парадавала і чысцінёй інтанацыі.

Ці не самым арыгінальным нумарам праграмы падалася харэаграфічная карцінка «Дзятлы» (пастаноўка І. Чарняка) — эфектная рытмічная кампазіцыя, гэткае «беларускае фламенка» для мужчынскай групы ансамбля. І публіка наладзіла сапраўдную авацыю з узрушанымі воклічамі. Але гэта была толькі прэлюдыя: вітаючы сюіту рускіх танцаў, зала літаральна раўла...

Вялікадушная беларусачка «Сенніца»! Дзякуй, што не абмінула творчасць братоў-славян, уключыўшы ў рэпертуар песні ды танцы рускія, украінскія. «Выйду на улицу», «Уж ты, бабочка, бабёночка моя», «Роза белорозовая», «На гулянье», «Вареники» і г. д. А ці не замнога для праграмы ў адным аддзяленні? Магло б з поспехам прагучаць і штосьць польскае, яўрэйскае, літоўскае, татарскае, латгальскае, цыганскае, га?

Ведаеш, руплівіца «Сенніца», юбілей твой — як адбітак праўдзівы ў люстэрку. Пабачылі мы акурат люстраны адбітак таго, што адбылося з намі ўсімі, з нашай культурай, з менталітэтам беларускім, са свядомасцю агульнай нашай чалавечай. Што ў люстэрку? Дробязі, дробязі... Дробязі?

Рускамоўныя шыльды на будынках заможнага беларускага калгаса ў паўгадзіне язды ад сталіцы. Спехам, без надзённага тэкставага каментарыя, аформленыя да 20-годдзя «Сенніцы» стэнды ў фае палаца — з фотасюжэтамі ў духу паказушна-застойных часоў і гэткімі ж дыпломамі ды граматамі, накшталт «за поспехі ў камуністычным выхаванні». «Программа отчетного концерта». Песенька, пад фанаграму якой праходзіў пралог: «Мы на свет родились, чтобы радостно жить... Давайте устроим большой хоровод...» Цымбалы ды скрыпка ў партытуры рускага танца, расейская частушка ў кампазіцыі «Жаніцьба Цярэшкі»...

Даруй, даруй, гасцінная спадарыня. Мы не наўмысна прыкмецілі сіндром «совковости» ды «ментальнай трасянкі», які ў недалёкія часы лічыўся адзнакай узаемапранікнення культур...

Шчыра працуеш, «Сенніца». За тое — дзякуй. І замежныя паездкі ў цябе — сур'ёзнае дасягненне: Польшча, Венгрыя, Германія, Італія, Нарвегія... Ну а што ж твае куратары кампетэнтныя — чаму не падкажуць сцежку ад «мастацкай самадзейнасці» да адраджэння спракавечных формаў народнага мастацтва?

Даруй, не разумею місію тваіх адукаваных начальнікаў ад культуры. На іх «паказальныя выступленні» я ў той вечар таксама падзівіўся. Загадчыца аддзела культуры Мінрайвыканкома, павітаўшы ансамбль па-руску, пасля беларускамоўнага выступлення начальніка ўпраўлення культуры Мінаблвыканкома хуценька пераладзілася таксама на беларускую, пасля чаго наступны прамоўца, спецыяліст з Міністэрства культуры, відаць, так зніякавеў, што, выгукнуўшы дзяжурнае: «Уважаемые товарищи!», урэшце пажадаў удзельнікам калектыву «большого личного здоровья».

Усміхніся, «Сенніца»! Ты маладая. У тваіх традыцый — здаровая аснова, любоў да мастацтва. А дарога да Адраджэння адкрытая ўсім.

...У абвестцы юбілейнага канцэрта мастак намаляваў слова «народны» ў двукоссі. Будзем лічыць, што ён памыліўся.

**ЛІМАВЕЦ.**

НА МУЗЫЧНАЙ СЦЭНЕ

# ЗНАЧЫЦЬ ГЭТА КАМУСЬЦІ ТРЭБА...

Яна раздражняе і ўлагоджвае, з яе пакепліваюць і ёю захапляюцца. Сама згадка пра яе падзяляе людзей на «за» і «супраць». Значыць, і праўда ёсць у ёй «нешта».

Што?

— Пошлая, легкадумная, і ва ўсмешцы ў яе штось вульгарнае. А вочы, вочы — ну хоць бы іскрынка розуму! І хто яе толькі пусціў у шляхетны свет?

— Гарэзлівая, дасціпная, і ўсмешка яе заўжды загадкавая. А ў вачах столькі прастадушнай шчырасці! Нездарма знаходзяць у ёй «нешта» менавіта людзі, якім не адмовіш у выхаванасці густу!

...І вось так усё яе амаль двухвяковае жыццё: любяць адны і знацца не хочуць другія. А яна, аперэта, застаецца сама сабой. Яна... — тут вы можаце вярнуцца да першага радка гэтага тэксту і чытаць спачатку. Зрэшты, усё гэта вам ужо вядома, так што чытайце далей. Хоць і далей я не абяцаю сенсацый, бо саму сенсацыйную навіну — аперэту «пусцілі» на сцэну Акадэмічнага тэатра оперы і балета Беларусі! — вы таксама ведаеце.

Ну, «пусцілі». І што?

А тое, што для многіх добрую справу зрабілі. Для публікі, якая, нягледзячы ні на што (а мо насуперак таму, што), памкнулася да жывога гучання прыгожай музыкі, да цяпельца жывога чалавечага голасу, да ўтульнага паўзмроку партэра і ўрачыстага ззяння рампы, да шчырасці ўсмешак і авацый... Для артыстаў, у якіх праблем не меней, чым у людзей з залы, але якім таксама захацелася пачуццяў не штодзённых і радасных. Для тэатральнай касы, ля якой прэм'ера «На нашай сцэне — аперэта» выклікала рух зацікаўленых гледачоў.

Нават для зануды, якому б толькі пабурчаць, надарылася добрая нагода. Хай сабе бурчыць на здароўе. І пра тое, што ўжо была ў біяграфіі беларускага опернага такая старонка ганебная, калі сіламі артыстаў акадэмічнай сцэны ладзіліся пастаноўкі хоць і класічных, але аперэт (цалкам!). І пра тое, што не да бяздумнай весялосці ў нашы несвяточныя дзянькі...

А для таго, хто любіць розныя там «філасофствы», ёсць падстава ўспомніць мудрацоў: «свет ацалеў таму, што смяяўся», «не загіне горад, у якога ёсць свята» ды іншыя высновы. У тым ліку біблейскую наконт аднаго з цяжкіх грахоў — «уныния».

Ой! Здаецца, я пачынаю пераконваць вас у тым, што аперэта на опернай сцэне — гэта панацэя ад усіх нашых грамадска-палітычных ды сацыяльна-культурных балячак. Не, канечне. І перад прэм'ерай спектакля-балю, ажыццёўленага, як вядома, дзякуючы ініцыятывеапернікаў, падтрыманай энтузіястамі з Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі, настрой у мяне быў нават скептычны. Але потым...

Потым само відовішча нейтралізавала і той скепсіс, і тую адмоўную энергію, што нябачным шлейфам цягнецца за кожным, нават зычлівым чалавекам, калі ён пабываў у ролях пакупніка, пасажыра гарадскога транспарту, наведніка сталоўкі ці проста наслухаўся радыёінфармацыі.

Ніводнай нядобрай эмоцыі за вечар! І не падумайце, што ўсё на сцэне было бездакорна. Не ўсё. Але само разбурэнне стэрэатыпаў выклікала цікаўнасць. Забаўляла, кранала, весяліла, правакавала на воплескі тое нават, што звычайна выклікае незадаволенасць і раздражненне. Вакальныя агрэхі некаторых салістаў, напрыклад, або іхняя нязграбная сарамяжлівасць у руху. Ці пластычная неахайнасць кардэбалету... Былі хібы, ды засяроджваць увагу на іх не хочацца. З большай ахвотай пагаварыла б я пра вартасці гэтага двухактовага прадстаўлення, складзенага з фрагментаў класічных твораў І. Штрауса, І. Кальмана, Ж. Афенбаха, Ф. Легара, Ф. Лоу, І. Дунаеўскага, Д. Абрахама.

Нечакана і эфектна, узнімаючы бакалы, прайшлі паўз партэр на сцэну ўсе ўдзельнікі «балю», падтрымаўшы славуты тост Арлоўскага (Ю. Бастрыкаў) з «Лятучай мышы» І. Штрауса.



Вольга Цішына — Перыкола.

Раскошная музыка І. Кальмана дала магчымасць па-новаму раскрыцца галасам Н. Казловай ды М. Маісеенкі (дуэт з «Сільвы»), Н. Губскай (песня Марыцы) і В. Скорабагатава, у чыім выкананні арыя містэра Ікс набыла выразнае драматычнае напаўненне і сталася адным з самых перакапальных па-акцёрску і музычна ўражлівых вобразаў усёй гэтай густанаселенай прэм'еры.

Сапраўднай гераіняй выглядала Н. Галеева ў сцэне з «Вясёлай удавы». А калі пад гукі песенькі з «Марціна-рудакопа» К. Цэлера нетаропка і загадкава выйшла з левай кулісы Н. Руднева і заспявала сваім высакародным голасам, на хвіліну здалося, што гэта... велічная постаць А. Абразцовай з'явілася на нашы вочы.

Заўсёды такая крохкая, адухоўленая, незямная Н. Кастэнка здзівіла смелым пераўвасабленнем у хуліганістую Пепіту-«чарцяня» з «Вольнага ветру». А чарадзейная весялосць В. Цішынай — Перыколы! А наіўна-лірычны саладкагалосы Фрэдзі, увасоблены М. Грыгорчыкам!



Зінаіда Вяржбіцкая ды Герман Казлоў

Калі б тое быў звычайны канцэрт, многім, многім артыстам давялося б выходзіць на «біс». Ва ўсякім разе, гледачы адбілі далоні, вітаючы непаўторныя дуэты: А. Крайнікава — А. Ранцанц (адметная каскадная пара, яны са смакам і з пачуццём меры сыгралі сцэну з «Жаніхоў» І. Дунаеўскага); Л. Лют — Д. Цітушкін («завадныя» Мабель ды Тоні з «Прынцэсы цырка»); З. Вяржбіцкая — Г. Казлоў (абаяльныя Ларыса ды Яшка з «Белай акацыі»); І. Журко — Р. Палішчук (тэмпераментная маладая Марыца ды гэткі ж малады й камічны Зупан)...

Шматкроп'е трактуйце, як хочаце. Але пасля яго я абавязкова назаву яшчэ некалькі прозвішчаў. Дырыжоры А. Анісімаў ды С. Бурак, хормайстар Н. Ламановіч — дзякуючы ім ажылі лепшыя старонкі музыкі, якая дадала прыемныя і пікантныя штрыхі да рэпертуарнага аблічча ДАВТа. Мастачка Л. Ганчарова — яна амаль «з нічога» стварыла маляўнічае і густоўнае ўбранне сцэны. Балетмайстры С. Дрэчын ды А. Рымашэўскі — ім хапіла клопату, асабліва з артыстамі ДАВТа. Вядучая Т. Цівунова ды Г. Казлоў — яны «задавалі тон», чыталі вершаваныя звязкі-застаўкі А. Вольскага. І рэжысёр С. Штэйн — ён правёў стракатую чараду герояў аперэт ды мюзіклаў да апафеозу,



Марат Грыгорчык у вобразе Фрэдзі. Фота А. ХАРКОВА.

дзе ўсіх іх зноў сабрала на балі «Лятучая мыш».

Прэм'ера «На нашай сцэне — аперэта» прайшла ўжо тройчы. Кажуць, будзе і чацвёрты паказ, напрыканцы сезона.

Кажуць, у гэтым відовішчы, якое захоўвае прастору для пастановачнай імправізацыі, будзе нешта новенькае. Кажуць, зноў скрывіліся снобы ды скептыкі: «А каму гэта трэба?»

На такое звышканкрэтнае і катэгарычнае пытанне я не магу адказаць трапным антычным афарызмам. Таму скажу амаль з упэўненасцю вядомага паэта: «Паслухайце! Калі «зоркі» аперэты запальваюць на оперным небасхіле, значыць гэта камусьці трэба!»

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

# Цырк яднаецца з тэатрам

**У Рускім драматычным тэатры адбылася прэм'ера дзіцячай казкі, цікавай, вясёлай і сучаснай — «Жылі-былі дурні». Напісаў п'есу і ажыццявіў пастаноўку артыст цырка Аляксандр Осіпаў.**

**— Саша, ва ўсіх рэкламах спектакля ўжо неаднаразова было абвешчана, што вы «сапраўдны клоун, які прыдумаў і паставіў спектакль «Жылі-былі дурні». Пачнём з адваротнага: «Што ў спектаклі не атрымалася?»**

— Шмат што. Як кажуць амерыканцы, «шоу ці ёсць, ці няма». Так вось, у нас яго, на жаль, няма. А задум было... Марылі, каб спектакль пачынаўся ад дзвярэй, каб дзеці, якія прыйшлі, атрымалі не звычайную праграмку, а кніжку-размалёўку з героямі спектакля, каб у фінале са сцэны паляцелі прыгожыя, рознакаляровыя мыльныя бурбалкі — «мільён» бурбалак... Вядома, пажадана было, каб спектакль быў больш дынамічны, але ж узровень падрыхтоўкі драматычных акцёраў не самы высокі, таму, напрыклад, усе танцавальныя рухі я спрасціў. А папраўдзе, спектакль атрымаўся толькі дзякуючы намаганням акцёраў. Глядзіце самі. Сёй-той рэквізіт мы атрымалі ў дзень прэм'еры, сцэну — таксама ў апошні момант. Вось і спектакль ідзе няроўна — дзень добра, дзень нядобра.



«Жылі-былі дурні» А. Осіпава. Сцэна са спектакля.
Фота А. КАЛЯДЫ.

**— Безумоўна, драматычнаму акцёру цяжка існаваць у нязвыклых для яго абставінах — клаунада, рэпрызы, трукі...**

— Цяжка — не тое слова. Пасля першай рэпетыцыі я вельмі засмуціўся — думаў нічога не атрымаецца. Клаунада ж — найскладаны жанр, яшчэ Феліні казаў: «Мастацтва клаунады — вышэйшая ступень акцёрскага майстэрства». Але мне здаецца, акцёрам было цікава і, урэшце, нешта атрымалася. Пашчасціла, што разам са мной працавалі кампазітар Аляксей Шадзько, таленавіты мастак Таццяна Юркова, — яны адразу ўспрынялі маю задуму.

**— Вы хутка з'едзеце... А ці не хвалюецеся, што спектакль можа, як кажуць, «разваліцца»?**

— Хто ведае... Галоўнае ж — пачуццё меры, а магчымасцей для акцёраў у гэтым спектаклі шмат.

**— У вашым спектаклі абсалютна мужчынскі склад. А ці не сумавалі без жанчын?**

— А як, па-вашаму, павінен быў называцца спектакль — «Жылі-былі дурні і дурніцы»? Не, гэта я жартую.

**— Сапраўды, пытанне няўдалае. Але пойдзем далей. Гэта ваш першы спектакль у драматычным тэатры. Ці выступіць яшчэ калі-небудзь клоун Аляксандр Осіпаў у ролі рэжысёра-пастаноўшчыка?**

— Не ведаю, як усё будзе складацца. Ідэі ёсць, але ж кожны павінен займацца сваёй справай. А ў тэатры наогул мне спадабалася. Хачу верыць, што і ў Рускім тэатры ў сувязі з гэтым спектаклем узнік добры настрой — хадзілі па закуліссю нейкія смешныя людзі з вялізнымі насамі, у блазенскім адзенні...

**— Саша, я з вамі размаўляю і бачу: нейкі вы невясёлы, вочы сумныя...**

На гэтую «правакацыю» Саша адрэагаваў са смехам і адказаў:

— Не ўсё і ў нас, клоунаў, добра. Вось дзяржава развалілася, і цырк, у якім я працаваў, таксама. Але нам, артыстам цырка, не трэба да рынку прынараўлівацца, бо нас ніхто ніколі не фінансаваў— самі зараблялі на жыццё...

Гутарку вяла
**Наталля ЗЕМЛЯКОВА.**

**Ідучы пасля размовы па калідорах закуліснай часткі Рускага тэатра, сустрэла некага «прыгожа-страшэннага» — нязграбны, размаляваны і вельмі ж вясёлы. Ледзь пазнала — заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Шэлестаў. Цікава...**

# ВОДСВЕТ АДВЕЧНЫХ СЮЖЭТАЎ

## Літаратура і кінематограф: на памежжы

**Пра адносіны Кузьмы Чорнага да кіно вядома мала. Але некаторыя яго творы моцна нагадваюць кінасцэнарыі. Сінема і тады ўжо ўплывала на літаратуру. У творах празаіка мінімум апісальнасці. Выразная маляўнічасць, дынамізм, лаканізм, а галоўнае — чорнаўскі псіхалагізм і філасафізм здольныя захапіць уяўленне кінарэжысёра. Аднак сцэнарыяў пакуль што больш, чым ахвочых да іх пастаноўшчыкаў...**

Фільм рэжысёра Віталя Шувагіна «Ноч пры дарозе» пастаўлены па матывах аднайменнага апавядання Чорнага, — здаецца, гэта першая спроба кінематаграфічнага прачытання выдатнага пісьменніка. Мабыць, патрэбны той лішак упэўненасці ў сабе, уласцівы пачаткоўцу, каб узяцца за такую складаную задачу. Чорнаўскую сімволіку цяжка зразумець неспакушанаму аўтару. Аднак фільм атрымаў на мінулых «Кінакалядках» прыз глядацкіх сімпатый, прыз кінакрытыкаў і варты пільнай увагі. Цікавяць не толькі знаходкі і зразумелыя страты стваральнікаў (у іх усё яшчэ наперадзе), а некаторыя агульныя праблемы ўзаемаадносін літаратуры і кіно, кіно і нацыянальнага Адраджэння.

Літаратурная аснова, як вядома, шмат у чым вызначае жанравае вырашэнне задумы. І падзагаловак «Па матывах твораў К. Чорнага...» не ратуе ад магчымых папрокаў у празмернай адвольнасці кінатрактоўкі. З першых кадраў можна зразумець: аўтары пераносяць на экран батлейку. Дакладна ўзноўлены ўсе яе атрыбуты: хатка-скрынка з двума ярусамі-сцэнамі, лялькі, якія разыгрываюць перад гледачамі з глухіх беларускіх вёсак «Цара Ірада».

Спектакль, няцяжка здагадацца, з падтэкстам. Падзеі рэвалюцыі і калектывізацыі ацэньваюцца ў біблейскім плане: гэта «ў дні цара Ірада» адбывалася «избиение младенцев». Сляды спусташэння на шляху вандроўных актораў, старога і, адчуваецца, сагнутага нейкай уласнай бядой Уласа (Г. Гарбук) і маладзейшага ахвотніка ўхапіць тое, што дрэнна ляжыць, Кузьмы (Я. Пятроў), кінакамера выхоплівае тут і там: пажарышча на месцы сялянскай сядзібы; абоз бежанцаў з іх вартым жалю набыткам; абгрызеная чалавечая косць у воўчай яме-пастцы (аператар В. Швяцоў)... Зразумелы смутак у вачах Уласа, які, вядома ж, не па свайму жаданню вандруе з батлеечнай скрынкай за плячыма. Хто-хто, а непараўнаны Г. Гарбук умее такое перадаць! Як зразумелы і спалох на твары поўнага энергіі і прагі жыць Кузьмы: ён не прымае маўклівы стаіцызм старэйшага калегі, і яго вочы бегаюць-шукаюць хоць які выхад з тупіка, у які заганяе жыццё.

Ці дае творчасць і, у прыватнасці, апавяданне «Ноч пры дарозе» Чорнага падставы для такога прачытання? Мы ведаем Чорнага — цудоўнага знаўцу сялянскага побыту, псіхалогіі мужыка-беларуса. Гэты бок яго творчасці не абыдзены ўвагай ў фільме, дзе ёсць і гаспадарчыя клопаты хутараніна Рыжага (С. Марозаў), мянушка якога, у адпаведнасці з народнымі прыкметамі, сімвалізуе няўрымслівасць натуры і раптоўнасць учынкаў, і вечнае калыханне зялёнага багавіння ў рачулцы, што нагадвае пра неразгаданую таямнічасць быцця (тут не толькі аўтары фільма, а сам Чорны перагукаецца з вядомымі кадрамі з «Салярыса» А. Таркоўскага). Куды менш мы ведаем Чорнага — філосафа «беларускага шляху», які не толькі пісаў «мастацкую гісторыю беларускага народа», пачынаючы з часоў паншчыны, але і шмат разважаў над тым, што адбываецца з душой народа, як выяўляюцца трагічныя падзеі XX ст. у нацыянальным характары.

Канкрэтна ў названым апавяданні няма нічога з таго, што льга было б назваць біблейскай вобразнасцю. Пільшчыкі Улас і Кузьма бадзяюцца ад вёскі да вёскі ў пошуках працы — вандроўкі ліцадзеяў з іх рэлігійна-фальклорным рэпертуарам у часы «вялікага пералому» былі немагчымыя: таталітарная дзяржава ўсё ўзяла пад кантроль. Але «вечныя праблемы», якія заўсёды памастацку асэнсоўваў Чорны, пераводзяць «свецкі» сюжэт з ніжняга яруса на верхні, дзе разыгрываюцца духоўныя драмы. Заўважу, што ў іншых творах Чорнага водсвет біблейскіх сюжэтаў больш выяўны. На жаль, гэты бок яго творчасці пакуль што не вывучаўся.

У назве апавядання Чорнага і фільма В. Шувагіна ёсць словы, алегарычны сэнс якіх прачытваецца не адразу. Дарога, скрыжаванне асэнсоўваюцца празаікам як шлях народа на сваю Галгофу, праз пакуты да духоўнага ўваскрошання. Урэшце гэта шлях самога Чорнага, які прайшоў праз усе выпрабаванні, што выпалі на долю беларускай інтэлігенцыі. Яму выпала жыць у «начную эпоху» (заўважце: «Ноч пры дарозе»!), калі вольна адчувалі сябе толькі «пасланцы д'ябла» — так званыя новыя людзі. У фільме гэта камуніст Старшы (А. Ткачонак) і камсамолец Камса (С. Журкоўскі), у якіх замест імёнаў — мянушкі: яны — «плакатныя» героі часу. Такімі паказаны і ў кінакарціне. Алегарычнае ўвасабленне зла і цемры, якія спусціліся над краем, яны тым не менш з'яўляюцца віноўнікамі людскіх драм: дачкі гаспадара хутара Ядвігі (А. Юрчанкава), самога гаспадара, які, пачуўшы пра раскулачванне, спаліў сябе і сваю хату, Уласа, у якога Старшы адабраў жонку, а сына Камсу выхаваў у «партыйным» духу, Кузьмы, якога спакусілі абяцаннем лёгкай жыткі, безымяннага хлопчыка-бадзягі (К. Січкар), які застаўся па іх віне бяздомным бязбацькавічам.

У творчасці Чорнага можна адшукаць адпаведныя вобразы і сюжэтныя павароты. Аднак гэтыя праявы савецкай эпохі празаікам асэнсоўваліся як трагедыя народа. Маладыя аўтары фільма гэта разумеюць, але на практыцы часта схіляюцца ўсё ж да меладрамы, з уласцівымі ёй «ракавымі страсцямі» і піратэхнікай — гэтымі штучнымі туманамі і панарамнымі здымкамі. Між тым створаныя Г. Гарбуком, Я. Пятровым, А. Юрчанкавай вобразы, праца мастака А. Чартовіча самадастатковыя, каб запасці ў памяць. Знаходкай бачыцца і тое, як рэальныя падзеі апынаюцца ў абрамленні батлеечнай скрынкі, а персанажы гістарычнай драмы ператвараюцца ў лялек з містэрыі пра сучаснага цара Ірада. Вусцішна робіцца ад відовішча скокаў Уласа на пажарышчы. Гэта сапраўды «Скокі на могілках», як некалі назваў свой верш М. Чарот.

Знаходкі і страты перамяжоўваюцца і па-свойму выяўляюць стан маладога беларускага кіно. Яно, як думаецца, б'ецца над праблемай, якім чынам прарвацца з побытавай рэальнасці ў звышрэальнасць народнага быцця. Урэшце, як стварыць беларускае кінамастацтва, роўнае па мастацкай сіле нацыянальнай прозе. Уважлівае прачытанне Чорнага кінематографам здольна стаць добрай школай менавіта вобразнага асэнсавання «беларускага шляху» і пераадолець грэх палітызаванага мыслення. Проза гэтага пісьменніка адкрывае сёетое з таго, што стала адзнакай сучаснага кіно. Я ўжо казаў пра нечаканы перазоў з А. Таркоўскім. Магу назваць і моманты, якія выклікаюць асацыяцыі з драмамі ў кіно Э. Клімава, перш за ўсё імкненне да максімальнай жыццёвасці і выразнасці паказу. Кінамастацтву ёсць чаму павучыцца і ў майстроў беларускага слова.

**Міхась ТЫЧЫНА.**

# ЗАСТАЛІСЯ КНІГІ, ЗАСТАЎСЯ МУЗЕЙ...

Скончыўся жыццёвы шлях Вольгі Васільеўны Церашчатавай — першага дырэктара Музея старажытнабеларускай культуры. У няпоўныя 66 год ён умясціў вайну, пасляваеннае разбурэнне і амаль трыццаць год самаахвярнай працы ў галіне гісторыі беларускага мастацтва.

Яна была дзіцем свайго часу. У 18 год, як толькі была вызвалена ад нямецкай акупацыі яе родная Лоеўшчына, добраахвотна пайшла ў войска. Некалькі год служыла ў часцях СА ў Германіі. Звольніўшыся, кінулася назапашваць веды, паколькі разумела, як яны неабходны ў мірны час. Ужо сталаю жанчынаю скончыла Маскоўскі паліграфічны інстытут. Яе першая навуковая праца была прысвечана даваеннай беларускай кніжнай графіцы. У канцы 60-х гадоў, калі пачаўся збор і вывучэнне помнікаў старажытнага мастацтва Беларусі, кандыдат мастацтвазнаўства В. Церашчатава яшчэ раз крута памяняла свой лёс. І гэтая праца стала вызначальнаю для яе жыцця.

Узначаліўшы ў 1974 г. групу музейнага фонду, які перад гэтым быў разбураны ў выніку чарговай ідэалагічнай кампаніі супраць нацыяналізму, яна за пяць год напружанай самааддадзенай працы не толькі аднавіла акадэмічную калекцыю старажытнага мастацтва, але ўзбагаціла яе этнаграфічнымі зборамі, правяла рэстаўрацыю помнікаў, тэхнічнае і мастацкае абсталяванне памяшканняў музея. Музей старажытнабеларускай культуры, які быў адчынены ў 1979 г., па сваіх вартасцях і каштоўнасці для нашай нацыянальнай спадчыны можа быць параўнаны толькі са славутым беларускім музеем братоў Луцкевічаў.

Музейную працу, прапаганду старажытнага беларускага мастацтва В. Церашчатава спалучала з навукова-даследчай. Прыкметнай падзеяй нашага мастацтвазнаўства сталі яе грунтоўныя публікацыі ў 6-томнай «Гісторыі беларускага мастацтва» — даследаванні аб беларускай кніжнай графіцы 20—30-х гадоў і старажытным манументальным жывапісе. Гэта былі першыя публікацыі пра згаданыя віды нашага выяўленчага мастацтва. Ім папярэднічалі манаграфіі В. Церашчатавай пра графіку і манументальны жывапіс, што атрымалі шырокую вядомасць сярод спецыялістаў, усіх, хто цікавіцца роднай культурай. Нельга не прыгадаць і навуковыя канферэнцыі па старажытным мастацтве Беларусі, якія рэгулярна ладзіла В. Церашчатава ў Музеі старажытнабеларускай культуры. Публікацыі іх матэрыялаў, што выйшлі асобнымі манаграфіямі, з'явіліся свайго роду працягам навукова-даследчых прац Камісіі па гісторыі мастацтва, якія ў 20-я гады выпускаў Інбелкульт.

Лёс не даў ёй доўгага жыцця. Але засталіся кнігі, напісаныя і выдадзеныя В. Церашчатавай. Застаўся музей, у якім заўсёды будзе жыць частачка яе душы, яе няўрымслівага шчырага сэрца. І будзе жыць светлая памяць аб гэтым неардынарным чалавеку.

**Супрацоўнікі Музея старажытнабеларускай культуры.**

# Выгнаннікі сярэбранага веку

●

**Сем дзесяцігоддзяў пад забаронай, трыццаць восем гадоў у выгнанні, пазбаўленая права гаварыць са сваім народам, з незагойнаю душэўнаю траўмаю прабыла непаўторная падзвіжніца срэбнага веку рускай паэзіі Зінаіда Гіпіус.**

**Тонкі лірык, раманіст, празорлівы публіцыст, аўтар найцікавейшых мемуараў «Жывыя аблічча», літаратурны крытык, неўтаймоўны палеміст і грамадскі дзеяч—Зінаіда Мікалаеўна ў 1919 годзе была вымушана пакінуць распятую рэвалюцыйную Расію і разам з Мережкоўскім праз Варшаву і Вісбадэн перабрацца ў Францыю.**

**Гіпіус адразу ўключылася ў літаратурнае і грамадскае жыццё эміграцыі: выходзяць кнігі вершаў, прозы, у перыёдыцы друкуюцца вострыя палітычныя і літаратуразнаўчыя артыкулы. А на радзіме нават імя таленавітай паэтэсы было пад суровою забаронаю, здавалася, назаўсёды выкраслена з гісторыі айчыннай літаратуры. Пасля акупацыі Францыі фашыстамі Гіпіус заняла непрымірымую пазіцыю да гітлераўскага рэжыму, але не стала і прасавецкай.**

**Толькі ў апошнія гады імя і асобныя творы Зінаіды Гіпіус павольна вяртаюцца на радзіму. Нарэшце сёлета яе «Забытая кніга» невялікім тыражом выйшла ў Маскве і прамільгнула тоненькая брашурка ў бібліятэчцы «Огонька», ды некалькі публікацый у перыёдыцы. Найперш маю ўвагу затрымалі вершы, напісаныя ў першыя гады рэвалюцыйнага разгрому ў Бабруйску і ў Мінску, усхвалявала мудрае разуменне трагічных падзей, прадбачанне бясконцых народных пакутаў, вынішчэнне генафонду таленавіцейшай нацыі і разам з тым вера, што Расія ўсё ж некалі ўваскрэсне, устане з каленяў, выпрастаецца і стане ўпоравень з цывілізаванымі народамі. Будзем і мы спадзявацца і верыць.**

**Зінаіда Гіпіус нарадзілася 8 лістапада 1869 года ў горадзе Бялёве.—памерла 9 верасня 1945 года ў Парыжы. Усё жыццё яна прысвяціла служэнню роднай літаратуры, пакінула вялікую спадчыну ў розных жанрах. Яна чакае сваіх выдаўцоў. а чытачы — сустрэч з паэзіяй і прозай, мемуарамі і публіцыстыкай. Многія паэтычныя творы, як і верш «А. Блоку». — ад імя мужчыны. Яны сапраўды мужныя і мускулістыя.**

**Зінаіда ГІПІУС**

## А. БЛОКУ

Дзіця, страчанае ўсімі.

Усё гэта было пасля абедні,
У апошні вечар, у вясновы час...
І плакала ўтрапёная ў пярэдняй,
Чагосьці молячы у нас.

Пасля сядзелі мы пад лямпай цьмянай,
Што залаціла тонкі дым,
Блакіт за шыбаю туманнай
Здалёк здаваўся залатым.

Ты выйшаў, пастаяў ля агароджы,
З табою я пагаварыў з акна,
І вецце так сплятался прыгожа
На небе, зеляннейшым за віна.

І ты па вуліцы стракатай
Знікаў павольнаю ступой...
. . . . . . . .
Хоць і твая душа не вінавата,
Я дараваць не ў сілах ёй.

Красавік 18 г., СПБ.

## 14 СНЕЖНЯ 18 г.

Нас больш няма. Мы ўсё забылі
У дні жахлівае гульні,
І ўспамінаем, як вы стылі
У карэ, у снежаньскія дні.

Як звер жалезны, звер адметны
Усё пусціў на звод і злом.
Яго няма, а з апраметнай
Нехрыў атрутным нас крылом.

Наш конь імчаўся бездарожжам.
Куды ж яго вяла бяда?
Жахлівы лёс яго стрыножыў
У дзень апошняга суда.

На запаветах Мураўёва
Пад пылам дзён ляжыць дакор...
А Пестэль — праўдаўр суровы,
Дарэмна ты ў пятлі памёр.

Дарэмна ўсё, усё звялося,
Нас тля і чэрві апялі,
І попелу не засталося
Ад «Русской правды» на зямлі.

Снежань 18 г., СПБ.

## ТАМ І ТУТ

Там — я люблю і нешта значу
І разумею ўсіх даўно
І ашуканцаў,
Ашуканых,
Хто петлі ўе,
Хто ў петлі трапіў...
А тут нікога я не бачу,
Аднолькава мне. Усё адно.

Студзень 20 г., Бабруйск.

## УЯЎЛЕННЕ

На Смольным новенькія банты —
Чырвоны зарубежны шоўк.
Чырвонаармейскія балююць франты,
Іх лепшы момант надыйшоў.
Прагна камісарскія аманты[1]
Мараць пра часопіс мод.
Мардатыя рагочуць спекулянты,
У кожнага — па вушы рот.
Эр-Эс-Эф-ка з адаманта[2]
Адолеў пралетарскі гнеў!
Два неўтаймоўныя гіганты
Ульянаў і Бранштэйн Леў.
Завялі прыгожыя куранты
(Хто чуе крык начных распраў?)
Распрацавалі ўсе пуанты
Еўрапейскіх рэвалюцыйных спраў.
Падзешавелі і брыльянты,
З'явіўся і швейцарскі сыр...
. . . . . . . .
Што здарылася? А гэта Антанта
З бальшавікамі заключае мір.

Студзень 20 г., Мінск.

## ВОЧЫ З ЦЕМРЫ

Жахлівы сон! Пакутныя світанні! —
На раны — соль.
І што было ў абразлівым выгнанні?
Той самы боль.

Не той, не той! Імчыць яшчэ нястрымная
Лавіна дзён,
І боль — пакута неабдымная,
Жалобны звон.

Мільгаюць дні пад шэрымі аблічамі,
Ноч да відна
Гудзе то гукамі, то клічамі
З глыбіняў, — з дна...

І вочы з цемры, любыя і мілыя,
Нячутны стогн...
Як кажаны начныя, вострыкрылыя,
Мой кожны сон.

Каму пакуты вытрываць бясслёзныя
Сярод начы?
Адказ затоены, з маўклівою пагрозаю,
Ды толькі чый?

Жнівень 20 г., Варшава.

## ВЕДАЙЦЕ!

Яна не знікне — ведайце!
Яна не згіне, Расія.
Яна ўскаласіцца, — верце ёй!
Палі яе залатыя.

І мы не загінем, — верце!
Хоць што нам наша збавенне?
Расія ўратуецца — ведайце!
І блізка яе ўваскрасенне.

Снежань 18 г., СПБ.

[1] Аманты—заложнікі.

[2] Адаманцін—мінерал накшталт карунда.

●

**Славуты празаік і паэт Уладзімір Набокаў нарадзіўся ў красавіку 1899 года ў Санкт-Пецярбурзе ў сям'і юрыста і вядомага грамадскага дзеяча-ліберала. З дзяцінства будучы пісьменнік дасканала валодаў англійскаю і французскаю мовамі. Скончыў вядомае Ценішоўскае вучылішча. Пасля рэвалюцыі 1917 года з бацькамі выехаў у Крым. У Расіі выдаў два зборнікі вершаў. З 1919 года ў эміграцыі. Скончыў Кембрыджскі універсітэт, з 1926 па 1937 г. жыў у Нямеччыне і выдаў дзве кніжкі паэзіі, а ў 1926 годзе—першы раман «Машенька», следам выходзяць раманы, напісаныя на рускай і англійскай мовах. Да 1940 года творы на рускай мове Набокаў падпісваў псеўданімам В. Сирин. Чытачы і крытыка засведчылі, што ў літаратуру прыйшоў першакласны талент. Ён жыў у Францыі і Злучаных Штатах Амерыкі. У 1959 годзе пасяліўся ў невялічкім швейцарскім гарадку Мантро. Памёр Набокаў 2 ліпеня 1977 года і пахаваны на могілках Кларан. На радзіму творы Набокава вяртаюцца толькі цяпер і ўсё больш і больш заваёўваюць чытачоў.**

**Уладзімір НАБОКАЎ**

## РАССТРЭЛ

Бывае ноч: з пасцелі прама
Пачну ў Расію адплываць:
і вось вядуць мяне да ямы,
вядуць да ямы забіваць.

Апамятаюся ад гулу,
Гадзіннік спініць мой пагляд.
І ў вочы, як сляпое дула,
глядзіць зласлівасна цыферблат.

Я шыю засланію і грудзі, —
вось-вось, хвіліна, і пальне,
не ведаю, што зараз будзе,
што застанецца ад мяне.

Нібы ад жаху апантаны,
гадзіннік цікае ізноў,
і я, зняважаны і гнаны,
ратуюся ў палоне сноў.

А, сэрца, як бы ты хацела,
каб праўда праўдаю была:
Расія, зоры, ноч расстрэла,
Чаромхай яма зарасла.

Берлін, 1927 г.

## РАДЗІМА

Наша адвечнае шчасце
Расіяй завецца ў вяках,
нішто тваю веліч не засціць
на ўслаўленых мацерыках.

Сцяжыначка, дзе б не ляжала,
нам руская сніцца зямля.
Выгнанне, ну дзе твае джала,
чужына, дзе сіла твая?

Малітвы мы знаем такія,
што лечыць душу па начах,
і гордыя музы Расіі,
як крылы, — на нашых плячах.

Мы ўдзячны дрымучаму шуму
лясоў на раўнінах тваіх,
за імі раскутую думу,
за кожную песню пра іх.

Наш дом на чужыне ад гора,
душа у выгнанні мая,
як тайнаю, ветрам, як морам,
Расіяй акружаны я.

1927 г.

●

**Імя Мікалая Сцяпанавіча Гумілёва да апошняга часу было выкраслена з рускай паэзіі і ўсіх савецкіх энцыклапедый. Пражыў паэт усяго 35 гадоў. Нарадзіўся Гумілёў у 1886 годзе ў Кранштаце ў сям'і карабельнага ўрача, скончыў Мікалаеўскую гімназію ў Царскім сяле.**

**У 1905 годзе выйшла першая кніга яго вершаў «Путь конквистадоров», потым адна за другою выходзяць яго кнігі паэзіі. Пісаў Гумілёў прозу і драмы, займаўся тэорыяй верша, шмат падарожнічаў па Афрыцы і Еўропе.**

**У 1921 годзе Гумілёва расстраляла ЧК па абвінавачанні ў неіснуючай змове супроць Саветаў.**

**Мікалай ГУМІЛЁЎ**

## ДЗВЕ РУЖЫ

Перад варотамі Эдэма
дзве ружы буйна расцвілі,
а ружы — палкасці эмблема,
а палкасць — вечны знак зямлі.

Адна пяшчотна ружавее,
як дзеўчына святочным днём,
другая пурпурам ірдзее,
кахання дыхае агнём.

Абедзве на Парозе Ведаў...
Няўжо Усявышні так судзіў
і тайну, што згарыць без следу,
да тайнаў неба далучыў?!

## ВЕЧНАЕ

Я ў калідоры дзён замкнуты,
Дзе нават неба цяжкі гнёт,
Гляджу ў вякі, жыву ў мінутах,
Суботу прагнучы з Субот.

Канца трывогам, веры ў цуды,
З глухой душою, без вачэй...
О дзень, калі відушчы буду,
Прыйдзі, дасведчаны, хутчэй!

Здабуду я душу другую,
Усё, што нагадала страх,
Забудуся і бласлаўлю я
Ад чарвяка да сонца шлях.

І той, хто йшоў са мною разам
Праз гром, праз цішу і вайну,
Хто не цярпеў вясёлых сказаў
І толькі заўважаў віну,

Вучыў маўчаць, вучыў змаганню,
Спрадвечнай мудрасці зямлі, —
Паставіць посах на світанні
І скажа проста: «Мы прыйшлі».

●

**Дзмітры Сяргеевіч Мережкоўскі нарадзіўся 2 жніўня 1866 года ў сям'і пецярбургскага чыноўніка. Пасля гімназіі вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце. Вершы пачаў друкаваць у пятнаццацігадовым узросце. Мережкоўскі—аўтар многіх кніг паэзіі і буйных празаічных твораў, такіх, як «Христос и Антихрист», «Антихрист, Петр и Алексей», драматычных твораў, артыкулаў і даследаванняў творчасці Талстога і Дастаеўскага.**

**У 1920 г. разам з Гіпіус эмігрыраваў у Францыю, там выдаваў часопіс «Меч», наладжваў рэлігійна-філасофскія вечары. Памёр Мережкоўскі 9 снежня 1941 года ў акупіраваным фашыстамі Парыжы.**

**Дзмітры МЕРАЖКОЎСКІ**

## ПАЭТ

Салодкі забыцця вяночак цёмны
Мне ў асяроддзі шчырых дзівакоў,
Я іду адрынуты, бяздомны
І бядак з апошніх бедакоў.

А душа не здолее змірыцца
І не ведае, што значыць страх,
І людзьмі не хоча ганарыцца,
А любоў заўжды ў маіх вачах.

Я люблю бяздумную свабоду!
Над царквой, турмой, вышэй муроў
Мой імкнецца дух бліжэй да Усходу,
У царства ветру, сонца і арлоў.

А ніжэй, між тым, як прывід цёмны,
У асяроддзі шчырых дзівакоў
Я іду адрынуты, бяздомны,
І бядак з апошніх бедакоў.

1894 г.

## У ЛЕСЕ

Дрэмлюць пад маладзіком
Апусцелыя паляны,
І плывуць, плывуць туманы
Над лугамі і стаўком.

Вецце мёртвае ў уборах
Бледных трапяткіх лістоў,
Кожны ўздых, і кожны шорах
Сэрца ўсхваляваць гатоў.

Ноччу свецяць месяц сумны,
Наваколле моцна спіць,
І акордам ціхаструнным
Ветрык не прашапаціць.

Неразгаданая тайна —
У гушчарах глухіх усюды.
Цішыня. Так незвычайна.
Веру казцы, веру ў цуды.

1893 г.

●

**Уладзіслаў Феліцыянавіч Хадасевіч нарадзіўся ў 1886 годзе ў Маскве. Яго дзед—польскі дваранін, родзіч Адама Міцкевіча, удзельнічаў у польскім паўстанні 1833 г. Бацька паэта быў фатографам. Уладзіслаў Хадасевіч вучыўся ў гімназіі разам з братам Валерыя Брусава, і раннія творы пісаў пад уплывам сімвалістаў. У 1908 г. выйшла яго першая кніжка вершаў «Молодость», у 1914 г.—«Счастливый домик», пасля—«Путем зерна», «Тяжелая лира», «Европейские ночи», артыкулы, даследаванні, мемуары.**

**З канца 1920 г. паэт жыў у Петраградзе і карыстаўся падтрымкаю М. Горкага. У 1922 годзе Хадасевіч праз Рыгу выехаў у Берлін, потым у Парыж, працаваў у газеце «День» (пад рэдакцыяй А. Ф. Керанскага), напісаў грунтоўныя даследаванні творчасці Дзяржавіна і Пушкіна. Памёр Хадасевіч 14 чэрвеня 1939 года.**

**Уладзіслаў ХАДАСЕВІЧ**

## ВАРЫЯЦЫЯ

Зноў плечы і слабыя рукі
Пагрэць я выйшаў на балкон.
Сяджу, але зямныя гукі
Лаўлю, нібыта праз сон.

І раптам адчуваю зморy,
Плыву: куды, не знаю сам,
А свет мой шырыцца, як мора,
Насустрач дзіўным галасам.

Каб зніклі цуды, не хачу я,
І я ў другі ўваходжу круг,
І ўжо адтуль выразна чую
Маёй качалкі роўны стук.

Масква, 1919 г.

## БАБУЛЯ

Запазнілася бабуля,
Ледзьве, ледзьве цягне санкі.
Вецер, снег.
А даўней каля Таганкі!
Эх!
Расцягаі — з пылу, з жару,
Што ні свята — пірагі,
З рысам, яйкамі, вязігай...
Ну, цягніся, ды не дрыгай,
Ў шэрым змроку мітульгі.
«Памажы, мне, дарагі!»
Хтось спяшаецца пахмуры
У блішчастай чорнай скуры.
І яму услед бабуля
Нешта шэпча, але ў гуле
Гіне голас, і яна
Саслабела без віна.
Гэта вечар. Заўтра гляне
Заінелае світанне,
Снег зашэрхне ля дарог...
Выйдзем мы, як на работу,
Тут ужо тырчыць з сумёту
Пара ног.
Лёгкі труп закарчанелы,
Прасцінай накрыўшы белай,
На тых санках, балазе,
Міліцэйскі адвязе.
След ад санак знік даўно,
Ну, а тое бервяно,
Што яна цягла дадому,
Спалім мы ў сябе, вядома.

7 снежня 1919 г.

**Пераклады і даведкі Сяргея ГРАХОЎСКАГА.**

ПРЭМ'ЕРЫ

## Да нас завітаў «Чараўнік»



Чараўнік—Г. КАЗЛОЎ сярод юных герояў спектакля.

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

Дзіцячы музычны тэатр «Казка», што існуе на базе тэатра музычнай камедыі, паказаў вельмі адметную прэм'еру — оперу англійскага кампазітара Д. Рансуіка «Чараўнік». Паводле задумы аўтара ў канву гэтага твора павінна арганічна ўплятацца творчасць саміх дзяцей — адначасова і стваральнікаў, і выканаўцаў спектакля. Больш за 200 мінскіх дзяцей узялі ўдзел у новай пастаноўцы, адзіную дарослую ролю ў якой выконвае заслужаны артыст рэспублікі Г. Казлоў. Як адзначыў Д. Рансуік, гэты яркі акцёр сваім майстэрствам не замінае, а наадварот — спрыяе дзіцячаму самавыяўленню. Адметна, што гучыць «Чараўнік» на англійскай ды на беларускай мовах. Сам кампазітар лічыць пастаноўку вельмі ўдалай і спадзяецца на далейшае супрацоўніцтва. Рыхтавалі прэм'еру рэжысёр В. Цюпа, мастак У. Жданаў, хормайстар Т. Гуліна і, вядома, мастацкі кіраўнік дзіцячага тэатра дырыжор Г. Аляксандраў.

З. Л.

МУЗЫКА

## Будзе сем праграм

Пацешыў сэрца I фестываль «Адраджэнне беларускай капэлы», увайшоў у гісторыю, і... А вось і не ўсё. Мастацкі кіраўнік творчага аб'яднання «Беларуская капэла» кампазітар Я. Паплаўскі днямі паведаміў нам, что пачалася падрыхтоўка да другога фестывалю, ідэя якога — адрадзіць так званы гукавы фон, характэрны для Беларусі ў XVII—XVIII стст. Музыка, якая гучала на нашых землях 200 гадоў таму і мела папулярнасць сярод асвечанага люду, складзе 7 канцэртных праграм.

У рэпертуары будучага фестывалю, прынамсі, араторыя «Стварэнне свету», якую Й. Гайдн пісаў «паводле падказкі» свайго сябра М. Агінскага і якая праз 2 месяцы пасля венскай прэм'еры прагучала... у Слоніме. Ансамбль салістаў «Класік-Авангард» пад кіраўніцтвам У. Байдава ды вучні Беларускага харэаграфічнага вучылішча рыхтуюць балетныя дывертысменты кампазітара колішняй капэлы ў Шклове Э. Ванжуры (пастаноўка Г Сінельнікавай). У архівах Пецярбургскай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына здабыта копія клавіра оперы Д. Паізіелы «Уяўная палюбоўніца» — гэты твор быў напісаны і пастаўлены ў Магілёве, і вось праз 200 год ён «вяртаецца» на радзіму. Шмат цікавай ды малавядомай музыкі будзе ў канцэртах Гродзенскай капэлы (заснавана дзякуючы датацыі Гродзенскага гарвыканкома), Духавога трыо з Любліна, Мінскага камернага хору пад кіраўніцтвам І. Мацюхова, ансамбля «Класік-Авангард» ды гітарыста В. Жывалеўскага. Мяркуецца выступленне заслужанага артыста Беларусі В. Скорабагатава ды піяністкі Г. Каржанеўскай з праграмай «Манюшка на радзіме».

Ужо распрацаваны эскізы афіш, фестывальных праграм, іншай «фірменнай» друкаванай прадукцыі Беларускай капэлы (мастак У. Васюк). Пры Беларускім інстытуце праблем культуры пад кіраўніцтвам дырэктара У. Скараходава створана група, якая займаецца пошукам, даследаваннем, навуковай апрацоўкай нотнага матэрыялу для Капэлы, так што гэтая галіна падзвіжніцкай працы адраджэнцаў набыла фінансавую падтрымку... Будзем чакаць кастрычніка, які абяцае нам 7 разнастайных і цікавых фестывальных праграм.

Н. К.

## Застаецца надзея?

Ці часта ў нашы дні актыўнага размежавання паміж рэспублікамі былога Саюза надараюцца форумы, куды збіраюцца прадстаўнікі Беларусі, Літвы, Украіны, Расіі, Малдовы, Арменіі, Узбекістана? Безумоўна, цяпер гэта вялікая рэдкасць. Тым больш усцешна, што ў Саюзе кампазітараў рэспублікі прайшла міжнародная музыказнаўчая канферэнцыя «Айчынны музычны авангард у кантэксце сусветнага музычнага мастацтва XX стагоддзя». Глабальнай пастаноўцы праблемы адпавядаў і выбітны склад удзельнікаў, якія прадстаўлялі лепшыя музыказнаўчыя сілы рэспублік. Дастаткова назваць імёны дактароў мастацтвазнаўства І. Барсавай і В. Халопавай. У дакладах былі разгледжаны агульныя праблемы развіцця музычнага авангарду (М. Галушка, Санкт-Пецярбург) і яго пераламленне ў нацыянальных музычных культурах. Чатыры даклады былі прадстаўлены беларускімі музыказнаўцамі Р. Аладавай, Т. Дубковай, В. Савіцкай, Р. Сергіенкай.

«Тэма канферэнцыі вельмі актуальная для нас, — адзначыла яе ініцыятар і адзін з галоўных арганізатараў канферэнцыі Р. Аладава. — У беларускай музыцы авангардныя плыні досыць слабыя. і таму вельмі важна было даведацца — наколькі мы можам крочыць у нагу з часам. Разгледжаная на канферэнцыі праблема, у больш шырокім разуменні, звязана з абнаўленнем нацыянальнага стылю. Але ў гэтай радаснай падзеі ёсць і трывожная нота. З заяўленых для ўдзелу ў канферэнцыі 30 музыказнаўцаў змаглі прыехаць толькі каля палова. Прычына самая банальная — адсутнасць грошай. Далёка не ў кожнай рэспубліцы Саюз кампазітараў ці кансерваторыя ў стане фінансаваць такія камандзіроўкі. Пра ўдзел замежных музыказнаўцаў, пэўна, застаецца толькі марыць, бо на матэрыяльныя выдаткі для паездкі ў былы Саюз могуць адважыцца цяпер толькі вельмі вялікія энтузіясты. Відавочна, менавіта таму мы недалічыліся чатырох прафесараў з Германіі сярод удзельнікаў канферэнцыі, а ў гэтай жа краіне шмат спецыялістаў па савецкай музыцы. Перспектыў на будучае пакуль, на жаль, няма, але ўсё ж вельмі хочацца спадзявацца на лепшае».

Т. ВАЛАЧКОВІЧ.

## Імёны вядомыя й новыя

Сёння ўрачыста адкрываецца чарговая «Мінская вясна». Гэты традыцыйны музычны фестываль, які ладзяць Міністэрства культуры Беларусі ды Белдзяржфілармонія, мае прывабную і адпаведную вясноваму духу назву: «Новыя імёны». Уявіце сабе, колькі імёнаў музыкантаў — і зусім яшчэ юных, і маладых ды вядомых, і ўжо добра знаных, але неспадзяваных у сваіх творчых пошуках, — у праграме свята, якое прадоўжыцца аж да 29 красавіка! Напрыклад, сёння ўвечары з Акадэмічным сімфанічным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам В. Дуброўскага іграе лаўрэат Міжнароднага конкурсу, колішні вучань нашага музычнага ліцэя А. Сікорскі. Юны віяланчэліст Коля Гімалетдзінаў рыхтуецца выступіць у адной праграме са сваёй равесніцай, харкаўскай піяністкай Ленай Калеснічэнкай. Робіць заяўку на мастацтва XXI ст. В. Раінчык — упершыню прадстаўляе свой «Дзігітальны сімфанічны аркестр» (ідэальнае камп'ютэрнае гучанне!) з камерным хорам І. Мацюхова: у рэпертуары... класіка. Аркестрам Дзяржтэлерадыё будзе дырыжыраваць маэстра з Італіі А. Мартэлі. А колькі музычных прэм'ер прапануюць кампазітары У. Буднік, Д. Даўгалёў, А. Залётнеў, В. Капыцько, А. Літвіноўскі, Я. Паплаўскі, С. Янковіч і многія іншыя беларускія творцы! Словам, глядзіце ў афішы: чакаецца шмат цікавага.

## «Няміга» — роднаму гораду

Першае выкананне кантаты «Урачыстая ода» (для хору, аргана і вялікага аркестра духавых інструментаў), прысвечанай 925-годдзю Мінска, адбылося ў зале філармоніі. Твор напісаны кампазітарам Я. Глебавым і ягоным сынам Р. Глебавым. Гэта музычная прэм'ера сталася часткай вялікай канцэртнай праграмы Мінскага духавога аркестра «Няміга», прысвечанай знамянальнай даце ў гісторыі нашага горада. У канцэрце ўдзельнічалі госці з Масквы — вядомая саксафаністка М. Шапашнікава са сваімі вучнямі, а таксама беларускія салісты.

П. ГАРДЗІЕНКА.

ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ

## У маскоўскіх беларусаў

Канцэрт Беларускай капэлы, які адбыўся ў пастпрэдстве нашай рэспублікі ў Маскве, быў наладжаны суполкай тамтэйшых беларусаў і прысвячаўся 25-му сакавіка. З праграмай «Лютневая музыка на беларускіх землях» прыехалі гітарысты В. Жывалеўскі (ён і каменціраваў канцэрт) ды Я. Грыдзюшка і клавесініст Б. Спектар. Былі ў гэты вечар і асветніцкія гутаркі, і «капуснік» на палітычную тэматыку, падрыхтаваны маскоўскімі беларусамі, і нават уніяцкая служба, якую справілі святары з Мінска.

## «Хто не смяецца, той не дасягае вялікіх поспехаў»

— так называлася свята для беларускіх бізнесменаў і прадпрымальнікаў, што адбылося 30 сакавіка ў тэатры музкамедыі. Арганізатары вечара імкнуліся стварыць своеасаблівы мікрасвет свята з грашовым абаротам, у якім фігуравалі святочныя грошы марк'сы і дзейнічаў банк фірмы «Сакавік і Кампанія». На пачатку вечара ў фае сярод гледачоў шпацыравалі артысты тэатра «Святочная плошча» ў велізарных масках. Канцэрт цягнуўся дзве гадзіны без антракту. У ім прынялі ўдзел пісьменнікі-сатырыкі Аляксейчык, Наважылаў і Церахаў, ансамбль класічнага гумару «Калаж».

І хаця арганізацыя свята была неблагой, але ўвесь час не пакідала адчуванне, што гумар і жарты вядучых канцэрта былі з доўгай «барадой».

Па сканчэнні канцэрта цэнтр свята перамясціўся ў шоу-біржу, дзе адбываліся гумарыстычныя таргі, і ў казіно, дзе на марк'сы ішла гульня ў «польскі банчэк» і «ўверх-уніз».

Нельга не вітаць правядзенне такіх вечарын на сродкі спонсараў. Трэба ж разумець, што яны не толькі пацяшаюць новую «беларускую буржуазію», але і спрыяюць павышэнню агульнага культурнага ўзроўню нашых людзей.

Ягор КОНЕЎ.

ЛІТКУР'ЕР

## «Роднае слова», № 3

Заканчэнне творчага партрэта Л. Геніюш «Ты мой боль святы, Беларусь мая...», працяг агляду малой беларускай прозы («Да глыбіняў жыцця» А. Бельскага), новае прачытанне твораў М. Гарэцкага («...А там гарэла ціхае сялянскае святло» Тамары Мушынскай) — матэрыялы, якія зацікавяць не толькі настаўнікаў, каму яны ў першую чаргу адрасуюцца. Тое ж самае можна сказаць і пра такія публікацыі, як «Пуцявінамі Купалы» У. Содаля, «Усяслаў Чарадзей» М. Ткачова (нарыс з яго кнігі «Твая і мая гісторыя», якая знаходзіцца ў вытворчасці ў выдавецтве «Беларусь»). С. Чыгрын у раздзеле «Літаратурная карта» расказвае пра тых, хто нарадзіўся на Зэльвеншчыне.

## Прысвечана Льву Сапегу



4 красавіка ў актавай зале Беларускага гуманітарнага ліцэя адбылася прэзентацыя кнігі І. Саверчанкі «Канцлер Вялікага Княства», выдадзенай выдавецтвам «Навука і тэхніка» ў серыі «Нашы славутыя землякі». Падчас імпрэзы, якую вёў мастак Мікола Купава, перад прысутнымі выступіў аўтар кнігі, а таксама мовазнаўца Зміцер Санько, спецыяліст у гісторыі беларускага права прафесар Язэп Юхо, рэцэнзент кнігі гісторык Генадзь Сагановіч.

У імпрэзе, акрамя навукоўцаў, бралі ўдзел камерны хор «Унія» і бард Зміцер Сідаровіч са сваім гуртом «Камэлот».

У. ПАНАДА.

## Лаўрэаты «Вясёлкі»

Рэдакцыя часопіса «Вясёлка» назвала сваіх лаўрэатаў за 1991 год. Прэміі прысуджаны паэтэсе Ніне Галіноўскай за казку «Хата» і мастаку Яўгену Ларчанку за афармленне.

## Маленькія шэдэўры




У Германіі іх называюць «ліліпутамі», у Чэха-Славакіі — «калібры», у нас — «малюткамі» ці проста «міні»...

Мінуў час, калі рэпарцёры захапляліся «бібліятэкамі ў чамаданах». Бібліятэкі ў сённяшніх збіральнікаў мініяцюрных кніжак ні ў які чамадан не ўлезуць, у старшыні Мінскага клуба аматараў мініяцюрных выданняў А. Школьнага, напрыклад, іх больш за 1000. Дык ці ў тым справа, каб укласці сваю бібліятэку ў чамадан!

«Малюткі» — гэта «візітныя карткі» нацыі. Яны дэманструюць узровень літаратуры, мастацтва, паліграфіі, культуры цалкам.

Добра зрабіў Музей Янкі Купалы, што наладзіў у сваіх залах выстаўку мініяцюрных кніг. Дырэктар Рэспубліканскай навуковай сельскагаспадарчай бібліятэкі А. Голубеў, які дбайна вядзе бібліяграфію беларускіх міні-выданняў, падлічыў, што ў пасляваенныя гады іх выйшла больш за 50. З творамі Янкі Купалы і Якуба Коласа выйшла 12 кніжак. Друкаваліся таксама Гусоўскі, Багдановіч, Броўка, Танк, Быкаў, Гілевіч, Барадулін, Русак. Амаль кожная кніжачка — маленькі шэдэўр. Да гэтага «прыклалі руку» Арлен Кашкурэвіч, Барыс Забораў, Канстанцін Куксо, Міхал Басалыга, Васіль Шаранговіч, многія іншыя майстры беларускай графікі. Неаднаразова нашы міні атрымлівалі пачэсныя ўзнагароды, як і іх асноўны «вытворца» — паліграфкамбінат імя Якуба Коласа.

Тэма «чамадана» набыла іншае гучанне. Дзе і як захоўваць «малюткі» ў хатняй бібліятэцы, каб яны не пыліліся, каб да іх можна было падступіцца, лёгка знайсці? Беларускае рэспубліканскае таварыства «Кніга» разам з Мінскім клубам аматараў мінівыданняў (з 1992 года ён носіць імя «Дар Скарыны») аб'явілі адкрыты конкурс на эскіз-ідэю мэблевага блока для мініяцюрных кніг, ужо паступіла каля 25 праектаў.

...Наведвальнікі музея зацікаўлена спыняюцца ля вітрын з маленькімі кніжачкамі. Тым больш, што побач экспануюцца творы малой графікі — экслібрысы беларускіх пісьменнікаў. Адзін з іх — Уладзіміра Караткевіча (мастак Г. Грак) мы сёння друкуем.

М. БАРЫСАЎ.

ДРУК

## «Ураджай» гаворыць па-беларуску

Нездарма кажуць: што ні чалавек, дык абавязкова загадка. У гэтым пераканаліся і мы, лімаўцы, пазнаёміўшыся з тэматычным планам выдавецтва «Ураджай» на 1993 год. Аказваецца, супрацоўніца нашай рэдакцыі Г. Тычка, якую ўсе мы ведаем як крытыка (чытачы таксама), яшчэ і... Зірніце на 49-ую пазіцыю гэтага плана. Г. Тычка і Э. Зайкоўскі (па сакрэту скажам, што гэта яе муж) падрыхтавалі кнігу «Старадаўняя беларуская кухня». У ёй прыведзены шматлікія як традыцыйныя, так і даўно забытыя рэцэпты нацыянальных страў, узятыя аўтарамі з самых розных крыніц, а таксама з мастацкіх твораў, дзе асобныя з іх апісваюцца, і рэцэпты ўзноўленыя па этнаграфічных матэрыялах.

Кніга «Старадаўняя беларуская кухня» — не адзіная, якую выдавецтва «Ураджай» выпусціць на беларускай мове. Сярод такіх выданняў — расказ М. Кузаўкінай «Трывалыя карані» пра саўгас «Яхімоўшчына» Маладзечанскага раёна, вучэбны дапаможнік Г. Савіцкай і А. Місуны «Аналіз гаспадарчай дзейнасці сельскагаспадарчых прадпрыемстваў», навукова-папулярны нарыс В. Мацвеева «Сліва ў вашым садзе», «Падарожжа ў свет раслін» Н. Казлоўскай, і іншыя.

А што і спецыялісты сельскай гаспадаркі нарэшце загавораць на роднай мове, дае падставы спадзявацца «Руска-беларускі слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі», што таксама павінен выйсці ў 1993 годзе.

НОВЫЯ ВЫДАННІ

## Пачатак... «Пачатковай школы»

Як вядома, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь летась стала заснавальнікам яшчэ аднаго часопіса — «Пачатковая школа» (назва пакуль што рабочая). Выданне штомесячнае, ілюстраванае, фарматам і аб'ёмам ужо вядомай «Пралескі».

Аб накірунках новага выдання, перспектывах развіцця нацыянальнай пачатковай школы і ролі часопіса ў гэтым працэсе можна даведацца з гутаркі галоўнага рэдактара «Пачатковай школы» Н. Ванінай з першым намеснікам міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Л. Сухнат. Часопіс разлічаны на вялікую аўдыторыю — у пачатковай школе Беларусі працуе 28 880 настаўнікаў і звыш 20 тысяч выхавацеляў груп падоўжанага дня. У іх, безумоўна, шмат праблем, якія і будуць у полі зроку «Пачатковай школы».

Тут жа, у першым нумары — падборка «Слова аб мове» (вытрымка з артыкула У. Караткевіча «Родная мова», вершы П. Панчанкі, Ю. Свіркі, Я. Янішчыц, С. Сокалава-Воюша), артыкул кандыдата педагагічных навук В. Сілівон «Жывапіс: азбука знаёмства». У раздзеле «Спадчына» — пачатак эсэ У. Арлова пра Ефрасінню Полацкую «Нібы прамень сонечны...» Метадыст вучэбна-метадычнага аддзела Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей Т. Арлова знаёміць з народнымі беларускімі гульнямі. Расчыніла ўпершыню дзверы гасцёўня «Заранчка»...

Пачатак «Пачатковай школай» зроблены. Кажучы традыцыйнае «У добры час!», чакаем новых сустрэч.

## Ракурсы... «Ракурса»

Сярод новых выданняў і штоквартальнік «Ракурс» — кіраванне: тэорыя, практыка, пошук», заснавальнікам якога з'яўляецца Акадэмія кіравання пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь. Першы нумар гэтага масавага навукова-практычнага часопіса, які будзе выдавацца на беларускай і рускай мовах, прыйдзе да чытачоў у красавіку-маі. Мяркуецца змяшчаць у «Ракурсе» самыя розныя матэрыялы, што аналізуюць работу упраўленчых структур і механізмаў, паказваюць дзейнасць прадпрымальнікаў, арандатараў, фермераў.

# ЦАРКВЫ НА БЕЛАРУСІ ПАВІННЫ БЫЦЬ БЕЛАРУСКІМІ

быў накіраваны асноўны ўдар польскай санацыі.

Праваслаўная царква тады значна менш цікавіла польскія ўлады, і вось чаму. Уся службовая перапіска і літургія адпраўляліся тут толькі на рускай мове, у добрых яшчэ «ўвараўскіх традыцыях». Тое ж самае адбылося і з праваслаўнымі святарамі ў Вільні, калі яна ў кастрычніку 1939 года была перададзена Летуве. Руская мова ў беларускіх праваслаўных храмах, збудаваных нашымі продкамі ў XIV—XVI стст., цалкам задавальняла новых гаспадароў старадаўняй беларускай сталіцы.

Таму невыпадкова ва ўсіх пасляваенных публікацыях, што выходзілі ўжо на тэрыторыі Савецкай Летувы, уся гэтая унікальная архітэктурная спадчына беларускага народа называецца рускай, без усялякіх тлумачэнняў, адкуль у Вільні ў той час узялося рускае насельніцтва.

Цікавую практыку праводзіла на тэрыторыі Савецкай Беларусі амаль да нядаўняга часу вышэйшае кіраўніцтва Рускай праваслаўнай царквы. Як правіла, святароў-беларусаў накіроўвалі на службу за межы бацькаўшчыны, а на Беларусь прысылалі рускіх. Дарэчы, такую ж тактыку праводзіць зараз і каталіцкі касцёл, накіроўваючы да нас толькі ксяндзоў-палякаў, забываючы пра славенцаў, славакаў і харватаў.

Гісторыя зноў паўтараецца, асабліва для тых, хто яе забывае ці не ведае.

Таму дарэмна крыўдзіцца на свядомую беларускую моладзь айцец Сергій за тое, што яна пайшла да уніятаў. Яна проста, будучы раней бязбожнай альбо атэістычнай, пайшла да роднай мовы, гісторыі і культуры, бо не знаходзіла гэтага ў касцёле, царкве ці малельным доме. Дарэчы, ніякай свядомай антыправаслаўнай прапаганды гэтыя людзі не вядуць, але справядліва абураюцца, калі частка праваслаўных ці каталіцкіх святароў спрабуе ў незалежнай Беларусі праводзіць палітыку пэўных колаў з суседніх дзяржаў. А вось супраць іх выступаюць адзіным фронтам такія, здаецца, варожыя адна адной сілы, як дэпутаты ад ветэранскай арганізацыі ў Вярхоўным Савеце Беларусі і аўтакефальная беларуская царква ў Злучаных Штатах Амерыкі. Таму не варта называць беларускіх уніятаў здраднікамі, бо яны, раней цалкам адлучаныя ад веры, ідуць да Бога сваім шляхам. Тым больш, што абвінавачванні ў здрадзе ўвесь час гучаць і ў бок Рускай праваслаўнай царквы ад іх аднаверцаў з Захаду, альбо ад так званай «катакомбнай» царквы ў Расіі. Прычым яны патрабуюць поўнага пакаяння ад рускіх святароў, абвінавачваючы іх у сувязях з камуністамі і КДБ.

Аднак сітуацыя цяпер паступова мяняецца. Беларуская мова пакрысе пачынае гучаць у цэрквах, касцёлах і малельных дамах. Робяцца пераклады на беларускую мову кананічных хрысціянскіх кніг. Мяне, напрыклад, прыемна ўразіла служба ў гонар Нараджэння Хрыстова ў галоўным праваслаўным саборы Беларусі ў Менску, якую праводзіў уладыка Філарэт. Як роўныя тут урачыста гучалі царкоўнаславянская, беларуская і руская мовы. На беларускай мове вядзецца імша ў касцёле Св. Роха, што на Залатой Горцы ў Менску. Пачаў ужываць беларускую мову ў сваіх казаннях і кіраўнік каталіцкага кліру на Беларусі сп. Свёнтак. Беларускія баптысты таксама паступова вяртаюцца да роднай мовы, тым больш, што амаль усе яны з сялян і некалі вучыліся ў беларускай школе. Такім чынам, святая справа Беларускага Адраджэння рушыла наперад. І хай дапаможа ёй Бог!

**Алег ТРУСАЎ,**
**намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны.**

---

дзве тэндэнцыі. Першая — гэта імкненне зрабіць яе беларускай. Трэба зазначыць, што тут ужо зроблена нямала. Самы яркі прыклад — магчымасць чуць беларускую імшу ў Мінскім кафедральным саборы ўжо сёння (дарэчы будзе сказаць, што нідзе ў Беларусі аналагічных прыкладаў з праваслаўнай царквой няма, прынамсі, мне яны невядомыя). Другая плынь унутры каталіцкай царквы — польская. Прычым трэба зазначыць, што плынь гэтая мае адкрыты ваяўнічы характар і накіравана на апалячванне беларусаў.

Праваслаўная царква на сённяшні дзень — цалкам расейская; і па мове, і па атмасферы. Зроблена ж ёю ў накірунку беларусізацыі вельмі мала, значна менш, чым зроблена касцёлам. А між тым, праваслаўная царква мае найвялікшыя магчымасці стаць беларускай нацыянальнай царквой. Яе беларусізацыі перашкаджаюць дзве рэчы: інерцыя мыслення царкоўных іерархаў і падпарадкаванасць маскоўскай патрыярхіі. Разумею, што толькі ўпамінанне аб магчымасці стварэння беларускай аўтакефальнай царквы выкліча цэлую буру незадаволенасці з усіх бакоў. Але мне здаецца, што без стварэння беларускай аўтакефаліі справы беларусізацыі царквы будуць прыносіць вельмі малы плён.

**Іван КАВАЛЕНКА,**
**студэнт II курса Мінскага медінстытута.**

●

Мне здаецца, што ў сваёй публікацыі паважаны протаіерэй не да канца быў шчырым. Напрыклад, ён піша, што ў XVI ст. праваслаўная царква ў ВКЛ была незалежнай ад Масквы. Але ж доўгі час гэтага не было (яшчэ ў 1299 г. Кіеўскі мітрапаліт перасяліўся ва Уладзімір, потым некальні разоў удавалася ў ВКЛ паставіць свайго мітрапаліта, і толькі ў 1458 г. мітраполія стала арганізацыйна незалежнай ад Масквы).

Па-другое, нельга абсалютаваць гэтую незалежнасць, таму што барацьба маскоўскіх першаіерархаў, князёў, а потым цароў усёй Русі за ўплыў у ВКЛ і Рэчы Паспалітай ад гэтага не зменшылася.

XVI ст. — гэта час замацавання ў якасці афіцыйнай палітыкі дактрыны «Масква — трэці Рым», з'яўлення ў 1589 г. у Маскве мясцовага патрыярха і афармлення расейскага самаўладства.

І хаця наша праваслаўная царква не была ў Маскоўскай юрысдыкцыі, было б наіўна спадзявацца, што яе незалежнасць падтрымае Канстанцінопальскі патрыярх, які сам быў залежным ад Масквы, бо меў патрэбу ў маскоўскай абароне ад турэцкага султана.

Становішча ўскладнялася ваеннымі паражэннямі ВКЛ і разбурэннем краіны маскавітамі.

Таму ў святле ўсяго гэтага крыху па-іншаму можа ўспрымацца і сам Акт Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 г. Якія б мэты ні ставіліся пры яе ўтварэнні, трэба, аднак, прызнаць, што унія не прывяла да ўсеагульнага апалячвання. А пад сцягамі аднаўлення уніі Кастусь Каліноўскі рыхтаваў паўстанне 1863 г. («Мужыцкая праўда», № 6, снежань 1862 г.).

Значыць, нейкае кансалідуючае значэнне унія мела ці, ва ўсякім выпадку, магла мець пры іншых гістарычных умовах.

Тэмай асобнай гутаркі з'яўляецца разгляд рэакцыйнай палітыкі царскага ўрада XIX ст. з яго сумніцельнай формулай «праваслаўя, самаўладства, народнасці», планамі «обрусения Северо-Западного края», касавання уніі (1839 г.), Віленскага універсітэта, закрыцця шматлікіх касцёлаў і большасці кляштараў.

Спрэчнымі з'яўляюцца таксама думкі аўтара аб зразумеласці царкоўнаславянскай мовы і неабходнасці яе захавання ў богаслужэнні.

**Ігар ГАНЧАРУК,**
**гісторык.**

г. Гродна.

●

Так ужо здарылася, што нацыянальнай царквы нам здабыць не давялося. Мы народ хрысціянскі, але шматканфесійны — такая ўжо наша гісторыя. Гісторыю не пераробіш і з гэтага вынікае такая выснова: наша дзяржаўная задача — зрабіць усе тры канфесіі (праваслаўе, каталіцызм, унію) нацыянальнымі, беларускімі.

**М. ШПАКОВІЧ.**

г. Магілёў.

---

## Ёсць такая царква?..

Апошнім часам назіраецца рост цікаўнасці да рэлігіі, павялічваецца колькасць вернікаў. На Беларусі, якая характарызуецца вялікай разнастайнасцю канфесій, сітуацыя патрабуе ад людзей вызначэння, да якой канфесіі прыйсці — каталіцкай, праваслаўнай, пратэстанцкай ці уніяцкай. Так склалася, што каталіцкі касцёл быў сродкам апалячвання беларусаў, праваслаўны храм — сродкам русіфікацыі. Заканамерна ўзнікае пытанне: а дзе ж беларуская нацыянальная вера?

Пошукі яе ў наш час прывялі пэўную колькасць энтузіястаў, асабліва сярод моладзі, да рэанімацыі уніяцтва, якое існавала ў нас у XVII—XVIII стагоддзях. Але ці была унія сапраўды беларускай нацыянальнай верай. Аналіз мінулага нашай Бацькаўшчыны паказвае, што адказ на гэтае пытанне не такі ўжо просты, пра што сведчыць і артыкул а. С. Гардуна («ЛіМ», 14.02.92). Дапоўню прыведзеныя ім звесткі пра унію.

Калі праваслаўнае XVI стагоддзе лічыцца залатым векам для беларускага народа, часам росквіту нашае культуры і навукі, дык ужо з XVII стагоддзя (з пачаткам уніі) пачынаецца заняпад беларускай культуры і агульны крызіс у ВКЛ. Кожны здадзены праваслаўнай царквой фарпост, кожны прыход ці царква, здадзеная на карысць уніі, вялі да ўзмацнення пальшчызны ў беларускім асяроддзі. Ды і не магло быць інакш, таму што падпарадкаванне праваслаўных абшчын уладзе Папы Рымскага дзейнічала толькі на карысць каталіцызму і ўзмацняла яго ўплыў на нашых землях. Унія была сапраўдным мастом да апалячвання беларусаў. В. Пакуцэвіч у кнізе «Берасцейская унія» піша, што «польская мова стала пануючай у каталіцкай царкве абодвух абрадаў» (г. зн. каталіцкай і уніяцкай канфесіі. — **Аўт.**]. Але мянялася не толькі мова казанняў, мяняўся таксама абрадавы бок службы. І калі на Украіне уніяцтва захавала свае першапачатковыя ўсходнія асаблівасці, характэрныя для праваслаўнай царквы, — то на Беларусі яна эвалюцыянавала ў заходнім кірунку і амаль злілася з каталіцкім касцёлам.

Часта прыходзіцца чуць, што царкоўная унія ў ВКЛ узнікла як спроба аб'яднаць дзве хрысціянскія канфесіі — праваслаўе і каталіцызм ў адну веру, якая б была незалежнай і ад Масквы, і ад Польшчы, як спроба стварэння беларускай нацыянальнай веры. К канцу XVIII стагоддзя уніяцтва сапраўды стала пануючай рэлігіяй на тэрыторыі сучасных Беларусі і Украіны. Але ці была унія сапраўды так неабходнай беларускаму народу, як гэта выстаўляецца некаторымі дзеячамі зараз? Ці было уніяцтва нацыянальнай беларускай рэлігіяй, вынікам эвалюцыі хрысціянскага вучэння на нацыянальнай беларускай ці украінскай глебе? Не. На самай справе ўсё было далёка не так і распаўсюджанае меркаванне аб тым, што уніяцтва — гэта «нацвера» беларусаў, з'яўляецца чарговым міфам, якіх шмат пакінула нам гісторыя.

На працягу ўсяго XVII стагоддзя унія пракладвала сабе шлях у жорсткай барацьбе з праваслаўем і к канцу XVIII стагоддзя гвалтам далучыла да сябе большасць простага праваслаўнага беларускага народа. Разам з тым паступова вынішчалася ўсякая беларускасць. Менавіта ў гэтыя часы выйшаў вядомы ўказ караля аб забароне беларускай мовы ў афіцыйным ужытку. Далучэнне Украіны да расейскае дзяржавы ў 1654—1655 гг. мела адмоўнае значэнне і для беларусаў. Колькасць праваслаўнага насельніцтва ў землях Рэчы Паспалітай рэзка паменшылася, павялічыўся польскі ўціск. І многія больш слабыя духам пачалі здраджваць сваёй веры, пераходзіць у унію. І не дзіва, што ў рэшце рэшт унія перамагла і запанавала на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Надышлі самыя змрочныя часы ў гісторыі нашае Бацькаўшчыны — часы акаталічвання і апалячвання беларусаў, заняпаду культуры.

Але настаў час распаду Рэчы Паспалітай. Беларусь была акупавана Расіяй. Зноў прыйшло праваслаўе, якое пасля Полацкага сабору 1838 г. стала пануючай рэлігіяй.

Аднак... Дзякуючы уніі каля 2 млн. беларусаў перайшлі ў каталіцызм, апалячыліся і былі назаўсёды згублены для беларускай нацыі. Пацвярджае гэта нават уніяцкі епіскап Язэп Сямашка (у кнізе Кіпрыяновіча «Жыццё Язэпа Сямашкі»). Ён піша, што «з бегам часу не толькі выняткавыя асобы, пераважна адукаваныя, але цэлыя парафіі і акругі па розных месцах, забылі свае родныя штодзённыя малітвы і карысталіся малітвамі на польскай мове». І далей: «На ўсёй прасторы Літоўскай епархіі ўсё духавенства (уніяцкае) гутарыла на польскай мове і зусім не ведала мовы рускай (беларускай. — **Аўт.**).

Са скасаваннем уніі адразу пачаўся масавы пераход у праваслаўе. Прычым, паказальна, наколькі цяжка ўводзілася унія — цэлыя два стагоддзі, XVII і XVIII, і як хутка адбыўся адваротны працэс. Так, пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай (1794 г.) толькі за паўгода пакінула уніяцтва 1,5 млн. беларусаў! Тое самае адбывалася і пазней, асабліва пасля 1839 г.

Але ці атрымалі беларусы, адкінуўшы уніяцтва і прыняўшы рускае праваслаўе, сваю родную рэлігію, веру сваіх бацькоў? Адказ таксама будзе адмоўны, таму што руская праваслаўная царква (РПЦ) была ўсё ж царквой іншае дзяржавы і, натуральна, адрознівалася ад беларускай традыцыйнай праваслаўнай царквы. Больш таго, менавіта рускае праваслаўе стала ў XIX—XX стагоддзях магутным сродкам русіфікацыі насельніцтва беларускіх зямель, які атрымалі ў Расейскай імперыі назву «Северо-Западный край».

Ва ўмовах існавання Беларусі ў складзе Расейскай імперыі да рэвалюцыі 1917 г. беларусы разглядаліся як частка «великого русского народа». Не было і гаворкі пра адраджэнне нацыянальнай праваслаўнай царквы, якой яна была да Брэсцкай уніі. Такая магчымасць з'явілася пасля распаду Расейскай імперыі. У 1922 г. на Саборы ў Менску адраджаецца незалежная ад Масквы царква — Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква (БАПЦ). Яна праіснавала толькі 10 гадоў у Савецкай Беларусі (да пачатку сталінскіх рэпрэсій) і да 1939 г. у Заходняй Беларусі. Далейшы шлях БАПЦ быў звязаны з эміграцыяй у розных краінах свету і на этнічна беларускіх землях Беласточчыны. Менавіта БАПЦ ратавала ў Заходняй Беларусі беларусаў (у 1921—1939 гг.) ад паланізацыі. Пасля Рыжскага падзелу 1921 г. польскія ўлады пачалі спешна апалячваць беларусаў, каб абгрунтаваць сваё права на «крэсы ўсходне». Працэс гэты закрануў не толькі беларусаў-католікаў, Моцнаму ўздзеянню польскай экспансіі падвяргалася і БАПЦ. Ствараліся так званыя «саюзы праваслаўных палякаў», уводзілася богаслужэнне на польскай мове ў царкве і г. д. Але праваслаўная царква ўцалела і ўцалела дзякуючы ёй яе паства — беларускі народ.

Апошнія падзеі даюць падставу спадзявацца, што не ўсё яшчэ згублена для беларусаў, ёсць шанц адрадзіць нашу духоўнасць, адрадзіць нацыянальную царкву, якой, безумоўна, з'яўляецца беларуская аўтакефальная праваслаўная царква з яе багатай гісторыяй. Зараз яна існуе за мяжой у тых дзяржавах, дзе жывуць беларусы. У ЗША, напрыклад, існуе 8 прыходаў БАПЦ.

Абвяшчэнне незалежнасці Беларусі вымагае і радыкальных змен у нашым рэлігійным жыцці. За палітычнай незалежнасцю Беларусі павінна непазбежна ісці поўнае аддзяленне нашае праваслаўнае царквы ад Масквы, паступовае ўвядзенне беларускай мовы ў прапаведзі, богаслужэнні і затым у літургію. Толькі аўтакефальная праваслаўная царква зможа быць нацыянальнай рэлігіяй тых беларусаў, якія не з'яўляюцца прыхільнікамі каталіцызму або пратэстантызму. Што тычыцца касцёла, то трэба таксама пайсці шляхам яго беларусізацыі, але аб поўнай незалежнасці, вядома, гаварыць не даводзіцца з-за самой сутнасці каталіцызму, дзе падпарадкаванне Папу Рымскаму ёсць догма самое рэлігіі. Аднак неабходная і рашаемая задача — пазбаўленне польскага ўплыву.

Цешыць развіццё беларускага пратэстантызму, такіх ягоных адгалінаванняў, як баптызм, пяцідзесятнікі і інш.

І апошняе. На мой погляд, не выпадае зараз займацца рэанімацыяй уніі. Імкненне да уніі моладзі — гэта вынік гістарычнага невуцтва, за што адразу схапіўся касцёл і заўзята працуе на акаталічванне юнакоў і дзяўчат пад шыльдай уніі. Беднасць духоўнай спадчыны, якая засталася ад ідэолагаў уніяцтва, мабыць, і прыводзіць да друкавання хоць «чаго-небудзь». Маю на ўвазе артыкул айца Льва Гарошкі (№ 2 «Уніі» — «Неўміручая ідэя»), дзе шмат тэндэнцыйнасці, скажэння гістарычных падзей. Шлях да Бога павінен быць чысты і светлы. І прапаганда ідэй павінна быць сумленнай, чаго мала ў гэтым артыкуле. У часопісе «Голас часу» (№№ 14 і 15 за 1991 г.) М. Гаховіч так адазваўся на згаданую публікацыю: «Усё, аб чым піша Л. Гарошка, ёсць прадстаўлена ў адмоўным выглядзе і нічога дзіўнага. Якія ж атрыбуты мае вунія, каб ёй хваліцца? Адказ, без перасады будзе — ніякіх. Але ж каб прапагандаваць яе, трэба нешта выдумаць, нешта стварыць. Вось і пачынаецца нацяжка гісторыі, падаванне фальшывых інтэрпрэтацый, перакручванне фактаў і наўмысная дэзінфармацыя».

**Анатоль АСТАПЕНКА,**
**сустаршыня Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, выкладчык БТІ.**

---

**ПАПРАЎКА**

У артыкуле «На арэлях разбэрсанай думкі...» («ЛіМ» № 14 за 3 красавіка г. г.) па віне рэдакцыі дапушчана памылка. На 12-й старонцы канцоўку другога абзаца ў другой калонцы трэба чытаць так: «Цяжка паверыць, што гэтая халодная трактоўка расісцкага вераломства належыць беларусу па паходжанні ды яшчэ (як сведчаць яго іншыя публікацыі) прыхільніку сённяшняй барацьбы за наша нацыянальнае Адраджэнне і яднанне».

СЁННЯ, як ніколі раней, надта актуальнымі з'яўляюцца пытанні вывучэння гісторыі і гістарычнай адукацыі і выхавання на Беларусі, як і ў іншых нацыянальных рэспубліках, што абвясцілі сябе незалежнымі. Абвясцілі, але не ўсе ў іх асэнсавалі сваю самастойнасць. Інакш бы не прыйшлося З. Пазняку ў артыкуле «Ствараючы перамагаем!» («Народная газета», 15 кастрычніка 1991 г.) канстатаваць той факт, што шматлікія палітыкі праяўляюць абсалютнае няведанне і неразуменне гістарычнага шляху Беларусі. Бо самастойнасць дзяржавы прадугледжвае прыярытэт роднай мовы і роднай гісторыі перад чужымі. Але ні тая, ні другая ў Беларусі дасюль прыярытэту не маюць.

# Якую гісторыю нам вывучаць?

**СПРЭЧКІ, ПАЛЕМІКА**

Калі вымушаная, навязаная іншымі барацьба за вяртанне беларускай мовы ідзе з поспехам, гэтага нельга сказаць аб спробах вярнуць праўдзівую беларускую гісторыю. Залежыць гэта ад асаблівасцяў перадачы гістарычных ведаў у гістарычных крыніцах і даследаваннях. Таталітарныя рэжымы ўдзяляюць вялікую ўвагу гістарычнай падрыхтоўцы падначаленых мас. Яны падсоўваюць ім гістарычную міфалогію замест аб'ектыўных ведаў аб мінулым, падбіраюць адпаведных сабе несумленных гісторыкаў або запалохваюць і разбэшчваюць сумленных. Гэтым гісторыкам адводзіцца замацаванае месца ў жорсткай іерархічнай структуры рэжыму, дзе яно залежыць не ад узроўню кампетэнтнасці, а ад карпаратыўнай прыналежнасці асобы, а таксама ад асабістай адданасці рэжыму. У гэтых умовах і ствараюцца адпаведныя структуры вывучэння і прыстасавання гістарычных ведаў да мэтаў рэжыму, аб адной з якіх сёння даволі жорстка гаворыцца ў рэдакцыйным артыкуле маскоўскага часопіса «Новая і новейшая история»: «Сейчас становится все более ясным тот факт, что организация, по крайней мере академической, исторической науки на базе институтов является анахронизмом. Огромные коллективы со сложной структурой и иерархическим руководством удачно обслуживали потребности административно-командной системы. В них сложились психология коллективного эгоизма, неформальные родственно-кастовые профессиональные объединения, часто преследующие исключительно экономические цели».

Тое, што вымушаны ўсведамляць у Маскве, на жаль, у Менску не ўсведамляюць. Але для гутаркі аб тым, як нам рэарганізаваць сістэму гістарычнай навукі, як стварыць паўнацэнную, сфармаваную гістарычную навуку самастойнага этнасу, якой у беларусаў— скажу з усёю адказнасцю — няма, звярну ўвагу чытача толькі на пытанні выкладання гісторыі ў сярэдніх школах і ВНУ Беларусі, што блізка да аднаго з маіх прафесійных інтарэсаў, паколькі я шмат гадоў вывучаю гісторыю Беларусі, а ў ВНУ выкладаю замежную гісторыю (па якой спецыялізаваўся на гістарычным факультэце універсітэта), тэорыю і методыку гістарычнага даследавання і іншыя гістарычныя дысцыпліны.

Непасрэднай жа прычынай маіх нататак з'яўляецца друкаванне ў «Настаўніцкай газеце» 30 лістапада мінулага года «Канцэпцыі гістарычнай адукацыі ў сярэдняй школе Беларусі». Складзена яна калектывам гісторыкаў пад кіраўніцтвам і рэдакцыяй доктара гістарычных навук Міхася Біча. Выкладзеныя ў «Канцэпцыі» аналіз сённяшняга стану гістарычнай адукацыі ў сярэдняй школе рэспублікі, яе мэты, задачы і прынцыпы супадаюць з крытычнымі думкамі наконт вывучэння і выкладання гісторыі, якія неадначасова выказваліся ў беларускім і ўсесаюзным друку. У гэтым ліку і галоўная думка аб патрэбе складаць падручнікі з беларускіх пазіцый.

Але не магу згадзіцца з асобнымі палажэннямі «Канцэпцыі». Дэкларатыўна гучаць некаторыя яе патрабаванні, асабліва вось такое: «Тэорыя і метадалогія гісторыі павінна быць плюралістычнай і грунтавацца на творчым асэнсаванні і засваенні розных канцэпцый сусветна-гістарычнага працэсу». Каб працаваць над тэорыяй, метадалогіяй і, дадам, методыкай гістарычнага даследавання, перш за ўсё патрэбны падрыхтаваныя спецыялісты. Пакуль што такіх кадраў на Беларусі, мяркуючы па публікацыях, не бачна. Як сталы ўдзельнік Усесаюзных канферэнцый па крыніцазнаўстве і спецыяльных (дапаможных) гістарычных дысцыплінах, што адбываліся ў 1970—1980-ыя гады, бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што да апошняй такой канферэнцыі (травень 1990 г.) даследчыкаў з Беларусі там не было бачна. Толькі там, на апошняй канферэнцыі былі прадстаўлены першыя спробы асвятлення асобных аспектаў гэтых пытанняў. Як на канстатацыю гэтага прыкрага факта адрэагаваў на канферэнцыі былы дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР член-карэспандэнт АН БССР П. Петрыкаў? Паспрабаваў прывесці як доказ крыніцазнаўчай працы — і гэта сярод спецыялістаў па тэорыі і методыцы крыніцазнаўства! — выхад у свет публікацый пра рэўком і калектывізацыю на Беларусі, хоць гэта сведчыць не пра тэарэтыка-метадычную, а, хутчэй, пра археаграфічную працу.

Інакш не магло быць. Не было даследчыкаў па тэорыі і методыцы гістарычнага даследавання. Могуць запярэчыць мне: а чаму такія даследчыкі былі ў Маскве, Кіеве, Растове-на-Доне, Ленінградзе, Цверы, у той краіне, дзе быў Менск? А таму, шаноўнае грамадства, што ў Расіі і на Украіне не была перарванай сувязь між выхаванцамі колішніх універсітэтаў і класічных гімназій і вучнямі новых пакаленняў.

Другая заўвага да «Канцэпцыі» такая. Засмучае мяне патрабаванне вылучэння ў 10—11 класах сярэдняй школы асобнага курса гісторыі славянскіх народаў з уключэннем у яго гісторыі беларусаў, з пераробкай у ВНУ кафедраў гісторыі СССР у кафедры гісторыі славянскіх народаў. Ляскайце ў далоні, выдаўцы «Политического собеседника» і «Славянских ведомостей»! Такой прапазіцыяй, калі яна будзе прынята, замацуецца выкладанне ў школах і ВНУ суверэннай рэспублікі выкладанне гісторыі суседняга расійскага этнасу, якое пануе дасюль. У адрозненне ад нешматлікіх супрацоўнікаў кафедраў сусветнай гісторыі ВНУ кадры кафедраў гісторыі СССР, выхаваныя на працягу дзесяцігоддзяў на ідэі расійскай гісторыі як цэнтры ўсіх падзей сусветнай гісторыі, наўрад ці здолеюць выкладаць гісторыю славян інакш, чым з панславянскіх пазіцый. Яны прызвычаіліся кожную дробязь расійскай гісторыі разглядаць шырэй за асноўныя факты гісторыі іншых этнасаў (што там казаць пра гісторыю беларусаў). Гэтай мэце падпарадкаваны стосы манаграфій, падручнікаў, зборнікаў артыкулаў. Русацэнтрычнай ідэі падпарадкаваны і ўсе складзеныя на працягу 1950—1960-ых гадоў шматтомнікі па гісторыі славянскіх краін, бо краіны гэтыя апынуліся ў сацыялістычным лагеры, і трэба было знайсці гістарычныя доказы наканаванасці гэтых краін назаўсёды заставацца па гэты бок жалезнай заслоны.

Іншага пункту погляду нельга знайсці ў гістарычнай літаратуры СССР, якая была выдадзена на працягу апошняга паўстагоддзя і якой павінны будуць карыстацца выкладчыкі ў ВНУ і настаўнікі школ. Запэўніваючы, быццам будзе выкладацца гісторыя славянскіх этнасаў, мы апынімся ў палоне выкладання гісторыі славянскіх дзяржаў і кіруючых імі этнасаў — рускага, сербскага, чэшскага, якім было лёсам даручана весці за сабою іншыя, не здольныя ўтрымаць дзяржаўнасць, этнасы. Гісторыя ж гэтых меншых этнасаў, у тым ліку і беларусаў, застанецца за межамі ўвагі і выкладчыкаў і вучняў.

Сёння пасля распаду дзвюх шматнацыянальных краін, у якіх пераважала ўлада эліты «старэйшых братоў» — рускага і сербскага, заклік да вылучэння ў адукацыі гісторыі славянскіх краін ці этнасаў уяўляецца мне анахраністычным. Моўнае адзінства і адзінства паходжання славян, што рэальна існуюць,— гэта зачэпка для апраўдання ізаляцыяністкай ідэі панславізму. Калі ў дачыненні да неславянскіх этнасаў гэтай зачэпкі не было, знаходзіліся іншыя. Ці не ўсё роўна, на кароткім ці на доўгім ланцугу — на ідэі адзінанепадзельнасці трох усходнеславянскіх этнасаў, ці на ідэі моўнага адзінства трымаць усіх славян? Ланцуг застанецца ланцугом, які не дасць беларусам бачыць далей за гэтае адзінства, які адмяжоўвае гісторыю беларусаў ад іншых, неславянскіх этнасаў, нават суседніх.

А што можна супрацьставіць састарэлай прапанове вывучаць гісторыю Беларусі ў кантэксце перш за ўсё гісторыі славян, якая зыходзіць не з унутранага, а са знешняга падабенства гістарычных лёсаў розных па сваім гістарычным развіцці этнасаў? Ёсць што. Прапаную вывучаць гісторыю ў чатырох курсах: гісторыі Беларусі, а ў сусветнай гісторыі — асобна гісторыю асноўных этнасаў Заходняй, Паўночнай і Цэнтральнай Еўропы, Амерыкі і Аўстраліі, асобна гісторыю меншых этнасаў Еўропы і асобна гісторыю краін так званага «азіяцкага» спосабу вытворчасці — Расіі, Азіі, Афрыкі. Калі прадмет першых двух курсаў больш-менш ясны, то змест трэцяга і чацвёртага курсаў паспрабую растлумачыць падрабязней.

**У курсе гісторыі меншых этнасаў Еўропы, якія рабіліся ахвярамі агрэсіі і асіміляцыі з боку большых этнасаў, прапаную разглядаць згодна распрацаванаму мною тэматычнаму плану гісторыі меншых этнасаў некалькіх рэгіёнаў, з-за асаблівасцяў іхняга развіцця:**

**1. Атлантычнага рэгіёна (меншыя этнасы Вялікабрытаніі, Францыі, Пірэнейскіх краін, Нідэрландаў, Бельгіі).**

**2. Альпійска-Карпацкага рэгіёна (меншыя этнасы Аўстрыі, Італіі, Швейцарыі, Чэха-Славакіі, Венгрыі).**

**3. Скандынаўскага рэгіёна.**

**4. Усходне-Балтыйскага рэгіёна (этнасы Фінляндыі, Эстоніі, Латвіі).**

**5. Усходнееўрапейскага рэгіёна (этнасы Летувы, Польшчы, Украіны, Малдовы).**

**6. Балканскага рэгіёна (уключаючы этнасы Румыніі).**

**Галоўная ідэя прапанаванага курса—параўнаўчае вывучэнне развіцця меншых этнасаў, іхняга нацыянальнага і нацыянальна-вызваленчага руху. Дапаможнікамі пры падрыхтоўцы курса павінны быць у першую чаргу працы гісторыкаў тых этнасаў, якія будуць вывучацца, а таксама працы, што зыходзяць з тых краін, улады якіх не былі непасрэдна зацікаўленымі ў агрэсіі і асіміляцыі дадзеных этнасаў. Для асвятлення гісторыі Альпійска-Карпацкага, Усходнебалтыйскага і ў значнай ступені Усходнееўрапейскага рэгіёнаў наўрад ці можа быць цалкам выкарыстанай нямецкамоўная літаратура, для гісторыі этнасаў Балканскага, Усходнееўрапейскага, Усходнебалтыйскага рэгіёнаў наўрад ці можна лічыць аб'ектыўным асвятленне яе рускамоўнай літаратурай.**

Пры выкладанні гэтага курса лепей за ўсё арыентавацца на калектывы кафедраў сусветнай гісторыі ВНУ, хоць яны, як вядома, па ўсёй Савецкай краіне маламоцныя з-за хранічнай прынцыповай няўвагі да іх з боку ўлад на працягу дзесяцігоддзяў.

Наконт чацвёртага з пералічаных мною курсаў гісторыі. Аўтары вышэйзгаданай «Канцэпцыі» прапануюць засноўваць тэорыю і метадалогію гісторыі, як мы памятаем, на творчым асэнсаванні розных канцэпцый сусветна-гістарычнага працэсу, сярод якіх называюць «найперш дыялектыка-матэрыялістычнае разуменне гісторыі (у тым ліку і плённыя ідэі марксізму)». Думаю, што трэба выкарыстаць проста «матэрыялістычнае разуменне гісторыі», бо замежныя філосафы прыраўноўваюць дыялектыку да сафістыкі...

Разумею, што прапанаванае мною выкладанне гісторыі патрабуе больш намаганняў ад навукоўцаў, чым простае перафарбаванне кафедраў гісторыі СССР у кафедры гісторыі славян, як гэта прапануе М. Біч і ягоныя сябры. Але пара супрацоўнікам кафедраў СССР і іншым іх калегам па вывучэнні брацца за пабудову новай, паўнацэннай гістарычнай навукі і гістарычнай адукацыі. Ёсць у мяне яшчэ меркаванне—наконт пажадання аўтараў «Канцэпцыі» даручыць складанне новых падручнікаў і дапаможнікаў па гісторыі, а таксама павышэнне кваліфікацыі настаўнікаў «вопытным педагогам ВНУ» і «грамадазнаўцам з АН». Здаецца, мы валодаем кароткай памяццю і забыліся, што менавіта гэтыя «вопытныя кадры» адлучылі беларусаў ад гісторыі Беларусі. Таму перш чым даваць такія адказныя даручэнні, мэтазгодна скласці кампетэнтныя камісіі, у склад якіх уключыць тых гісторыкаў, якія супраціўляліся дэнацыяналізатарскаму курсу. Камісіям тым варта даручыць так званую верыфікацыю (пераатэстацыю) навуковых і выкладчыцкіх кадраў ВНУ і НДІ грамадскага профілю.

Зразумела, пераважную большасць гісторыкаў з кандыдацкімі і доктарскімі дыпломамі і дацэнцкімі і прафесарскімі атэстатамі гэта не задаволіць. Яшчэ б: згодна падлікам Ігара Шаўчука («ЛіМ», 12.04.1991 г.) у рэспубліцы ў галіне гістарычнай навукі працуе больш за 1200 чалавек, у тым ліку 80 дактароў і 600 кандыдатаў навук. З ліку гэтых 680-ці чалавек у 60—80-я гады абараніліся 662 чалавекі. З агульнай жа колькасці дысертацый каля 90 % былі прысвечаны савецкаму перыяду гісторыі Беларусі, прычым больш за 58% былі абаронены па гісторыка-партыйнай тэматыцы.

Іншага выйсця з крызіснага становішча, у якім апынулася беларуская гістарычная навука, я не бачу.

**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ,**
**выкладчык Пецярбургскага інстытута культуры, старшыня Рады Беларускага грамадскага культурнага таварыства ў Пецярбурзе.**

ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ—33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА— 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.





Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12